Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ — Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 15 (4661) 13 красавіка 2012 г.

## Думка пісьменніка

## Выпрабаванне



Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

— Кожны час, кожная эпоха прыносіць людзям выпрабаванне. Выпрабаванне на стойкасць, на сілу духу, на людскасць. Пра гэта думаецца сёння яшчэ больш абвострана, бо сама гісторыя, якая праходзіць перад вачамі кожнага, хто дакранаецца ў гэтыя дні да святых кніг, ставіць адвечныя пытанні пра любоў, спагаду, пра барацьбу дабра са злом.

І для нашай ціхамірнай Беларусі ў гэтыя дні болем адгукаецца трагедыя ў мінскім метро год назад, кроў і слёзы ні ў чым не вінаватых людзей, страшнае слова "тэрарызм".

У галаву не ўкладваецца: з якіх гэта нялюдскіх мэт трэба адпраўляць на смерць жанчын і дзяцей, старых і малады́х, якія хвіліну таму не маглі і падумаць, што раптам стануць калекамі, а то і зусім пакінуць гэты свет. Чаму так сталася, што не на вайне, не ў адкрытым баі павінны гінуць людзі, якія нікому не прычынілі зла? І чаму так лёгка тыя, хто ажыццяўляюць гэтыя д'ябальскія акты, распараджаюцца жыццямі, якія падарыў людзям Гасподзь?

Тэрарызм — гэта ракавая пухліна нашага часу. Калі яе не выдаліць, чалавецтва ўбачыць свой скон. І ніякія разважанні ці апраўданні тэрору не знойдуць водгуку ў збалелых душах тых, хто пацярпеў, іх родных і блізкіх.

У гэтым выпрабаванні праяўляецца і маральная сіла тых, хто гатовы кінуцца на дапамогу, і страх, і разгубленасць, і подленькая радасць. Нібыта нябёсы пытаюцца: хто ж вы, людзі, дзе ў вас тое святое месца, якое называецца душа, а дзе чорная яма, поўная гною і бруду?

Літаратура заўсёды заклікала да сумлення, праўды, справядлівасці, спагады. І ў Год кнігі варта яшчэ раз нагадаць пра высокія пастулаты, якія сцвярджаліся ад першай кнігі і да сённяшніх твораў нашых лепшых пісьменнікаў.

Час выпрабоўвае жорстка і бязлітасна. Звернемся ж да высокіх дум і чыстых помыслаў на адвечнай і нялёгкай нашай дарозе да Храма.

# «Дзякуй вам за сонца...»

**Персанальная выстаўка работ Генадзя Сухамлінава "Святло любові Тваёй" экспанавалася ў васямнаццаці гарадах і мястэчках Беларусі. А зусім нядаўна сорак маштабных палотнаў жывапісца, натхнёнага рысціянскайтэматыкай, сталіся заўважнай і ўражлівай часткай "Вербнага кірмашу", які штовесну ладзіцца ў сталічным Палацы мастацтва.**

Святлана БЕРАСЦЕНЬ



*"Падзяка" (частка трыпціха).*

Уваход у палац быў бясплатны, і наведвальнікі, як заўважыў Генадзь Уладзіміравіч, па некалькі разоў прыходзілі паглядзець на яго карціны. Многія былі ўражаны да глыбіні душы, дзякавалі "светланоснаму мастаку", расчуліўшыся да слёз. Пакідалі ў "Кнізе водгукаў" радкі са Святога Пісання, вершы, словы захаплення. Між іншым, у Г. Сухамлінава ўжо ладны стос такіх сшыткаў, якія падарожнічаюць па выставачных залах разам з палотнамі. Запісы, зробленыя рознымі гледачамі, вельмі падобныя. І мастака гэта толькі радуе: "Для мяне дарагое прызнанне зусім розных людзей, якое сведчыць, што яны стаміліся ад бездухоўнага жыцця, прагнуць светлых высокіх уражанняў і шчаслівыя да слёз, калі знаходзяць нешта для душы. Яны ідуць на святло, шчыра хінуцца да Бога".

Манументальнае палатно Генадзя Сухамлінава "Падзяка", здатнае прыцягнуць позірк нават гледача далёкага ад мастацтва, сам аўтар называе сваёй праграмнай работай. Немажліва не заўважыць у яе сюжэце выразна акрэслены біблейскі матыў вяртання блуднага сына. Але высокі сэнс усім вядомай хрысціянскай прыпавесці мастак суправаджае жыццёвай мудрасцю звычайнага зямнога чалавека, які аднойчы сустрэў на раздарожжы Бога, укленчыў перад ім, пакаяўся ў грахах і прызнаўся ў сваёй шчырай удзячнасці да Збаўцы роду людскога. Сонца, якое напаўняе ўсю прастору карціны, — залоціць спелыя каласы збажыны, лашчыць пялёсткі рамонкаў ды валошак на ўскрайку поля, грэе крылцы нястомных чмялёў, песціць зямлю і раскрывае бясконцасць нябесных далячыняў над намі, — увасобленае ў светланоснай пастаці Хрыста. Чалавек перад ім — гэта, пэўна, сам мастак...

"Падзяка" ўспрымаецца як самадастатковы твор. Але насамрэч гэта цэнтральнае палатно трыпціха. Левая частка яго — "Пакроў найсвятой Багародзіцы" — нібы погляд з нябеснай вышыні на Беларусь з мініяцюрнымі выявамі яе беласценных сабораў і цэркваў, на зялёны край лясоў ды балот, над якім распасцірае свой ахоўны пакроў Маці Божая. Правая частка трыпціха, "Дарога", злучае спрадвечныя каштоўнасці жыцця зямнога — пастаці бацькоў, дары вясковага саду — і нябесную цвярдыню, працятую чыстым святлом.

Святло, асабліва жыццядайнае сонечнае, для Г. Сухамлінава — самы сакральны і ў той жа час зусім рэальны вобраз. "Я стараюся глядзець на свет прасветленымі вачамі, — прызнаецца ён. — Нямала мастакоў, якія пераканаsuccessfullyныя, што свет трэба адлюстроўваць такім, які ён ёсць. І шэрым, і чорным — як у жыцці. А я лічу, што



*"Спаса-Еўфрасіннеўская царква" (напісана ў Полацку з натуры).*

не трэба засяроджвацца на шэрым і чорным: людзі гэта ўбачаць вакол сябе самі, без дапамогі мастака, без "падказкі". Мастаку наканавана ў навакольным жыцці бачыць і вылучаць светлае і праз сваю творчасць звяртаць на гэта ўвагу людзей. Сам Гаспад стварыў чалавека паводле вобразу і падабенства свайго. А прырода? Таксама цудоўнае стварэнне Божае. Нават звычайны матылёк — сапраўдны цуд, гэта ж кветка, якая ўмее лятаць!"

Ураджэнец Віцебска Г. Сухамлінаў скончыў там знакаміты "худграф", займаўся ў вядомых майстроў акварэлі Ф. Гумена, І. Сталярова. Ужо 37 гадоў выкладае ў Мінскай дзяржаўнай гімназіі-каледжы мастацтваў. Генадзь Уладзіміравіч гадаваўся ў атэістычны савецкі час і да Бога прыйшоў самастойна. Праз мастацтва. Вывучаючы храмавую архітэктуру, цікавіўся той сутнасцю, якая абумоўлівала каноны пабудовы: напрыклад, паглыбляўся ў сімволіку архітэктурных элементаў царкоўнага купала. Задумваўся... "Чалавек тонкі, праніклівы, назіральны рана ці позна заўважае: нічога выпадкова не бывае, мы ўсе жывём пад кантролем найвышэйшай нябеснай сілы. І не ўласны мозг чалавека рэгулюе працэс яго творчасці, а "касмічны камп'ютар", які ўплывае на талент і азарэнне. Нялёгка ўсвядоміць, што душа наша вечная і аднойчы кожнаму давядзецца адказваць за свае зямныя ўчынкі. Нялёгка корпацца ва ўласных правінах ды грахах, каб прыйсці да пакаяння. Цяжка быць да канца шчырым і сумленным перад сабой. Але трэба імкнуцца хаця б наблізіцца да ідэалу! Не мітусіцца з-за дробязей, вучыцца дараваць, не асуджаць, не любавацца сабою і не зайздросціць, наводзіць чысціню ў сваіх памкненнях і думках, старацца ўласным прыкладам падтрымліваць жыццядайнае святло ў душы і цеплыню ў сэрцы, без чаго наша зямное існаванне проста страчвае сэнс", — разважае Генадзь Сухамлінаў. Светланосны дух пранікае і ў карціны, якія сам жывапісец называе патрыятычнымі. Гэтую шматаблічную тэму ён асэнсоўвае праз повязі з сям'ёй і прыродай, праз любоў да простых жыццёвых рэчаў — у пейзажах і нацюрмортах.

> *Людзі стаміліся ад бездухоўнага жыцця, прагнуць светлых высокіх уражанняў і шчаслівыя да слёз, калі знаходзяць нешта для душы. Яны ідуць на святло, шчыра хінуцца да Бога.*

"На вашых палотнах сканцэнтраванае святло Божае, і дабрадатнасць Гасподня, і хлеб наш надзённы, і пах бацькоўскага дома... Дзякуй вам за вашы работы, што прымусілі мяне спыніцца, задумацца, хто я і з кім я... Ад вашых карцін на душы робіцца святлей, часцінка гэтага святла адразу пранікае ў стомленую душу... Дзякуй вам за сонца", — пішуць у "Кнізе водгукаў" удзячныя госці выстаўкі "Святло любові Тваёй".

## У нумары:

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народных артыстаў Расіі Марка Разоўскага і Уладзіміра Бярэзіна з юбілеямі. У віншавальных лістах — словы павагі, прызнання і найлепшыя пажаданні.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка выказаў спачуванні ў сувязі са смерцю народнага артыста РСФСР Анатоля Равіковіча яго родным, блізкім і калегам. "Беларускія гледачы цанілі Анатоля Юр'евіча як выдатнага майстра тэатра і кіно, чыя творчасць несла людзям радасць і яшчэ мацней збліжала нашы народы", — сказана ў спачуванні.

✔ У Кракаве адбыўся беларуска-польскі "круглы стол": "Спадчына і яе ахова". На пасяджэнні, якое праходзіла пад старшынствам кіраўнікоў нацыянальных камісій па справах ЮНЕСКА Беларусі Уладзіміра Шчаснага і Польшчы Анджэя Ратэрмунда, былі абмеркаваны перспектывы беларуска-польскага супрацоўніцтва ў галіне захавання аб'ектаў, занесеных у спіс Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА, пытанні дзейнасці музеяў па зборы і захаванні мастацкіх калекцый, а таксама пытанні захавання архітэктуры савецкай эпохі.

✔ Беларускі саюз журналістаў прыняў спецыяльны зварот да міжнароднай журналісцкай суполкі ў сувязі з санкцыямі Еўрасаюза ў дачыненні да 13 беларускіх журналістаў, абвешчаных "невыязнымі". У звароце адзначана, што гэты прэцэдэнт мае небяспечны характар, з'яўляецца парушэннем хартыі свабоды прэсы.

✔ Тэлеканал "Беларусь-ТВ" пачаў вяшчанне на спутніку HotBird, у зоне пакрыцця якога знаходзяцца Еўропа, Амерыка, Блізкі Усход, Цэнтральная Азія, Індыя, Паўночная Афрыка. У выніку беларускія праграмы стануць даступнымі для больш як 350 млн. гледачоў.

✔ Мемарыяльны знак па ўвекавечанні памяці ахвяр трагедыі на станцыі метро "Кастрычніцкая" адкрыты ў гадавіну сумных падзей ля ўвахода на станцыю. Знак уяўляе бронзавую стэлу з выявай 15 хваляў, вырваных з плыні — па колькасці загінуўшых у тэракце людзей. Аўтар працы — скульптар Канстанцін Селіханаў. Адначасова мемарыяльная дошка была адкрытая ў Крыпце Храма Усіх Святых у памяць бязвінна забітых у Айчыне нашай. Там жа адбыліся паніхіда і мітынг-рэквіем.

✔ Экспанаты з калекцый музея Гомельскага палаца-паркавага ансамбля будуць прадстаўлены за мяжой. У музеі французскага горада Клермон-Ферана прэзентуюць выставачны праект "Буслы", прысвечаны беларускай традыцыйнай культуры. У некалькіх польскіх гарадах запланаваны выстаўкі народнай іконы Гомельшчыны. А ў музеі бурштыну Калінінграда будзе прадстаўлена калекцыя камінных гадзіннікаў, якую збіралі былыя ўладальнікі гомельскага палаца ў XIX стагоддзі.

✔ Дні культуры Беларусі прайшлі ў Туркменістане. У межах святкавання была прадстаўлена выстаўка з экспанатаў музея Вялікай Айчыннай вайны, паказаны беларускія кінастужкі. У кінаканцэртным цэнтры "Туркменістан" выступілі народны музычны ансамбль дзяржаўнай філармоніі "Свята", вакальная група "Чысты голас", народныя артысты Беларусі Аляксандр Ціхановіч і Ядзвіга Паплаўская.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Зямля Валожынская

**Марына ТУР**

У Валожынскім раённым цэнтры культуры быў дадзены старт Мінскай абласной акцыі "Кніга — крыніца ведаў", прысвечанай Году кнігі.

Гасцямі валожынцаў сталі першы намеснік праўлення Мінскай абласной арганізацыйнай структуры "Беларуская таварыства «Веды»" Ігар Лінкін, першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Пашкоў, сакратар Мінскага абласнога аддзялення СПБ Уладзімір Ласенка, народны артыст Рэспублікі Беларусь, намеснік старшыні Саюза кампазітараў Беларусі Эдуард Зарыцкі, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Леанід Нікольскі, спявачка, удзельніца Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар" у Віцебску Жанна Півавварава.

У рамках адкрыцця акцыі былі адзначаны дванаццаць пераможцаў раённага конкурсу "Маладыя галасы-2012", які ўжо больш як дзесяць гадоў ладзіцца па ініцыятыве аб'яднання "Рунь". З уласнымі творамі выступілі пісьменнікі з Валожыншчыны.

Да слёз хвалюючым момантам стала перадача народнаму літаратурна-мастацкаму аб'яднанню "Рунь" гармоніка заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь, вядомага паэта і журналіста, былога старшыні Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Рыгора Сакалоўскага. Яго ўручыў унук паэта Яўген Сакалоўскі. Яшчэ адзін падарунак — кнігі беларускіх аўтараў — быў перададзены раённай бібліятэцы і бібліятэцы вайсковай часці.

Лагічным завяршэннем мерапрыемства стала песня-гімн "Зямля Валожынская", напісаны кампазітарам Эдуардам Зарыцкім на словы ўдзельніка "Руні", таленавітага валожынскага паэта Сяргея Маляўскага. У ім — пашана і прызнанне слаўнаму куточку Міншчыны, які і даў старт такой значнай абласной акцыі.

*З нагоды*

# «Стары Тыфліс» запрашае творцаў

**Раіса СІНЯЎСКАЯ,**
**фота Кастуся Дробава**



*Дырэктар рэстарана "Стары Тыфліс" Алена Высоцкая вітае гасцей.*

Калі б грузінскі паэт Важа Пшавела завітаў у сённяшні Дом літаратара, ён, пэўна, не напісаў бы такіх радкоў: "Спявай галодны. Вось тады і станеш ты паэтам". Айчынным мастакам слова ў гэтым сэнсе заўжды шанцавала: было ў іх і славутае "Мутнае вока", і "нефармальныя" сустрэчы ў пісьменніцкім доме… Таму не дзіўна, што зрэдчас хтосьці з прадстаўнікоў старэйшага пакалення не-не ды ўздыхне: "Вось раней было дзе пасядзець, а цяпер…" А нехта прыгадае і падарожжы па саюзных рэспубліках, дзе беларускіх творцаў прымалі як найжаданых гасцей, распавядзе пра ўсходнюю гасціннасць, разнастайнасць страў ды напояў… Вядома ж, паэтычная натура патрабуе адпаведнай атмасферы: думаць над чарговым геніяльным радком прыемна з келіхам Хванчкары пад ціхія нацыянальныя спевы, а святкаваць выхад новай кніжкі, відаць, ніхто б не адмовіўся ў кампаніі сяброў, каштуючы найсмачнейшы шашлык…

На жаль, не ў кожнага беларускага літаратара ёсць па цяперашнім часе магчымасць паехаць у тую ж Грузію, але пабываць у старым Тбілісі, або Тыфлісе, можна нават не выходзячы з Дома літаратара, бо з лістапада 2011 года тут працуе кавярня "Стары Тыфліс". Завітаўшы сюды, нібыта сапраўды патрапляеш у атмасферу старога горада: можа, гэта таму, што ўсё — ад каменных пліт на падлозе да дрэва і тканіны крэслаў, ад фотаздымкаў на сценах і (галоўнае!) да шэф-повара — прывезена з Грузіі. Не дзіўна, што гэта адзінае месца ў сталіцы, дзе можна пакаштаваць сапраўдны хачапуры ці выпіць ліманаду, які толькі ўчора даставілі з Тбілісі. Бадай, адзіная часцінка Беларусі — чароўныя дзяўчаты-афіцыянткі, якім, дарэчы, вельмі пасуюць грузінскія строі. Кожны адчуе сябе тут чаканым госцем: месца хопіць і на вялікую кампанію, і на прыватнае "творчае спатканне".

Магчыма, менавіта "Стары Тыфліс" адродзіць традыцыю пісьменніцкіх сустрэч у кавярні, тым больш што яго гаспадары абяцаюць у хуткім часе скідкі для літаратараў!

Гісторыя беларуска-грузінскіх літаратурных сувязей — багатая. З грузінскай на беларускую мову перакладалі Юрка Гаўрук, Уладзімір Караткевіч, Сяргей Грахоўскі, Уладзімір Паўлаў, Алесь Звонак, Мікола Хведаровіч, Мікола Мятліцкі ды іншыя. Магчыма, сустрэчы ў "Старым Тыфлісе" натхняць айчынных творцаў на новыя звароты да грузінскай паэзіі і каля адноўленага фантана ва ўтульным дворыку Дома літаратара ўжо ўлетку будуць гучаць вершы!

*Да 130-годдзя Якуба Коласа*

# Шляхі песняра

Выстаўка "Шляхамі Якуба Коласа — дарогамі Гомельшчыны" праходзіць у музеі гісторыі Гомеля. Тут прадстаўлены каля 100 экспанатаў з фонду Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа: асабістыя рэчы класіка, выданні твораў на розных мовах, а таксама графічныя працы Лазара Рана і ілюстрацыі да паэмы "Новая зямля", зробленыя народным мастаком Беларусі Васілём Шаранговічам. Асобная ўвага — экспанатам, якія паказваюць творчую і гістарычную сувязь паміж Якубам Коласам і Гомельшчынай. Якуб Колас часта бываў у гэтых мясцінах, працуючы над аповесцю "Дрыгва".

**Анастасія КРАЯВАЯ**

*Выстаўкі*

# Наталенне духоўнасцю

Галерэя "Панарама" Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі прадставіла фотавыстаўку Віталя Раковіча "Свята беларускіх храмаў". Аснова экспазіцыі — каля 80 здымкаў сакральнай архітэктуры. Аўтар працуе ў стылі неафатаграфікі, дзе выява, створаная пры дапамозе фотаапарата, з'яўляецца толькі асновай для далейшай работы і стварэння закончанага мастацкага твора.

Наша Беларусь — краіна даўняй і багатай культуры. Тут склаліся самабытныя, высокамастацкія традыцыі культавага дойлідства. Архітэктура храмаў нясе адбітак духоўнай спадчыны нацыі.

Храм, асабліва беларускі, — з'ява неадназначная. Частка старажытнасці, да якой нельга дакрануцца, і пры гэтым — духоўнай чысціні. Таму абраная тэма вельмі няпростая. Звяртаючыся да тэмы, Віталь Раковіч усталяваў для сябе надзвычай высокую планку. Аднак справіўся. Яго праект адрознівае надзвычайнае, якасць прадстаўленых на выстаўцы работ: касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, касцёл Св. Мікалая, Лютэранская кірха Св. Іаана, капліца-пахавальня Святаполк-Мірскіх, Мураванкаўская царква-крэпасць…

І гэта не проста выявы храмаў. Віталь Раковіч уклаў у свае працы характар, веліч і багацце беларускай душы. Дзякуючы такім выстаўкам разумееш: беларускае мастацтва не існуе — яно жыве…

**Анастасія САРАЧЫНСКАЯ**

*Памяць*

# Час вяртання

**Васіль СНУСЦІК**

Вершы польскай паэтэсы Віславы Шымборскай добра вядомыя ў Расіі і Беларусі. Іх чыталі яшчэ да таго часу, як творцу адзначылі Нобелеўскай прэміяй за літаратуру (1996 год).

На рускую мову паэзію празорлівага мастака слова перакладалі Ганна Ахматава, Давід Самойлаў. Пазней — Наталля Астаф'ева, Асар Эппель. На беларускай мове вершы Шымборскай загучалі ў перастварэнні Еўдакіі Лось, Язэпа Семяжона, Аляксея Пысіна, Ніны Мацяш.

Віслава Шымборская нарадзілася ў Курніку (раней — Бнін) паблізу Познані — 2 ліпеня 1923 года. Яе не стала ў самы першы дзень лютага 2012 года — пакінула жыццё зямное ў Кракаве.

У 1991-м у Мінску пабачыла свет яе кніга "Свет, варты вяртання". Вельмі аптымістычная, сапраўды паэтычная назва. Асабліва калі мець на ўвазе тое, што Шымборская настойліва і востра разбірала ўсе грахі свету, пісала верлібры, лірыка яе была напоўнена драматычнымі вышукамі. Іранічна, гратэскава аглядаючыся вакол сябе, паэтэса яшчэ ў пачатку творчага шляху сказала пра пасляваенны лёс Польшчы: "Наш ваенны трафей — спасціжэнне свету". Ёй належыць і наступнае перакананне: "Адкрываю свет другім, выпраўленым выданнем".

Сапраўдная паэзія — гэта трывога. Але яшчэ — і вера. Віславе Шымборскай Нобелеўская прэмія была прысуджана "за паэзію, якая з вызначальнай дакладнасцю апісвае гістарычныя і біялагічныя з'явы ў кантэксце чалавечай рэчаіснасці". На шчасце і веру, яна доўжыцца, дзякуючы высокім перакладам, і ў беларускім пругожым пісьменстве.

*Літабсягі*

# Споведзь графіні Храптовіч

**Мемуары графіні-эмігранткі Вольгі Храптовіч-Буцянёвай, выдадзеныя ўпершыню на беларускай мове, былі прэзентаваны ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў. Гэта стала магчымым дзякуючы самааддана́й працы бацькі і дачкі, Яўгена і Таццяны Лецкаў, якія расшукалі і пераклалі французскі тэкст мемуараў, каб пасля надрукаваць іх за ўласны кошт.**

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

Як гэта ні сумна прызнаваць, але менш за ўсё сёння вядома цікаўнаму чытачу рэальная беларуская гісторыя першай паловы ХХ стагоддзя. Тым большую каштоўнасць уяўляюць успаміны, прысвечаныя аднаму з яе самых драматычных перыядаў — 1939 — 1942 гадам.

Высокаадукаваная прадстаўніца старажытнага расійскага дваранскага роду, Вольга Аляксандраўна пазнаёмілася з графам Апалінарыем Храптовічам-Буцянёвым у Парыжскай эміграцыі. Разам з ім выехала да яго маёнткаў на Навагрудчыне — у 1930-х гадах гэта былі польскія тэрыторыі. Аднак кола гісторыі ўжо рабіла свой няўмольны паварот. На землі Заходняй Беларусі прыйшла Савецкая ўлада, графы Храптовічы як прадстаўнікі "класа эксплуататараў" былі рэпрэсіраваныя.

Мемуары Вольгі Аляксандраўны, названыя аўтаркай "Злом", — аповед пра лёс двух немаладых людзей, якія, патрапіўшы пад жорны эпохі, з неверагоднай стойкасцю пераносяць усе выпрабаванні, дзеля таго, каб выжыць, не страціць чалавечай годнасці і — зноў сустрэцца...

Навагрудская турма, занядбаны калгас у казахскіх стэпах, дзе высяленцы "з Польшчы" разам з даведзенымі да апошняй ступені беднасці сялянамі працуюць за міску поліўкі і адзнаку аб працадні, варты жалю побыт гараджан Акцюбінска і Ташкента, тыф, вайсковы лагер палякаў, з якіх мусіць быць сфарміраваная армія Андэрса дзеля саюзніцкай дапамогі краінам антыгітлераўскай кааліцыі… Апісанні жыцця і нягод людзей, з якімі графіню звёў лёс, — яркія і поўныя, іншы раз жахлівыя ў сваёй дакладнасці. Аднак гуманістка Вольга Храптовіч здольная бачыць і праяўленні незвычайнай нязломнай мужнасці, і неверагодную сумленнасць, дабрыню. Яна не падзяляе людзей на класы і саслоўі, не выхваляе адзін народ перад іншымі, не мае злосці на тых, хто вымушаны дзеля захавання ўласнага жыцця быць побач з ганіцелямі. І такая тактоўнасць і талерантнасць надта прыцягальныя.




Вяртанне цікавага твора ў беларускую літаратуру сёння, калі, нарэшце, для нас прыйшоў час "збіраць" раскіданае кімсьці "каменне", — цалкам натуральна. Выступаючы падчас прэзентацыі, Яўген Лецка выказаў спадзяванні, што споведзь графіні Храптовіч будзе прынятая чытачом да сэрца і душы. Хаця б дзеля таго, каб больш на нашую бласлаўлёную зямлю ніколі не абрынуліся тыя пакуты, праз якія давялося прайсці героям кнігі.

*Артлінія*

# Цуды, асвечаныя Небам

Лана ІВАНОВА,
фота Віктара Кавалёва

**Выстаўка "Шануем вобраз Твой святы..." адкрывалася ва ўзнёслай атмасферы, напоўненай малітоўнымі спевамі. Выступалі клірасны хор храма святой праведнай Софіі Слуцкай (рэгент — Наталля Валькова), камерны хор пад кіраўніцтвам Жаны Філіповіч. На вернісаж былі запрошаныя кіраўнік праекта "Міжнародны фестываль праваслаўных спеваў", дацэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Ларыса Густова, акцёр тэатра і кіно Яўген Піменаў, іншыя творчыя асобы, якія не ўяўляюць сваю прафесійную дзейнасць без святла духоўнага, без хрысціянскага жыцця.**

Месцам гэтай урачыстай падзеі стала сталічная мастацкая галерэя "Універсітэт культуры". А ладзілася яна ў межах сёлетняга маштабнага праекта "Святую Софію ўславім!", прысвечанага 400-годдзю памяці святой праведнай Софіі Слуцкай — Соф'і Юр'еўны Радзівіл (Алелькі). Выстаўку арганізавалі Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў, Праваслаўны прыход храма святой праведнай Софіі Слуцкай Мінскай Епархіі, галерэя "Свет праваслаўнай творчасці" Беларускага Экзархата Рускай Праваслаўнай Царквы.

Экспазіцыя "Шануем вобраз Твой святы..." размясцілася ў самым ціхім і ўтульным куточку галерэі — яе камернай зале, дзе кожны наведвальнік хаця б на некалькі хвілін мог застацца сам-насам з творчасцю, працятай невытлумачальным святлом духоўнай чысціні, святасці. Для большасці гледачоў гэта была ўнікальная мажлівасць убачыць рукатворныя цуды, асвечаныя Небам. Незвычайная вясновая выстаўка ў цэнтры Мінска прадставіла хрысціянскія абразы, аправы для якіх выканала матушка Святлана Семашкевіч з царквы святой прападобнай Еўфрасінні Полацкай — храма, які знаходзіцца ў гарадскім пасёлку Радунь на Гродзеншчыне. У работах матушкі Святланы спалучаюцца розныя тэхнікі: гафт, вышыўка, аплікацыя з выкарыстаннем парчы, аксаміту, бісеру, стразаў. Нязменныя ў яе творчасці толькі Божая іскра, Вера і Любоў.

Праменьчык сонечнага таленту дадалі ў экспазіцыю дэкаратыўныя вітражныя скульптуры, створаныя мастаком Іаанай (Жанетай) Шыдлоўскай. У спалучэнні рознакаляровага шкла і пластычнага металу нарадзіліся пазітыўныя казачныя аб'екты: "Рыба", "Паўлін", "Музыка". Колькі ў іх дабрыні, святла і кранальнай, па-дзіцячаму шчырай святочнай радасці!



*Аправа да абраза Божай Маці "Казанская" (парча, аксаміт, бісер, стразы, вышыўка), створаная Святланай Семашкевіч.*

*Повязі*

# Занатаваная спадчына

Раіса МАРЧУК,
фота Кастуся Дробава

**"Нявінных вачэй няма" — пад такою назваю ў Музеі гісторыі горада Мінска адкрылася выстаўка польскага фотамастака Войцеха Вільчыка. Яна арганізавана сумесна з Польскім інстытутам у Мінску і галерэяй "Атлас мастацтва" (Лодзь, Польшча).**



*Сінагога (на пярэднім плане) у г. Дамброва-Тарноўска Малапольскага ваяводства.*

У экспазіцыі прадстаўлена каля 20 фотаработ Войцеха Вільчыка — фатографа, аўтара крытычных артыкулаў і эсэ, выкладчыка фоташкол. Ён нарадзіўся, жыве і працуе ў Кракаве, з'яўляецца адным з найбольш яскравых прадстаўнікоў кірунку "новай дакументалістыкі" ў польскай фатаграфіі.

Упершыню праект "Нявінных вачэй няма" быў паказаны ў галерэі "Атлас мастацтва" тры гады таму і выклікаў вялікую цікавасць, затым яго прадставілі ў многіх музеях і галерэях Польшчы і за яе межамі. Сам праект — гэта вельмі простая задума: сфатаграфаваць будынкі былых сінагог і малельных дамоў, або тое, што ад іх засталося. Сёння ў Польшчы каля 350 такіх будынкаў. Часткай праекта з'яўляюцца таксама апісанні месцаў, дзе лакалізаваныя аб'екты яўрэйскага рэлігійнага культу, і запісы размоў, зробленыя мастаком падчас стварэння фотаздымкаў.

Пазбягаючы пафасу і матыву сувенірнага календара з падарожжаў па Польшчы, Вільчык стварае запіс форм мінулага, якія ўкараніліся ў сучасным пейзажы, але ўсё ж выбіваюцца з яго, абуджаючы ўспаміны. Фатаграфія становіцца машынай часу для памяці. Вока фотамастака прыглядаецца да таго, што звычайна застаецца схаваным, з'яўляючыся паўсядзённым, становіцца "нябачным". Такім чынам чулы погляд творцы замацоўвае мігатлівую, актуальную архітэктанічную і грамадскую форму, у якой праяўляецца гісторыя.

— Члены маёй сям'і — карэнныя жыхары Варшавы, — распавёў падчас прэзентацыі выстаўкі першы саветнік пасольства Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь Павел Марчук. — Бабуля ўспамінала, як праз іх двор праходзіла сцяна гета, дзе за чатыры гады акупацыі знікла нямала добра знаёмых ёй людзей — суседзяў, аднакласнікаў. З імі ж згінуў цэлы сусвет, і гэта немагчыма забыць.

Выступаючы перад прысутнымі, намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Тадэуш Стружэцкі зазначыў, што Войцех Вільчык робіць вельмі важную справу: ён не проста занатоўвае спадчыну польскіх яўрэяў, ён хоча, каб яна стала вядомай жыхарам Польшчы і іншых краін. Яўрэйская культура, якая мае свае адметнасці і самабытнасць, — неад'емная частка агульнапольскай культуры, гэтаксама як і беларускай.

*З-пад пяра*

➤ Конкурс чытальнікаў "Паэтычнае сузор'е талентаў", прысвечаны 130-гадоваму юбілею Янкі Купалы і Якуба Коласа, быў арганізаваны Мінскай раённай цэнтральнай бібліятэкай для вучняў. Журы выбрала восем лепшых чытальнікаў, якія возьмуць удзел у раённым свяце да юбілею Янкі Купалы і Якуба Коласа "У спадчыну — добрае, роднае слова", што адбудзецца 27 красавіка ў Сеніцкім доме культуры.

Кацярына ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ

➤ Паэтычная гасцёўня з удзелам паэтэсы Валянціны Паліканінай і барда Валерыя Віткіна адбылася ў бібліятэцы № 18 г. Мінска. У прыхільнікаў творчасці Валянціны Паліканінай была магчымасць пачуць любімыя вершы ў яе выкананні. Некаторыя з іх пакладзены на музыку і выканаваны Валерыем Віткіным. Сярод гасцей бібліятэкі ў гэты дзень былі курсанты Інстытута пагранічнай службы, а таксама шмат прыхільнікаў паэзіі і музыкі.

Алёна СУХАДОЛАВА

➤ Аляксей Мартынаў, мастаклялечнік, цалкам дапускае, што аўтарская лялька ў руках творцы атрымлівае сапраўднае жыццё, якое становіцца праяўным у паралельным нашаму свеце. Выстаўка яго непаўторных, "цёплых" і добрых работ "Лялька — мадэль — вобраз" адкрылася ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, дзе будзе дэманстравацца да канца красавіка, радуючы гледачоў.

Лізавета БАГАДЗЯЖ

➤ Тыдзень праваслаўнай кнігі прайшоў у Капылі ў рамках духоўна-асветніцкай праграмы "Сям'я — Еднасць — Айчына". У яго межах працавала выстаўка-кірмаш "Радасць слова", у школах раёна быў праведзены семінар "Дэмаграфічны дабрабыт: выклікі і пагрозы, спосабы дасягнення і праекты", у якім узялі ўдзел прадстаўнікі міжнароднага дабрачыннага фонду, праваслаўнай царквы, райвыканкама, а таксама навукоўцы і медыкі. У рамках семінара прайшла выстаўка "Абарона мацярынства і сямейных каштоўнасцей", быў паказаны спектакль для школьнікаў "Чорнае паліто".

Аляксандр АЎЧАРАЎ

➤ У сапраўднае свята мастацкай самадзейнасці ператварылася прэзентацыя конкурснай праграмы "Падарожжа па Беларусі" ў межах рэспубліканскага фэсту "Арт-вакацыі-2012", што прайшла ў Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі. Уразілі прысутных выступленні калектываў "Новы свет", "Эліксір", "Квінты", народнага духавога аркестра, тэатра-студыі "ARTvoyage", паэтычнага тэатра БДУІР і іншых. Такія акцыі даюць унікальную магчымасць праявіць таленты нашых студэнтаў.

Уладзімір СТАРАСЦЕНКА

➤ Гомельскай школе "Малады літаратар", якой кіруе Ніна Шклярава, споўнілася пяць год. За гэты час яна дапамагла заявіць пра сябе многім маладым аўтарам. На свяце школы шмат цёплых слоў прагучала ад Міхася Болсуна, Івана Бісева (заснавальнік серыі "Аз-першая кніга паэта"), які дапамагае маладым аўтарам знайсці свой шлях у літаратуры, Леаніда Вятошкіна, заснавальніка серыі "Бібліятэчка школы «Малады літаратар»", і інш. Літаратурная праца ў школе не спыняецца. Маладыя творцы рыхтуюць новыя зборнікі, якія, спадзяёмся, хутка пабачаць свет.

Ала ДАРАШЭНКА

*Партрэт на фоне кнігі*

# Здзейсніць подзвіг — напісаць раман

**У 1980-я гады кніга Сяргея Зайцава "Побеждая — оглянись" — гістарычны аповед пра часы антаў, готаў і гунаў — лічылася бестселерам, ва ўсялякім разе, у Беларусі. Яна распаўсюджвалася праз Таварыства "Кнігалюб", што само па сабе было ўжо надта прэстыжна для аўтара, бо неяк адмыслова далучала яго да шэрагу класікаў усіх часоў і народаў. І гэта толькі першы з раманаў Зайцава, прафесійнага ўрача, які, не адмаўляючыся ад практыкі, смела крочыў у вялікую літаратуру.**

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

Сёння Зайцаў — аўтар васьмі вялікіх гістарычных раманаў і шматлікіх кніг па гісторыі і практыцы медыцыны. Ён добра вядомы рускамоўнай аўдыторыі ў постсавецкіх краінах. "Варяжский круг", "Ливонское зерцало", "Рыцари моря", "Секира и меч", "Пепел и снег", "Петербургский ковчег", "Седьмая печать" — гэтыя кнігі напісаны ў лепшых традыцыях класічнага гістарычнага рамана з дэталёвым апісаннем рэалій, стылізацыяй мовы, вывучэннем характараў эпохі і — цікавым сюжэтам.

**— Сяргей Міхайлавіч, і ўсё ж такі, згадзіцеся, гісторыя рэальная безумоўна адрозніваецца ад гісторыі, якая паўстае перад чытачом у мастацкіх творах. Часта кажуць, нібыта пісьменнік кнігамі сваімі стварае паралельны свет, які набывае аўтаномнае жыццё. А раптам душа аўтара пасля смерці знаходзіць прытулак менавіта ў створаным ім сусвеце?**

— Гэта было б не так ужо і страшна. Мне ўтульна ў любым з напісаных мною раманаў. Да таго ж, усе без выключэння героі рабіліся "з сябе". Нават адмоўныя.

**— А як жа жаночыя персанажы?**

— Мужчынскі і жаночы арганізм, што б там сёння пра вялікія адрозненні ні казалася, надта падобныя. Гэта я як урач сцвярджаю. У кожнага чалавека ёсць і жаночыя, і мужчынскія гармоны. Некаторыя навукоўцы нават выказваюць гіпотэзу, што спачатку раздзяленне палоў прыродай ці Богам "не планавалася". Была створана жанчына. Яна і цяпер фізіялагічна, анатамічна, генетычна больш грунтоўная і трывалая. Мужчына — з'ява, магчыма, выпадковая, што ўзнікла "на базе" жанчыны. І таму, думаю, аўтару-мужчыну стварыць у рамане жаночы вобраз не складана.

Варта адзначыць, што амаль усе галоўныя героі ў раманах Сяргея Зайцава — незвычайна рамантычныя, прыгожыя духоўна, моцныя ў сваіх перакананнях і трывалыя падчас выпрабаванняў людзі. Здаецца, ад такіх мы крыху адвыклі ў часы, калі герой без "чорнай плямы" абвяшчаўся нерэалістычным і таму нецікавым. Аднак герої "слабыя і грэшныя" не маглі ўзняць чытача над сабой. Яны пакідалі яго ў згубным спакоі думкі: "Я такі ж, як усе, а можа нават і лепш за многіх — навошта ж мне мяняцца?" Сяргей Зайцаў лічыць, што задача пісьменніка, у якім бы жанры ён ні працаваў, — зрушыць чытача, каб ён пасля прачытання кнігі зрабіў



хаця б на адну добрую справу больш, ачысціць яго дый самому пры гэтым ачысціцца.

**— Пісьменніцкі подзвіг — гэта якраз тое, пра што мы цяпер з вамі размаўляем?**

— Я сапраўды думаю, што для пісьменніка стварэнне кожнай кнігі, калі гэта не графаманскі допіс, а прадуманы да дробязей, вынашаны і выпеставаны, скіраваны на дзейснае дабро твор, — подзвіг.

**— Ці можна праз літаратурны твор навучыць скептыка кахаць па-сапраўднаму? Многія людзі размяжоўваюць "кніжнае" каханне і "рэальнае", маўляў, некаторыя надта прыгожыя і рамантычныя рэчы можа дапусціць толькі пісьменнік у сваім "сачыненні".**

— Безумоўна, калі ў рамане няма кахання, то няма і самога рамана. Аднак адкуль жа пісьменнік бярэ каханне для свайго твора? Толькі з жыцця! Вось у мяне восем гістарычных раманаў — і ў кожным з іх каханне "спісана" з маёй уласнай біяграфіі. Я ў юнацтве знаёміўся і сябраваў шмат з якімі дзяўчатамі. І развітваўся па-рознаму. Быў час, падавалася, што гэтыя абставіны асабістага жыцця — нешта імгненнае, тое, што было і знікла. Аказалася, нікуды і нічога не знікае. У маім выпадку юнацкае каханне трансфармавалася ў радкі і старонкі кніг.

**— Жанчына-пісьменніца спрабуе даказаць правамернасць кахання ў сталым узросце. У мужчын каханая — заўжды юная і прыўкрасная…**

— Можа, пісьменнік-мужчына — больш рамантык па сутнасці, чым калега-жанчына? Можа, ён менш трывала стаіць на зямлі, чым яна? Нездарма ж на вядомай карціне А. Дзюрэра "Адам і Ева" Адам, у адрозненне ад сваёй жанчыны, нагамі толькі крыху датыкаецца да зямлі — ён прыўзняты ў паветры. Аднак я, мабыць, буду хлусіць, калі скажу, што ў маіх раманах усе гераіні-каханыя — юныя і наіўныя дзяўчаты. У тым жа рамане "Варяжский круг" ёсць жонка палавецкага хана Яська, рудая, прыгожая, уладная, старэйшая за галоўнага героя — яе каханню да яго адведзена нямала старонак. І ў "Пепел и снег" пра вайну 1812 года ёсць гераіня, пэўна, бальзакаўскага ўзросту. Французскі герой капрал Анры дзю Плесі падчас знаходжання Напалеонаўскай арміі ў Польшчы пакахаў польку пані Ізольду. Але рабіць галоўную гераіню старэйшай за героя мне неяк традыцыі нашы славянскія перашкаджаюць. А ставіць у цэнтр рамана немаладую пару, калі, скажам, ёй — сорак, яму — пяцьдзясят… Усё ж такі чытачу значна цікавей, думаю, калі яны — маладыя і ўсё яшчэ наперадзе. У мяне, дваццацігадовага, было адчуванне бясконцасці жыцця…

Адчуванне бязмежнасці жыцця, яркае, светлае, усёперамагальнае, бруіць з кожнай старонкі кніг Сяргея Зайцава. І гэта — асаблівасць яго прозы, яго сусвету, у якім шмат розных планет, але на кожнай — утульна і сонечна.

*12 красавіка — Сусветны дзень авіяцыі і касманаўтыкі*

Эдуард КАРНІЛОВІЧ,
фота www.sb.by

# Не ўмеў жыць як набяжыць

**Наш зямляк Мікалай Васільевіч Казюк доўгі час працаваў старшым выкладчыкам Ваенна-паветранай акадэміі СССР. Яго вучнямі былі знакамітыя касманаўты.**

У час Першай сусветнай вайны Мікалай Казюк вымушаны быў пакінуць родную вёску Корчыцы Кобрынскага павета. У пасёлку Арлоў Гай Саратаўскай губерні ўладкаваўся малатабойцам прыватнай кавальскай майстэрні. Затым стаў добраахвотнікам Чырвонай Арміі. На Усходнім фронце быў тройчы паранены. Вучыўся на рабфаку, у Інстытуце журналістыкі, у аспірантуры навукова-даследчага інстытута. Працаваў літсупрацоўнікам маскоўскага часопіса "Вясковы камуніст". Напісаў кнігу "Другая бальшавіцкая вясна". Дарэчы, яна была надрукавана на беларускай мове.

У верасні 1936 г. Мікалая Казюка прызначылі загадчыкам аддзела друку і выдавецтваў ЦК КП(б) Беларусі. Ён бліжэй пазнаёміўся з палітычнай элітай і дзеячамі культуры: М. Гікалам, М. Галадзедам, М. Стакуном, А. Чарвяковым, Я. Коласам і Я. Купалам.

Казюк добра ведаў сваю справу і не меў службовых заўваг. Аднак 2 кастрычніка 1937 г. на пасяджэнні Бюро ЦК КП(б)Б яму была аб'яўлена вымова з занясеннем у асабовую справу. Больш за тое, наркам унутраных спраў Б. Берман прапанаваў перадаць матэрыялы ў "органы НКВД для дальнейшего расследования". Аказваецца, ён атрымаў вымову "за притупление политической бдительности к врагам народа Поссе (дырэктар Інстытута гісторыі партыі. — **Э.К.**) и другим, выразившимся в неразоблачении их, будучи с ними в близких отношениях". Пакараны за тое, што не даносіў на блізкіх.

У красавіку 1938 г. Камісія партканторлю зняла з Казюка вымову. Але "пляма" на біяграфіі засталася. 28 ліпеня на кафедру грамадстваназнаўства Мінскага інстытута народнай гаспадаркі, якую ўзначальваў Казюк, прыйшлі супрацоўнікі НКУС і арыштавалі яго. Мікалая абвінавацілі ў прыналежнасці да контррэвалюцыйнай арганізацыі.

На маім стале рукапісная заява начальніку падследнай Мінскай турмы на дзесяці старонках, напісаных 9 лютага 1939 г. М. Казюком: "Изучением моей деятельности они (перастрахоўшчыкі. — **Э. К.**) не занимались, а доверившись врагам и их клевете, вольно или невольно сфабриковали чудовищные обвинения, что будто бы я был вместе с врагами за одно, что я был с ними в организации, и что я разделял их взгляды и занимался вредительством. Я лишён родины, семьи. Нет больше сил". Мікалай Казюк вытрымаў жорсткія допыты, усялякія здзекі і не прызнаў ілжывых абвінавачванняў.

Пасля вызвалення ён працаваў галоўным рэдактарам Дзяржвыдавецтва БССР. Сустракаўся са старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі М. Лынькоўым, Я. Купалам, З. Бядулем, на казку якога напісаў рэцэнзію, іншымі паэтамі і празаікамі.

З першых дзён нямецка-фашысцкай навалы Мікалай Казюк на Заходнім фронце ўдзельнічае ў абаронных баях. Быў цяжка паранены, кантужаны і накіраваны ў тыл. Доўга лячыўся, працаваў начальнікам палітаддзела МТС у Арэнбургскай вобласці. Па асабістай просьбе Казюк вярнуўся ў дзеючую армію і атрымаў прызначэнне на выкладчыцкую работу ў Ваенна-паветраную акадэмію, якая цяпер носіць імя Ю. Гагарына.

У маі 1944 г. акадэмія з Чкалава пераехала на сваё ранейшае месца — у пасёлак Моніна пад Масквой. Сярод яе слухачоў было 208 Герояў Савецкага Саюза, 20 — двойчы Герояў і тройчы — адзін: лётчык Іван Кажадуб. Казюку няпроста было спазнаць, хто тут каго выхоўвае: легендарныя героі вайны, таленавітыя абаронцы Бацькаўшчыны, пераможцы ці гэтыя змардаваныя выкладчыкі, знятыя з франтоў з-за раненняў ці па ўзросце.

Займаючы пасаду старшага выкладчыка, М. Казюк сур'ёзна вывучаў гісторыю краіны, філасофію, літаратуру, у тым ліку і беларускую. У сваіх лекцыях ён расказваў маладым курсантам пра жывую легенду з Магілёўчыны Сцяпана Красоўскага, які ў гады Вялікай Айчыннай камандаваў паветранымі арміямі пад Сталінградам, Курскам, Кіевам, асабліва вызначыўся пры авалоданні Берлінам. Дарэчы, у 50-я гады мінулага стагоддзя з пасады



*М. Казюк (справа) з касманаўтам В. Севасцьянавым.*

камандуючага Ваенна-паветранымі сіламі Беларускай ваеннай акругі Сцяпан Акімавіч, генерал-палкоўнік авіяцыі, быў прызначаны начальнікам Ваенна-паветранай акадэміі.

Мікалай Васільевіч ахвотна расказаў сваім слухачам пра творы айчыннай літаратуры, у якіх ярка адлюстраваны падзеі вайны — раманы К. Чорнага і І. Шамякіна, вершы А. Куляшова.

12 красавіка 1961 года ўвесь свет даведаўся пра першы палёт Юрыя Гагарына ў космас. Зразумела, што перад гэтым у Моніна ішла інтэнсіўная падрыхтоўка, фізічная і палітычная загартоўка лётчыкаў, здольных паспяхова штурмаваць космас. У працэсе ўдзельнічаў і Мікалай Казюк. Яго слухачамі былі Георгій Берагавой і Уладзімір Шаталаў. У хуткім часе Ваенна-паветраную акадэмію скончыў Павел Бляеў, напарнік якога Аляксей Лявонаў у час палёту выходзіў у адкрыты космас. Лекцыі Мікалая Васільевіча, яго выступленні на семінарах і сходах слухалі Аляксей Губараў, Анатоль Філіпенка, Георгій Дабравольскі…

У кнізе "Ваенна-паветраная акадэмія імя Ю. А. Гагарына" адзначаецца, што М. Казюк як найбольш спрактыкаваны выкладчык навучаў і афіцэраў замежных краін. Ён любіў наладжваць сустрэчы выкладчыкаў і слухачоў са знанымі беларусамі (прыязджалі Л. Бяда, А. Зуеў, Я. Клімчанка і іншыя).

Казюк быў у сяброўскіх адносінах з Віталём Севасцьяновым і Пятром Клімуком, які таксама, крыху пазней, скончыў акадэмію.

Мікалай Васільевіч жыў у Падмаскоўі, але ніколі не губляў сувязі з Беларуссю і роднай мовай. Яго сын Алег Казюк, інжынер-канструктар, з якім я сустрэўся ў Магілёве, прыгадаў цікавы факт:

— У майго бацькі была багатая бібліятэка. Ён з выключнай любоўю збіраў кнігі беларускіх пісьменнікаў. Ведаў на памяць "А хто там ідзе?", "Хлопчык і лётчык", "Курган" Янкі Купалы і мяне прывучаў чытаць іх толькі на мове вялікага паэта. Я з цікавасцю прачытаў аповесці "Дрыгва" Якуба Коласа і "Палескія рабінзоны" Янкі Маўра, раман "Глыбокая плынь" Івана Шамякіна і іншыя. З усіх каштоўнасцей у доме кнігу бацька ставіў на першае месца.

М. Казюк часта прыязджаў у Мінск, дзе жылі родныя і блізкія яму людзі, наведваў Інстытут народнай гаспадаркі, у якім вучыліся дачка Генрыета (скончыла ў 1962 г.) і ўнучка Алена. Памёр Мікалай Васільевіч 15 верасня 1979 г., пахаваны ў пасёлку Моніна, пад Масквой. Побач з Зорным гарадком.

Глыбокае-2012

# Па кім звоняць званы

Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ,
фота Кастуся Дробава


Сабор у гонар Ражства Прасвятой Багародзіцы ў Глыбокім.

З прылётам птушак і першымі пралескамі прыходзіць да нас светлы, радасны Вялікдзень. А напярэдадні, ноччу, пад перапеў званоў у храмах гучаць чароўныя, сцвярджальныя словы: “Хрыстос уваскрос!” І тысячы вернікаў адказваюць: “Сапраўды ўваскрос!”

У нядзелю Вялікдзень сустрэнуць праваслаўныя вернікі, а тыдзень таму яго святкавалі каталікі. З ранку да позняга вечара над Беларуссю гучаць чароўныя гукі званоў. Яны закранаюць сэрцы і кожнага жыхара Глыбоцкага раёна. Тут мірна суседнічаюць праваслаўныя, пратэстанцкія храмы і касцёлы. Нават у змрочныя гады ганення на рэлігію глыбачане адстаялі свае святыні. У пяцідзясятыя гады мінулага стагоддзя ў раёне была закрыта толькі адна царква, у якой размясцілі сельгаспадарчы склад.

Глыбоцкі кафедральны сабор у гонар Ражства Прасвятой Багародзіцы — найбуйнейшы ў Беларусі праваслаўны храм (змяшчае да трох тысяч вернікаў). Заснаваны ў 1639 годзе, ён ужо больш як 370 год прасвячае душы людзей святлом Божай Ласкі. У яго гісторыі, як і ў біяграфіі жывога чалавека, шмат горкіх і слаўных старонак. У розныя часы ён называўся па-рознаму: касцёлам Успення Багародзіцы, царквой Ражства Багародзіцы, кафедральным Свята-Ражства-Багародзіцкім саборам, але заўсёды заставаўся душой горада, яго сэрцам і ў духоўным, і ў фізічным сэнсе: менавіта адсюль пачынаюцца галоўныя шляхі, якія вядуць на Полацк, Рыгу, Вільню, Мінск…

Вось што пісаў пра яго святар А. Катлінскі ў “Литовских епархиальных ведомостях” за 1878 год: “Нішто не можа ісці ў параўнанне з архітэктурай Глыбоцкага касцёла, у якім, перш за ўсё, лёгкасць і грандыёзнасць будынка захапляльныя да здзіўлення. Увесь будынак уяўляе сабою ідэал дасканаласці…”

Лепшай ацэнкай годнасці служыць думка французскага імператара Напалеона, які прабыў тут дзесяць дзён у час свайго похода на Маскву: “Я шкадую, што не магу ўзяць яго з сабою ў Парыж; храму Notre Dame не сорамна было б мець яго па суседстве”.

На гарадской плошчы 17 Верасня ўзвышаецца яшчэ адзін велічны помнік архітэктуры — касцёл Найсвяцейшай Троіцы, заснаваны ў 1628 годзе мясцовым фундатарам Іосіфам Корсакам. У 1908 г. была закончана грунтоўная рэканструкцыя — касцёл пашырылі за кошт бакавых прыбудоў, змянілі выгляд веж. Асвечаны ксяндзом Янкам Курчэўскім, прэлатам віленскай капітулы, вядомым гісторыкам.

У Празароках — на радзіме Ігната Буйніцкага — аддана служаць сваім вернікам касцёл Маці Боскай, пабудаваны ў 1907 годзе, і Петрапаўлаўская царква, заснаваная двума гадамі пазней. Помнікамі гісторыі і культуры прызнаны таксама праваслаўныя храмы ў вёсках Мамаі, Бабруйшчына, Верхняе, Кавалі, Забор’е, касцёлы ў Прошкаве, Дзеркаўшчыне, Задарожжы, Мосары і іншыя культурныя аб’екты. У кожным з іх ёсць свая чароўнасць, індывідуальнасць.

Заўважым, у Глыбоцкім раёне зарэгістравана амаль 40 рэлігійных суполак, у тым ліку тры пратэстанцкія, па адной суполцы старавераў, мусульман і Сведкаў Іеговы. Мясцовыя ўлады садзейнічаюць іх плённай працы. Працягваецца рэканструкцыя Сабора Ражства Прасвятой Багародзіцы, Беразвецкага жаночага кляштара ў гонар Архістратыга Архангела Міхаіла. Добраўпарадкоўваецца тэрыторыя касцёла св. Ганны ў в. Мосар, іншых помнікаў гісторыі і культуры.

…Над гарадамі і вёскамі Беларусі звоняць званы. Па кім? Пра што? Пра час. Нягоды і радасці. Надзеі і спадзяванні. Пра нас з табою!

**Газета “Літаратура і мастацтва” — інфармацыйны партнёр Свята беларускага пісьменства.**

Вольга ПАСІЯК

# ЛіМ: 1946 год

*“Мой дзядзька правіл без заганы,*
*Калі не жартам занямог,*
*Усіх прымусіў да пашаны*
*І лепей выдумаць не мог”*
(ЛіМ, 1946, 3 красавіка).

Упэўнена, вы пазналі гэтыя знакамітыя пушкінскія радкі, якія з лёгкай рукі Аркадзя Куляшова ў 1946-м загучалі па-беларуску. Увогуле, імя класіка рускай паэзіі нярэдка сустракалася на старонках беларускай перыёдыкі і, па сутнасці, нават у той час сімвалізавала своеасаблівы эталон творчасці, поруч з больш познімі майстрамі слова: “*Калі мы будзем ісці нага ў нагу з жыццём, з народам, тады мы выпаўнім тое, аб чым гаварыў Пушкін. Мы абудзім у сэрцах людзей добрыя пачуцці, мы давядзем, што паэзія — гэта харство ў святых марах зямлі, мы задаволім і Някрасава, ды яшчэ ў большай ступені, як ён выказываўся — мы станем і паэтамі, грамадзянамі, і мы споўнім словы Маякоўскага — збудуем сабе помнік — “построенный в боях социализма”* (ЛіМ, 1946, 20 студзеня).


ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

У ІМЯ РАДЗІМЫ

ПАДАРУНАК тав. І. В. СТАЛІНУ

СЕННЯ Ў НУМАРЫ:

УКАЗ

НОВЫЯ ВЕРШЫ

Магчыма, абапіраючыся на класічныя пастулаты, тагачасная “культурная прэса” і вынесла на літаратурны суд вельмі неадназначнае пытанне — праўдзівасці і праўдападобнасці: “*Жыццёвая праўда патрабуе ад пісьменніка не толькі пільнага назіральнага вока, не толькі ўмення абагульняць і тыпізаваць бачанае, але і здольнасць прадбачыць будучае*” (ЛіМ, 1946, 10 студзеня). Думаю, няцяжка здагадацца, якая падзея падштурхнула да такой дыскусіі: “*…бываюць такія эпохі, калі духоўнае і інтэлектуальнае багацце народа раскрываецца настолькі поўна, што, адлюстроўваючы іх, пісьменнік тым самым адлюстроўвае “трэцюю рэчаіснасць”. Такой эпохай была, на нашу думку, Вялікая Айчынная вайна*” (ЛіМ, 1946, 10 студзеня). Так уяўлялася праўда, якую, быццам крышталь на чыстае люстэрка, павінна была адлюстроўваць тагачасная літаратура. Вось толькі нездарма ў дзяцінстве нам так падабалася аповесць-казка Віталія Губарава “Королевство кривых зеркал”. З кожным наступным днём мірнага жыцця межы паміж праўдзівасцю і праўдападобнасцю становяцца ўсё больш і больш размытымі. І ўсё часцей іх блытаюць, як Олю і Яло — герыянь Губарава. Але супрацьдзе знойдзена — ім становіцца роскевіт фельетонаў, якія ўмела дэманструюць творчыя хібы. Адна з такіх ін’екцый — “Даволі! (Адкрыты ліст ў рэдакцыю)” за подпісам “былога пісьменніка Маця Прывабнага”, дзе ў камічнай форме крытыкуецца графаманская аднатыпнасць і неправуданацсць. Вось як аўтар апісвае свой падыход да так званай творчасці: “*Пісаў пра партызан. А пра іх, як мне здаецца, можна лёгка пісаць. Трэба толькі мець больш-менш добры архіў газетных выразак аб партызанскай барацьбе. А там з двух-трох такіх выразак можна смела ляпіць любое апавяданне. Ну, дык пакуль у мяне хапала гэтага матэрыялу, я ‘шчэ неяк мадзеў, а цяпер архіў мой вычарпаўся. Ды кажуць ужо, што далей і пра партызан так ужо нельга пісаць. Патрабуюць характары, вобразы, кампазіцыі, дасканалага ведання чужой душы. Ну, а вядома, што чужая душа — пацёмкі, дзе ў ёй там што разбярэш*” (ЛіМ, 1946, 9 сакавіка). Знаёмая сітуацыя? Калі не, чарговы раз звярніцеся да кінастужак ваенней тэматыкі, герояў, “выразаных з архіва”, сустрэнеце нямерана. І кожны творца ўпэўнены, што ўсё сказаў правільна, бо “*не ўсякая фантазія карысна для душы, не ўсякая выдумка патрэбна…*” (ЛіМ, 1946, 10 студзеня).

Вось толькі як мірыцца з тым фактам, што праўда — рэч суб’ектыўная? Нездарма ў народзе кажуць, што ў кожнага яна своя. Можа, самы час больш уважліва ўчытацца ў радкі аднаго з любімых рускіх крытыкаў Мікалая Дабралюбава, які “*валодаў надзвычайнай здольнасцю вырашаць гострыя праблемы сучаснасці на літаратурным матэрыяле.* (ЛіМ, 19-46, 10 лютага)? Тут, бясспрэчна, будзе чаму павучыцца! Адна супярэчнасць — Мікалай Аляксандравіч не выказваў захаплення творчасцю Пушкіна, дый увогуле надта крытычна стравіўся да пісьменніцтва, ушаноўваючы бадай што толькі сатыру.

А можа, звярнуцца да вытокаў — да народа? Пазнаць яго адчуванне рэальнасці, зафіксаваць тэмп жыцця? “*Блізкія, непасрэдныя зносіны з народам, арганічная сувязь з ім* [калгасным чалавекам] *будуць вялікай школаю для нас* [пісьменнікаў]. *Яна дасць нам моцную апору ў паказе жывых людзей. Яна навучыць нас распазнаваць іх характары і індывідуальныя асаблівасці. Яна ўзбагаціць і нашу мову, увалье ў яе жыватворчыя сокі сапраўднай паэзіі*” (ЛіМ, 1946, 20 студзеня).

На жаль, “пакаштаваўшы” кожны з гэтых варыянтаў, савецкая крытыка пайшла традыцыйным шляхам прапаганды, дзе адзінай праўдзівай рэальнасцю з’яўляецца тая, якую дазволілі ці, правільней сказаць, навязалі зверху. А тут праўда вайны павінна быць такой: “*Трэба, каб герой літаратурнага твора сваімі паводзінамі сцвярджаў ганьбу да баязліўцаў і сябелюбцаў, якія здольны пакінуць сваіх таварышоў у гадзіны небяспекі. Разам з тым, неабходна ўнікаць паказу “заліхвацкасці” героя, якому ўсё ніпачым і мора па калена. Чытач павярыць пісьменніку тады, калі ён пакажа жыццё і барацьбу беларускіх партызан ва ўсіх іх шматлікіх праяўленнях, не падсалоджанымі, а такімі, якімі яны былі ў сапраўднасці, з усімі радасцямі і непрыемнасцямі, шчасцем перамогі і цяжкасцю пакут, якімі гэта перамога здабывалася*” (ЛіМ, 1946, 3 красавіка).

Так, савецкі народ перажыў страшную вайну. Сталінградская бітва, блакада Ленінграда, абарона Брэсцкай крэпасці — хроніка гэтых і іншых падзей упісана ў гісторыю крывёй. Але і сёння яна працягвае даказваць, што мае права называцца ісціннай, а не пародыяй на яе. І, здаецца, ёсць сэнс падпісацца пад гэтай сітуацыяй словамі Уінстана Чэрчыля: “Чалавеку выпадае спатыкнуцца аб ісціну, але ў большасці выпадкаў ён проста падымаецца і працягвае свой шлях, быццам і не было нічога”.

***Арыгіналы выдання прадстаўлены Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі***



## Вучоны, крытык, педагог…

6 красавіка 2012 г. пасля цяжкай працяглай хваробы на 80-м годзе пайшоў з жыцця адзін з найвядомых беларускіх тэатразнаўцаў, доктар мастацтвазнаўства, прафесар Анатоль Вікенцьевіч Сабалеўскі.

Анатоль Сабалеўскі нарадзіўся 27 мая 1932 г. у вёсцы Андрыеўшчына Дзяржынскага раёна (Мінщчына) ў сялянскай сям’і. Пасля вайны, закончыўшы сямігодку і выявіўшы выдатныя здольнасці да матэматыкі, ён паступіў у Мінскае педвучылішча, якое паспяхова скончыў у 1953 г. Цяжка нават зразумець, як вясковы хлопец, не маючы ніякай інфармацыі і нават уяўлення пра сцэнічнае мастацтва, звязаў сваё далейшае жыццё менавіта з тэатрам.

Пасля заканчэння аддзялення журналістыкі БДУ, падчас вучобы ў якім і пачалася яго актыўная тэатральна-крытычная і літаратурная дзейнасць, А. Сабалеўскі скончыў аспірантуру пры Дзяржаўным інстытуце тэатральнага мастацтва імя А. Луначарскага ў Маскве. З 1961 г. працаваў у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР і адначасова выкладаў у Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце. Затым загадваў там кафедрай гісторыі і тэорыі мастацтваў, мовы і літаратуры, а з 1984 па 1989 быў рэктарам БДТМІ. Ён арганізатар і галоўны рэдактар часопіса “Тэатральная Беларусь” (пазнейшая назва “Тэатральная творчасць”), адначасова з 1993-га — загадчык кафедры тэатральнай творчасці Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры. У 2000 г. А. Сабалеўскі вярнуўся на працу ў ІМЭФ і да выкладчыцкай дзейнасці ў БДАМ, дзе плённа працаваў амаль да апошніх месяцаў свайго жыцця.

А. Сабалеўскі глыбока даследаваў пытанні гісторыі, тэорыі і сучаснай практыкі беларускага тэатра, драматургіі, праблемы нацыянальнага і інтэрнацыянальнага ў тэатральным мастацтве, узаемасувязей розных тэатральных культур, творчасць дзеячаў сцэны. Ён аўтар больш як 500 артыкулаў, аповесці “Жылі-былі хлопцы...” (1961), шэрагу апавяданняў; укладальнік, рэдактар тэкстаў, аўтар уступных артыкулаў і каментарыяў, раздзелаў для выданняў па тэатральным мастацтве; кніг: “Рампай асветленае: Тэатральна-крытычныя артыкулы” (1962), “Уладар дум чалавечых: Творчасць народнага артыста СССР Барыса Платонава” (1964), “Ад п’есы — да спектакля” (1965), “Белорусская драматургия в театрах народов СССР” (1972), “Глеб Глебаў: Жыццё і творчасць вялікага беларускага камедыйнага акцёра” (1994) і іншых. Апошняя яго кніга — “Майстры, падзеі, акалічнасці” (2011).

Дзейнасць вучонага і педагога А. Сабалеўскага высока ацэнена за межамі Беларусі. Камісія па прысуджэнні міжнародных прэмій узнагародзіла яго Залатым медалём “UNITY” (“Адзінства”). Ён — акадэмік Міжнароднай акадэміі навук аб прыродзе і грамадстве; ганаровы доктар навук Ташкенцкага дзяржаўнага інстытута мастацтваў імя М. Уйгура, вучоны, добра вядомы ў Расіі, Украіне, Малдове, Кіргізіі, Грузіі і Казахстане.

Светлая памяць пра Анатоля Вікенцьевіча Сабалеўскага назаўжды застанецца ў сэрцах яго сяброў, калег і вучняў.

**Ад імя калектыву Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў М. Баразна, Р. Смольскі, В. Іваноўскі, А. Бохан (і інш.)**

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# Зерне мудрасці і дабрыні

**Калі на душы становіцца неяк не па сабе, апаноўваюць смутныя думкі, а ад роспачы хоць ваўком вый — тады абавязкова хочацца ўзяць у рукі кнігу паэзіі аўтара, якога даўно з задавальненнем чытаеш. А яшчэ лепш, калі пад адной вокладкай сабраныя і проза, і паэзія, як у новым томіку Ганада Чарказяна “Ноша”. Кніга цудоўнай атрымалася, у гэтым я і ўпэўніўся…**

Адразу пачаў шукаць штосьці такое, каб пасля знаёмства з ім захацелася ледзь не заспяваць. Магчыма, і простае, без гэтых усіх глыбакадумнасцей, якія стараюцца “ўбіваць” мне ў галаву тыя, хто мяркуе, што належным чынам сённяшнім чытачом успрымаецца толькі сучасная паэзія, а гэта значыць, што яна без рыфмаў, а яшчэ лепш і без знакаў прыпынку, з мудрагелістымі думкамі, з такімі, што ніяк не даўмецца — ёсць яны ці адсутнічаюць. Абяцаю, што з цягам часу зразумею і палюблю і такую паэзію. Калі на душы іншы настрой будзе. А пакуль...

Напаткаў я ў кнізе Г. Чарказяна верш “***Ты — мой бераг блізкі і далёкі…”, і адразу знік змрочны настрой. А яшчэ, бадай, самая галоўная думка з’явілася: не зважаючы ні на што, трэба кахаць, а калі кахаць, то і ў каханні не саромецца прызнавацца. Як гэта робіць паэт:

*Ты — мой бераг блізкі і далёкі,*
*Смутак і цяпло маіх вачэй.*
*Ля акна твайго*
*суцішу крокі.*
*Ноч уся наперадзе яшчэ.*

*Вось святло пагасла, і паволі*
*У акне зардзелася святло.*
*Так усе сыходзяць, каб ніколі*
*Не вярнуцца ў тое,*
*што было.*

*Ты — мой бераг блізкі і далёкі.*
*Ты такая на зямлі адна.*
*Ля чужых акон*
*спыняў я крокі,*
*А застаўся ля твайго акна.*

Насамрэч: што па-сапраўднаму таленавіта, тое і проста. Чарказян-паэт так і піша: проста (не блытаць са спрошчанасцю), але разам з тым напаўняючы кожны радок глыбокім сэнсам, ідучы ад самога жыцця і ўслаўляючы гэтае жыццё, а ў большай ступені задумваючыся над ім, над ягонай няпростасцю, над яго супярэчнасцю, непрадказальнасцю, раскрываючы ўсё гэта праз успрыманне свайго лірычнага героя, які гэткі ж самы, як і ўсе мы. Калі ж і адрозніваецца ад нас, то хіба толькі тым, што яго больш, чым іншых, гняце несправядлівасць, яму балюча не толькі за свае ўчынкі, калі нешта зрабіў не так, як таго хацелася б. Яму не па сабе становіцца, калі губляюць чалавечнасць іншыя. У такім разе тое, што адбываецца, яго лірычны герой нібы прымервае на сябе. Задумваецца, як бы зрабіў ён у той ці іншай сітуацыі.

У кнізе тры раздзелы. Паэтычны “На исходе дня” пераклаў Валерый Ліпневіч, а празаічны “Адкрыты ліст” і паэтычны “Выклік” — Казімір Камейша. Тым самым Чарказян-паэт прамаўляе адразу на дзвюх мовах і ў абедзвюх адчувае сябе годна і ўпэўнена, як і ў сваёй роднай, курдскай, бо і В. Ліпневіч, і К. Камейша — самі па сабе цікавыя творцы, добра засведчылі пра сябе і на перакладчыцкай ніве. У тым ліку і пераўвасабляючы творы Г. Чарказяна. Таму так хораша і гучаць яны і па-беларуску, і па руску. Асабліва прыемнае ўражанне пакідаюць тыя, дзе прысутнічае ўсходні каларыт.




У большай ступені гэта датычыць апавяданняў, у якіх Г. Чарказян стварае цікавыя, прывабныя воблікі горцаў.

Паэзія ж Г. Чарказяна — госця нябесная, што нібы “спусцілася” з родных яму гор, у іншых — народжаная на беларускай зямлі, гэткая ж родная аўтару, як і тая, што дала яму жыццё.

Люблю такія вершы Г. Чарказяна, у якіх праз прыроду, яе адчуванне дакладна перадаецца душэўны стан лірычнага героя. Ён захапляецца краявідамі, што ўражваюць (дый не могуць не ўражваць), але ён знаходзіцца і ў трывожным роздуме над хуткаплыннасцю часу, над тым, што нясе нам будучыня і наколькі мы падрыхтаваныя да яе. Сімптаматычны верш “***Туман, словно дым от пожара...”:

*Туман, словно дым от пожара,*
*надежды припрятал от нас.*
*И горькая весть пробежала:*
*погубит он их, не отдаст.*

*Но всё не погибнет в тумане,*
*где с прошлым*
*расправилась ночь.*
*И светлое серость обманет,*
*чтобы спасти и помочь.*

*Я жду терпеливо и верю,*
*что зерна добра прорастут.*
*Грядущего грозные двери*
*откроют лишь разум и труд.*

Што датычыць прозы Г. Чарказяна, то яна моцная сваёй жыццёвасцю. Гэта назіраецца як у творах, народжаных аўтарскай фантазіяй, так і ў тых, у аснову якіх пакладзеныя рэальныя падзеі, як, скажам, у апавяданні “Начны Сідараў”. Герой-апавядальнік прыгадвае выпадак, які аднойчы адбыўся з ім, калі ён на службовай машыне вяртаўся з камандзіроўкі. Час позні, снежань-месяц: “Месцамі дарога была перамешана палосамі снегу, трапляўся нават галалёд. І калі да горада заставалася каля сотні кіламетраў, у промнях святла фар узнікла чалавечая постаць, а крыху далей на ўзбочыне высвецілася і машына, такая ж, як і ў нас, — УАЗ. Кіроўца нашай машыны на ўсялякі выпадак папярэдзіў, што спыняцца на начной дарозе рызыкоўна: ці мала што ў людзей у галаве... Прытармазіўшы, мы праехалі міма, і ў нейкі момант я згледзеў твар чалавека ў белых ад марозу акулярах”. Усё ж спыніліся. І ўзялі тую машыну на буксір. Калі прыехалі ў горад, чалавек гэты, прозвішча якога было Сідараў, даў сваю візітоўку, абяцаў зайсці і аддзячыць. Незвычайнасць сітуацыі ў тым, што Сідараў “паказаў на салон машыны. Там стаяла труна.

— Я вязу хаваць свайго бацьку... А тут такое здарылася... Вам не казаў, баяўся, што адмовіцеся дапамагчы”.

Абяцанне зайсці і аддзячыць Сідараў не спраўдзіў. Праз шмат гадоў апавядальнік выпадкова напаткаў таго, каго па сутнасці і выратаваў ад смерці. Дый ягонага шафёра, бо яны, калі б не нечаканая дапамога, несумненна, на начной дарозе замерзлі б. Герой-апавядальнік пазнаў Сідарава ў начальніку, ад якога залежала ўстаноўка тэлефона. Сідараў адмовіў, бо апынуўся звычайным бюракратам. Нельга не пагадзіцца з Г. Чарказянам: “Мараль гэтай гісторыі адна — рабі людзям дабро, нават калі наперад ведаеш, што за гэта ніякай удзячнасці не атрымаеш... Удзячнасць у самім учынку... Проста разумець гэта трэба...”

Аднак не толькі жыццёвасць, а значыць, і праўдзівасць вылучае празаічныя творы Г. Чарказяна. У многіх з іх моцны і філасофскі патэнцыял, асабліва ў такіх апавяданнях, што набліжаюцца да прытчаў. З падобных твораў найперш вылучаецца “Свабода”, дзе важныя высновы падаюцца праз усходнюю мудрасць. Выказнікам аўтарскіх думак з’яўляецца стары Карахан, які шмат пабачыў на сваім вяку, не прымае (і не можа прыняць) горад, пра што гаворка ідзе ў апавяданні “У гасцях”.

> *“Насамрэч: што па-сапраўднаму таленавіта, тое і проста. Чарказян-паэт так і піша: проста (не блытаць са спрошчанасцю), але разам з тым напаўняючы кожны радок глыбокім сэнсам, ідучы ад самога жыцця і ўслаўляючы гэтае жыццё, а ў большай ступені задумваючыся над ім, над ягонай няпростасцю, над яго супярэчнасцю, непрадказальнасцю...*

У Карахана тры сыны, а паколькі ў творы прытчавы пачатак, то пададзены яны не пад уласнымі імёнамі, а як Старэйшы, Сярэдні і Малодшы. Усе аднолькава працавітыя і кемныя, ва ўсіх свае сем’і. Бацьку дапамагаюць і ўсе аднолькава шануюць яго. Як быццам, што яшчэ трэба. Ды захацелася сынам свабоды. Кожны з іх пасвойму вытлумачвае падобнае імкненне, але сутнасць зводзіцца да аднаго. У рэшце рэшт гэта дакладна выказаў сын Сярэдні: “Тата, ты так шмат казаў нам аб карысці адзінства. І нікому ў галаву не прыходзіла аспрэчваць твае словы. Але хацелася б хоць крыху аблегчыць тваю ношу. Ты надта многа даў нам, і мы разумеем, як цяжка несці табе тваю ношу, трэба і меру ведаць. Дык не шкадуй нам свабоды, а мы будзем разам. І адплацім табе тым жа дабром, якога ты не шкадаваў нам”.

Мудра вырашыў стары Карахан. Падзяліўшы зямлю паміж сынамі параўну, кожнаму з іх даў і па мяшку зерня: “Гэты мяшок — і ёсць шлях да свабоды. Вось і жывіце. Я не ў крыўдзе, бо для кожнага бацькі шчасце і ўдача дзяцей — самая вялікая ўзнагарода”. А праз два гады, як і дамовіліся, сабраў Карахан сваіх сыноў, каб высветліць, як яны распарадзіліся зернем. Старэйшы сын пакінуў некранутым, каб “захоўваць да канца жыцця свайго, каб перадаць яго сваім сынам”. Сярэдні паклаў яго з іншымі мяшкамі і пераблытаў, дзе ён ляжыць. Малодшы ж сын пасеяў гэтае зерне і сабраў з яго багаты ўраджай — прывёз цэлы воз з паўнюткімі мяшкамі.

Тое, што прамаўляе галоўны герой апавядання, пабачыўшы, як сыны распарадзіліся зернем, набывае глыбокі сэнс: “Людзі заўсёды казалі, што хлеб — усяму галава. Гэта і дастатак, гэта і прыбытак, гэта і ёсць свабода. Як бачыце, аднолькавыя ўмовы пражыцця не заўсёды даюць аднолькавыя вынікі. Не можа быць аднолькавых сыноў, як няма і аднолькавых гуркоў на градзе. Бачу, вы і самі пераканаліся ў гэтым на сваім прыкладзе. А воз з зернем я падзялю паміж вамі. Працуйце з Богам! Хай будзе ў вашых сем’ях болей дастачы і болей свабоды. Нават калі гэта свабода ў мяшку з зернем...”

Глыбокі тэкст, шматзначны падтэкст і ў апавяданні “Ружы”, галоўны герой якога дзед Грышка (дарэчы, пра ягоны няпросты, трагічны лёс даведваешся толькі ў самым канцы твора), штодня палівае ружы, што пры ўзвядзенні новага дома апынуліся поруч з катлаванам. Вартаўнік спачатку не разумее яго, але праходзіць час, і яны з дзіўным наведвальнікам знаходзяць агульную мову. Калі ж ён перастаў з’яўляцца, ідзе шукаць яго. Ад старой жанчыны і даведваецца, што гэта быў дзед Грышка, а на месцы цяперашняга катлавана “фашысты знішчылі ўсю яго сям’ю, суседзяў за тое, што яны хавалі ў сябе хлопчыка-габрэя”, а памёр дзед Грышка яшчэ дзесяць гадоў назад. Вартаўніку нічога не застаецца, як пагадзіцца з такім сцвярджэннем: “Можа быць, можа, у нашым жыцці ўсё можа быць, і не толькі такое... Мы з вамі гэта добра ведаем... Як бы пражыць так, як жыў дзед Грышка? Каб з таго свету вярнуцца...”

Вяртанне дзеда Грышкі з небыцця — гэта вяртанне дабра, якое ён рабіў. Ён не мог не вярнуцца, бо быў перакананы, што “ўсе людзі могуць быць родзічамі”, а калі ёсць такая ўпэўненасць, то з фізічнай смерцю чалавек не знікае, а здатны жыць сярод людзей, бо мусіць працягваць рабіць дабро, з якім жыў і без якога не ўяўляў сабе жыцця. Ружы, якія так любіў даглядаць дзед Грышка, — не толькі памяць пра тых, хто загінуў. Гэта і ўвасабленне прыгажосці, а таксама самога чалавека, ягоных добрых памкненняў.

Гэта меў на ўвазе і мудры Карахан, калі ў апавяданні “У гасцях” казаў свайму Старэйшаму сыну: “Паслухай мяне, сынок, ты павінен гэта запомніць на ўсё жыццё — чалавекам трэба заставацца заўсёды. Як бы там ні было, што б ні здарылася. Калі ты з раніцы сустрэў некага і пажадаў яму дабра, значыць, і табе ад некага пярэйдзе тое дабро. Усё ў жыцці ўзаемазвязана... Каб атрымаць — трэба ўмець аддаваць...”

Дарэчы, у Г. Чарказяна ёсць верш “Ружы агністыя...”:

*Ружы агністыя,*
*мора ружовае,*
*Вецер салодкі, пчолкі, чмялі.*
*Нехта галінку*
*зламаў абыякава,*
*мара не знікла,*
*сумуе са мной...*
*Мудра прырода*
*сваё ўсё прыдумала —*
*Голле старое*
*абновіцца зноў.*
*Нешта адыдзе,*
*і новым атожылкам*
*Заўтра ўсміхнецца*
*вясёла вясне.*

Менавіта ў вясну, а не проста ў дзень заўтрашні, бо вясна — час абнаўлення, новых спадзяванняў, сягае сваімі памкненнямі лірычны герой паэта. Сенека Малодшы неяк зазначыў: “Калі няма далейшага росту, значыць, блізкі канец”. Чытаючы “Ношу” Г.Чарказяна, з прыемнасцю адчуваеш далейшы творчы рост аднаго з самых цікавых сучасных беларускіх пісьменнікаў. Таму застаецца толькі пачакаць яго новых кніг, якія, думаецца, неўзабаве з’явяцца. Г. Чарказян — з тых літаратараў, якім заўсёды ёсць з чым прыйсці да чытача.

# Слоўнік разанаўскага версэта

**Версэт адносіцца да тых жанраў, якія віртуозна манеўруюць паміж прозай і паэзіяй. І такое яго становішча тлумачыцца не да канца вызначанымі адносінамі паміж паняццямі паэзія і вершы. Вершы звязаныя з падзелам мастацкага тэксту на рытмічна сувымерныя адрэзкі. У большасці тлумачальных слоўнікаў сутнасць тэрміна паэзія прадстаўлена як вершаваная творчасць, мастацтва рытмічнай арганізацыі тэксту, гэта значыць фактычна паэзія атаясамліваецца з вершамі. Аднак такое значэнне слова "паэзія" атрымала толькі ў другой палове XIX стагоддзя, раней ж паэзіяй называлася ўся мастацкая літаратура ў адрозненне ад немастацкай. І ў той жа час раней вершаваныя тэксты можна было сустрэць не толькі ў мастацкай літаратуры, але і ў навуцы. Такім чынам, навукоўцы маркіравалі свае тэксты як асабліва значныя. Таму вершы — гэта толькі адна з форм паэзіі. А. Андрэеў у артыкуле "Пра асаблівасці хайку і манавершаў у рускай паэзіі" прапаноўвае наступныя катэгорыі паэзіі: паэзія ў вершах; паэзія ў не-вершах; не-паэзія ў вершах.**

Таццяна ШЫШОВА

Паводле такой класіфікацыі, версэты адносяцца да паэзіі ў не-вершах. Пакуль што паняцце версэт сустракаецца не ў кожным літаратуразнаўчым слоўніку. Хаця "верш у прозе", чым фактычна і з'яўляецца версэт, знаёмы амаль што кожнаму школьніку. У беларускай літаратуры версэт з'явіўся на пачатку ХХ ст. Яго характэрнымі рысамі былі рэфлексійнасць, філасофская заглыбленасць і сацыяльная скіраванасць. У артыкуле "Беларуская літаратура ў 1909 г." ("Наша Ніва", 1910, 11 лютага) С. Палуян, супастаўляючы творчасць М. Багдановіча і Власта (В. Ластоўскага), пісаў: "У абодвух ёсць нешта супольнае, хоць адзін піша вершы, а другі — прозу. Але абодва яны паэты, бо абразкі Власта — гэта паэзія прозай".

Версэт дастаткова шырока прадстаўлены ў творчасці сучасных паэтаў. Аднак творы А. Разанава вылучаюцца тым, што ўяўляюць сабой цэлы свет: тут ёсць свая філасофія, свая сістэма сімвалаў і вобразаў. Адпаведна, не так лёгка растлумачыць, што такое разанаўскі версэт, адным словам ахарактарызаваць яго немагчыма, а вось калі падабраць некалькі слоў і размясціць іх у алфавітным парадку, атрымаецца наступнае:

**Антынамічнасць.** Звязана са сталай дваістасцю светаадчування аўтара, частымі супастаўленнямі і супрацьпастаўленнямі. Падзел свету, меч як сімвал гэтага падзелу, сярэдзіна пэўнай адлегласці — усё ўказвае на існаванне двух супрацьлеглых, аднак раўнаважкіх бакоў.

**Балада.** Некаторыя версэты паэта больш набліжаны да балады — апавядання ў паэтычнай форме (наколькі гэта магчыма ў нерыфмаваным вершы). Страфы графічна афармляюцца гэтаксама, як і абзацы ў празаічным тэксце. Кожная страфа — асобная мікратэма. Так, у вершы "Ляснік Амелька" вылучаюцца чатыры страфы, і кожная адпавядае асобнай кампазіцыйнай частцы: уступ — завязка дзеяння — кульмінацыя — развязка.

**Вандроўнік.** Гэта асноўны лірычны герой. Шлях і вандроўнік на гэтым шляху, які ідзе з захаду на ўсход, ад пункта А да пункта Б, які шукае ісціну — частыя матывы.

**Герметычнасць.** Увогуле версэты А. Разанава не для ўсіх. Часам іх трэба разгадваць, даваць уласныя інтэрпрэтацыі. Таму яны разлічаныя не на масавага чытача, а чытача-інтэлектуала, чытача-аналітыка.

**Двухкампанентная структура.** Большасць версэтаў мае менавіта такую структуру. Графічна гэта ніяк не адлюстравана, аднак у змесце вылучаюцца дзве часткі. Першая ўяўляе сабой нешта накшталт сюжэта (хаця часцей за ўсё ніякіх падзей няма), другая — "расшыфроўка" першай. Атрымліваецца своеасаблівае іншасказанне, дастаткова складанае для разумення і насычанае сімваламі.

**Замова.** Часта версэты А. Разанава маюць структуру замовы. Яна абумоўленая і прыёмам, уласцівым усім версэтам, — паралелізмам. Мабыць, таму некаторыя даследчыкі называюць версэты замовамі.

**Іншасказальнасць.** Версэты амаль заўсёды маюць сюжэт, які набліжае іх да прыпы. Аднак гэты сюжэт толькі на паверхні. Ён дапамагае схапіць тое, што прыхавана ўнутры.

**Люстра.** Адзін з вобразаў разанаўскіх версэтаў. Люстэрка дапамагае нам убачыць саміх сябе. Такім чынам, для чалавека, які шукае ісціну, які шукае сябе, яно становіцца спосабам спасцiжэння. У версэце "Аскепкі" люстэрка ўказвае на шматхарактарнасць лірычнага героя, якая пры гэтым не вылзяляе яго сярод іншых, а, наадварот, далучае да кожнага, хто мае адносіны да таго ці іншага аблічча лірычнага героя.

**Маналагічнасць.** Аўтар не вядзе ні з кім палеміку, мабыць, таму паэзія яго спакойная, без лішніх эмоцый. Яго героі — воіны, вандроўнікі, дзівакі — жывуць толькі для адзінай мэты — пошукаў ісціны.

**Мяжа і бязмежжа.** Мяжа ў версэтах А. Разанава — гэта тое, што звонку, тыя рэальныя перашкоды, якія чыніць яму свет, бязмежжа — унутраны свет героя, яго шматлікія магчымасці супрацьстаяць рэальнаму свету.

**Нерухомасць.** Гэта парадаксальная рыса вынікае хутчэй з суб'ектыўных уражанняў. Увесь рух у версэтах як быццам захаваны на фотаздымках, малюнках, дзе аўтар толькі апісвае нам функцыю кожнага прадмета.

**Парог.** Парог у славянскай міфалогіі — месца, дзе знаходзяцца душы памерлых продкаў. У той жа час парог — гэта мяжа, зноў жа падзел на дзве часткі: свет агульнага і свет прыватнага.

**Рэчы.** Яны сімвалізуюць неадушаўлёны свет. Аднак рэчы і чалавек у А. Разанава непарыўна звязаны. Чалавек жыве сярод рэчаў, валодае імі. Таму і яны частка чалавека. Аднак і ў рэчаў, і ў чалавека адзін гаспадар і творца — Бог.

**Страла.** З'яўляецца адным з найбольш частых сімвалаў. Страла — гэта спроба дасягнуць мэты, гэта палёт, які сімвалізуе ўзыходжанне да неба. У А. Разанава стрэлы, пушчаныя з лука, азначаюць дзеянні, наступствы якіх нельга змяніць.

**Узбочына.** Узнікае як сімвал у сувязі з іншым сімвалам — шляхам. Шлях уяўляецца сімвалам жыцця, руху, узбочына — месца для тых, хто гэты шлях пакінуў, адпаведна і рухацца не можа. Прыкладам такога версэта можа быць "Таворка Саша", у якім паэт распавядае пра чалавека, які сядзіць і глядзіць на дарогу. І не было б у гэтым нічога дзіўнага і "глыбокага", каб гэты чалавек не глядзеў на "дарогу жывых", з якой сам збочыў, каб застацца назаўсёды ў адным месцы і часе.

**Філасафічнасць.** Рыса, бадай, самая відавочная ў творчасці паэта. Яго версэты ўвогуле знаходзяцца на мяжы літаратуры і філасофіі. Таму эмацыянальнасць амаль адсутнічае ў паэзіі А. Разанава.

**Цемра і святло.** Цемра вельмі часта згадваецца ў сувязі з мінулым, святло — у сувязі з будучым. Мінулае — гэта памерлыя продкі, іх душы, будучыня — гэта белы ліст, на якім табе наканавана пакінуць свае сляды. Такім чынам, цемра — гэта смерць, святло — жыццё.

**Шлях.** Самы папулярны сімвал разанаўскіх версэтаў. Гэта найперш знак жыцця і лёсу чалавека. Сімвалічны шлях надзяляецца і прасторавым, і часавым вымярэннем. Пачатак і канец яго адзначаныя зменай стану: герой набывае нешта новае альбо папаўняе згубленае. У шляху звычайна дзве крайнія кропкі. Неад'емныя атрыбуты — перашкоды, якія патрабуюць канцэнтрацыі волі і духоўных сіл. Шлях у гэтым сэнсе заўсёды скіраваны да цэнтра, да вышэйшых каштоўнасцей. Таксама гэта сімвал вучэння, закона. У А. Разанава гэта яшчэ і рух з аднаго пункта (нараджэння) да другога (смерці), і рух да ісціны. Верш "На гэтай зямлі" можна назваць абвяшчэннем жыццёвага крэда паэта. Дарога на захад ці на ўсход — адвечная праблема для нашай краіны, чые гістарычныя шляхі пераплятаюцца і з адным, і з другім напрамкамі. Аднак паэт вырашае застацца на раздарожжы, бо ён сам сабе і Захад, і Усход, цэлы свет, і навошта шукаць іншай дарогі, калі тут, на роднай глебе, можна вырасціць дрэва. Гэтае крэда паэт сцвярдзіў сваёй творчасцю.

**Экалагічная тэма.** У паэзіі А. Разанава звязана з Чарнобылем і прадстаўлена праз даволі традыцыйныя вобразы: пакінутай радзімы ў версэце "Стары горад", небяспечнага дажджу ў версэце "Лужынах". Сярод чарнобыльскіх версэтаў А. Разанава вылучаюцца "Прыкметы", дзе прыватная тэма катастрофы дарастае да больш глыбокай ідэі пра тое, што прырода мацней за свядомасць людзей, якія ўпэўненыя ў магчымасці перамагчы.

Несумненна, пералік слоў-рыс разанаўскага версэта на гэтым не заканчваецца. Аднак для кожнага яго чытача гэтае слова-рыса сваё, як і сваё адчуванне творчасці аўтара. На мой погляд, адна з самых прыцягальных прыкмет — загадкавасць, якая дазваляе адчуць, што ісціна недзе побач. Аднак гэтая ісціна няўлоўная, таму так цяжка пасля кожнага асэнсавання разанаўскага версэта паставіць кропку.

*Рэдактарскае*

# Вечнае

Андрэй ФЕДАРЭНКА



Ціхі, настойлівы стук у дзверы.

— Калі ласка!

Бокам, сарамліва ўсміхаючыся, у кабінет заходзіць аўтар, — заходзіць і нізка схіляе галаву, нібы хоча паказаць: "Я ўвесь ваш, гатовы хоць на плаху!"

— Добры дзень, дарагі вы мой, — з парога пачынае аўтар. — Нарэшце! Вярнуліся з адпачынку? А я ўжо да вас хадзіў-хадзіў — кожны дзень...

— Чаго ж вы хадзілі, калі ведалі, што я ў адпачынку?

— Так... Раптам, думаю, зацікавіўся маім апавяданнем, вырашыў раней вярнуцца. Хе-хе... Жартую!

Рэдактар запрашае аўтара сесці. Той уладкоўваецца надоўга.

— А што гэта вы нейкі пануры сёння? — клапатліва пытае аўтар. — Ці не захварэлі часам?

— У мяне проста кепскі зрок, — у статысячны раз тлумачыць рэдактар. — Адсюль ілюзія панурасці.

— Беражыце сябе, вы яшчэ спатрэбіцеся нашай літаратуры. Акуляры трэба насіць.

Рэдактар махае рукою.

— Чэхаў вунь насіў пенснэ, а таксама маршчыны лоб, і яго абсалютна несправядліва лічылі занудам, панурым і ганарлівым.

— Вось, дарэчы! — ажыўляецца аўтар і прыцішае голас, нібы сабраўся падзяліцца якімсьці непрыстойным сакрэтам. — Добра, што згадалі Чэхава. Я чытаў ваша апошняе... Уражвае. Ёсць месцы проста чэхаўскага ўзроўню. Працуйце, і праз два гады...

Рэдактар робіць хітры ход — хутка дастае з шуфляды і кладзе на стол папку з апавяданнем аўтара. Той замаўкае на паўслове, забываецца на ўсё, акрамя гэтай папкі, і рэдактар так і не даведваецца, што ж яго чакае праз два гады.

— Мо прачыталі? — пытае аўтар і аблізвае вусны.

Прачыталі. Апавяданне слабенькае. Проста ніякае. Яго трэба вяртаць. У літаратуры жорсткія законы. І ўсё ж рэдактару шкада аўтара

— Апавяданне... добрае, — пачынае ён плецці абы-што, каб адцягнуць трагічную развязку. — Ды што там, выдатнае апавяданне. Думкі розныя, выразы, сказы... Усё гэта выдатна, але...

Пры гэтым "але" аўтар, які прагна ловіць кожнае слова, уздрыгвае. Потым зноў нізка апускае галаву, быццам падстаўляючы яе пад хуткі бязлітасны абух.

— На вялікі жаль... трэба караціць... А калі тут выкінуць хоць адно слова, апавяданне страціць увесь сэнс... Ці вы згодныя падкарадіць?

— Яшчэ чаго! — аўтар так рашуча паварочваецца, што крэсла пад ім рыпіць. — Вяртаеце?

— Вяртаем, — не ў сілах больш мучыць чалавека, разам апускае абух рэдактар.

І — вось дзіва! Абух аказваецца чароўным! Ён не аглушае аўтара, а толькіператварае яго з мілага, ветлівага чалавека ў грознага бунтара. Аўтар парывіста ўстае, з-пад носа ў рэдактара забірае папку.

— Галоўны ў сябе? — пытае ён ледзяным голасам.

— У сябе.

— Вось няхай ён і вырашае! А то будуць тут розныя...

Сабраўшыся дахаты, рэдактар праходзіць калідорам ля кабінета галоўнага і чуе з прачыненых дзвярэй голас аўтара, зноў ператворанага ў сябе ранейшага — далікатнага, мяккага.

— Вось вы ўмееце выслухаць, абнадзеіць... А то заяўляе мне: "Я ўжо — Чэхаў, таму вяртаю рукапіс не чытаючы!"

— Так і сказаў? — сумняваецца добры галоўны рэдактар.

— Менавіта так! І ўвогуле ён, між намі кажучы...

# Віно адзінокіх ад Міхася Башлакова

## Некалькі слоў-развагаў пра новую кнігу паэта

Міхась КАВАЛЁЎ

*Айчыну не кляніце,*
*Не ганьце задарма.*
*Якая ёсць — любіце...*
*Другой у нас няма...*

Падпісацца пад гэтымі словамі, якія, думаецца, не пакінуць раўнадушнымі ніводнага чытача, палічыў бы за гонар любы паэт і кожны грамадзянін-патрыёт.

Гэтыя радкі верша Міхася Башлакова "Радзіма" — з кнігі лірыкі "Віно адзінокіх" (Мінск, Літаратура і Мастацтва, 2011). Яе склалі лепшыя вершы, прысвечаныя Радзіме, маці, каханай, хараству палескіх дарог і беларускіх краявідаў. Лірыцы пранікнёнага і лірычнага паэта, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, лаўрэата Міжнароднага конкурсу "Сто лепшых кніг свету" Міхася Башлакова ўласцівыя мяккая танальнасць, шчымлівая і задумлівая інтанацыя, мелодычнасць, выключная эмацыянальнасць, шчырасць і адкрытасць. У гэтага паэта ёсць вершы, якія, гаворачы словамі аўтара прадмовы Юрыя Фатнева, пройдуць праз сэрцы людзей і з часам стануць шэдэўрамі, як, напрыклад, "З лістападамі", "Сказала маці", "А над Кракавам дождж крапае...", "Яніна", "Дні мае залатыя", "Дзяўчына з вядзерцам духмяных суніц", "Музыка нязваная", "Замарожанае рэха", "Віно адзінокіх".

У вершы "Credo" паэт гаворыць:

*Не прашу ні пасады, ні славы,*
*Ні багацця на грэшнай зямлі...*
*Божа светлы, прашу так замала —*
*Запаветныя словы пашлі.*

І ён знаходзіць такія словы, каб перадаць і гоман бору, і крык жураўоў, і заліхвацкі спеў салаўя, паказаць чытачу навакольны свет з усімі яго колерамі, гукамі і пахамі роднай зямлі. Паэт пераўвасабляе рэчаіснасць, пашырае і паглыбляе яе, з рэчаў простых і, здавалася б, дробязных робіць вялікія. Усім вершам, змешчаным у кнізе, уласцівая гармонія формы і зместу.

З вялікім задавальненнем прачытаў кнігу Міхася Башлакова, у якую ўвайшло больш як дзвесце цудоўных вершаў. Напісаны яны ў розныя гады, і аўтар пры ўкладанні кнігі вылучыў некалькі раздзелаў: "Бярозавая рунь" (творы, напісаныя ў 1968 — 1972 гадах), "Дарогі Палесся" (1975 — 1981), "Дні мае залатыя" (1986 — 1995), "Зялёная восень" (1996 — 2002), "Палі задумныя, як песні" (2003 — 2009 гады).

Многія творы перачытаў па некалькі разоў. Перачытаў і ўспомніў словы Леаніда Галубовіча: "Каб напісаць вершы, больш за тое, стварыць паэзію, трэба жыць незвычайным, неардынарным жыццём, перш за ўсё ўнутраным. І дух, і быццё, у рэшце рэшт, павінны быць на ўзроўні паэтычнай метафары..." Думаецца, цудоўны беларускі лірык Міхась Башлакоў і адносіцца да ліку такіх творцаў.

# Паэзія



Марыя Новікава

* * *

*Высокія цагляныя муры*
*І краты праваdoў пад небам хмурым.*
*У гарадскім нявветлівым віры*
*Мы проста безабліочныя фігуры.*

*Мы — цьмяныя абрысы на сцяне*
*Перад вачмі сляпымі светлафораў.*
*Як у абсурдным, бессэнсоўным сне,*
*Мы патанаем у жыццёвым моры.*

*У гэтай нескaнчонай мітусні*
*Мы камянеем сэрцамі.*
*І самі,*
*Сціраючы ў марноце вечнай дні,*
*Мы робімся патрошку*
*Камянямі.*

* * *

*Ёсць Любоў: не прагне анічога,*
*Не шукае выгады сваёй,*
*Не зайздросціць і не чыніць злога,*
*Шчырасць і святло жывуць у Ёй.*

*Міласэрнасці не знае меры*
*І не носіць пыхі у сабе.*
*Спадзяецца, радуецца, верыць*
*І цябе суцешыць у журбе.*

*Ёсць Любоў, якая не мінае*
*І дае патолю і спакой —*
*Чыстая,*
*Узнёслая,*
*Святая!*
*Хай надзеліць Бог цябе такой.*

## Калыханка Радзіме

*Згарае дзень у полымі асеннім.*
*Твой голас натаміўся і астыў.*
*Танчэюць паміж дрэў прывіды-цені.*
*І ціха вочы закрываеш Ты.*

*Заснуць твае палі і камяніцы,*
*Заснуць твае лясы і гарады,*
*Заснуць твае дарогі і крыніцы,*
*І ў гэтым сне шчаслівай будзеш Ты.*

*Ты ўбачыш нас —*
*гарачымі, жывымі —*
*У полі ўсіх няспраўджаных надзей,*
*І прачытаеш: "Мы Цябе не кінем,*
*І для Цябе душою не астынем!*
*Ніколі..."*
*У вачах сваіх дзяцей.*

* * *

*...А напачатку быў прастор —*
*Бязмежны і бяздонны.*
*Прамовіў Бог, і стаўся свет —*
*Наземны і падводны.*
*А ў надзорнай вышыні,*
*У бездані глыбокай,*
*Каб асвятляць зямныя дні,*
*Заззяла сонца вока.*
*Сягалі ўвысь галовы дрэў,*
*Спявалі птушкі ў вяцці.*
*І чалавек свой дзень сустрэў —*
*Свой першы дзень на свеце!*

* * *

*Такі вялікі белы свет.*
*І ўсё ж на свеце гэтым*
*Ты подыхам сваёй зямлі*
*На ўсё жыццё сагрэты.*

*Натхнёныя Радзімай, зноў*
*З плячэй скідаем стому,*
*З усіх закручаных шляхоў*
*Вяртаемся дадому.*

* * *

*Хавае вечар дрэвы і дамы.*
*Згарэў акраец сонца за дарогай.*
*І месяц малады чапляе рогам*
*Карункі зор...*
*А тут — зіма і мы.*
*Гусцее каля елкі сіні цень.*
*І на далонь тваю*
*сняжынка села.*
*Яна, як я, даверыцца хацела*
*Тваму цяплу*
*У года першы дзень.*



Міхась Мамонька

## У горадзе Тураве

*Як бы ні было цяжка,*
*Усё жыве*
*На Піянерскай вуліцы*
*Маладая паляшучка Наташка.*
*Сярод глушы,*
*У цемені вечнай*
*Яна — як святло*
*Душы чалавечнай.*
*Яе дабраце —*
*Ні краю,*
*Ні дна.*
*Усё жыццё — адна,*
*І толькі сэрца з адчаю*
*Чагосьці хоча,*
*Чагосьці просіць.*
*Ах, маладая! Маладая!*
*Дабрэе свет ад яе.*
*Ёй ранак росіць,*
*Сонца ўстае,*
*Яе Бог гадуе,*
*З ёю Бог жыве.*

## Зярнятка

*Зярнятка роднай нівы,*
*Што кінутае ў глебу*
*Сівых вякоў — як Божы дар,*
*Як дзень шчаслівы,*
*Як вечнасць нашых каранёў.*
*Красуй*
*На радасць свайму веку,*
*Шануй напеў душы і волі.*
*Няхай дае зярнятка чалавеку*
*Любоў зямлі і шчырай долі.*

## Заходзь, сонейка

*Заходзь, сонейка,*
*У хату заходзь!*
*У маёй хаце*
*Будзе добранька,*
*У маёй хаце*
*Будзе цёпленька,*
*І на душы*
*Будзе светленька!*
*Заходзь, сонейка, заходзь!*
*Прагані ночку чорную,*
*Ахіні дзянёчак*
*Мудрасцю*
*На краі*
*Сваёй вечнасці,*
*І сагрэй сабой*
*У хаце Святы Дух*
*Чалавечнасці.*

## На Прыпяці

*Паслухай лета!*
*Тут співаюць салаўі*
*У лазняках.*
*Тут лета ў сэрцы*
*Не змяшчаецца,*
*У Прыпяці купаецца,*
*Загарае*
*На пясчаных берагах,*
*Дзе ты ходзіш,*
*Каханая —*
*Радасць мая,*
*Мой спакой.*
*Тут зямля наша*
*Радзімая — горад Тураў,*
*Як бацька, над ракой.*
*У чужых краях*
*Лета нашага не бывае,*
*Як і песні салаўя.*
*Прыходзь,*
*Прыходзь, дарагая,*
*Паслухаем лета —*
*І ты, і я.*



Ганна Атрошчанка

## Споведзь перасяленкі

*Бягуць ручаёчкі-сцяжыны*
*Да родных мясцінаў маіх,*
*Да самай чароўнай краіны,*
*Дзе лепей жылося за ўсіх!*

*Вось тут каласілася жыта,*
*Квітнеў сіні лён, як заўжды.*
*Сцяжына мая — не забыта!*
*З маленства бяжыць праз гады.*

*Ды шлях гэты, людцы, не блізкі,*
*І столькі падзей тут было!*
*Самотна глядзяць абеліскі*
*На хаты, на наша сяло.*

*І боль мой такі невыносны,*
*Вунь вочы слязой заплылі...*
*Бо стронцый — шалёны і злосны —*
*Застыў дзесьці ў нетрах зямлі.*

## Увесну

*Вішня сёння стала белай,*
*Знак абноўленай вясны!*
*Бегла сцежкай я нясмела,*
*Каб паслухаць спеў лясны.*

*За плячом — плывуць аблокі,*
*Танчаць польку ў вышыні,*
*Праз лясок і луг шырокі*
*Дораць кайстру дабрыні.*

*Дождж — на ніву, на палетак,*
*Хай жа будзе ён густы!*
*За вясной прыходзіць лета,*
*Чэрвень — месяц малады.*

*І да самага світання*
*Зноў і шум, і плёск вады,*
*І народзіцца жаданне:*
*Каб квітнеў наш край заўжды!*

## Пытанне

*Скажы: навошта зноў трывога?*
*На сэрцы камень, скрушны боль...*
*Куды вядзе мяне дарога?*
*Няма цукерак, толькі соль...*
*Пейзаж сагрэе мае вочы,*
*А думкі кружаць карагод...*
*Блукаю ціха я да ночы*
*То праз лужок, то цераз брод.*

*І ззяе сонейка прыветна,*
*Нібы сланечнік у акне...*
*Надзея — дар той запаветны,*
*Што па жыцці вядзе мяне.*

## Самота

*Навошта гэтая самота*
*Ваконнае заслала шкло?*
*Як дадатковая турбота,*
*Прысела раптам на чало...*

*Навошта зноўку сніўся, любы?*
*Навошта вусны цалаваў?*
*І быў вясёлы і не грубы,*
*Пра што сказаць ты мне жадаў?*

*Ці ты няшчасны, альбо хворы?*
*Ці зноў разлука апякла?*
*Дзівіся: ззяюць ночкай зоры,*
*Але не шлюць яны цяпла!*

*І вось такое прызначэнне,*
*І прывітанне ад нябёс...*
*А слёзы — гэта ачышчэнне,*
*Каб кожны крыж цярпліва нёс!*



Фота Ільі Вакуліча

# Святло мазырскага «Светача»

**У самым цэнтры Мазыра, у будынку № 132 на вуліцы Савецкай, што глядзіць на цэнтральную плошчу Леніна, размешчана кнігарня “Светач”. Чым адметнае штодзённае жыццё ўстановы? Якая прадукцыя карыстаецца попытам у жыхароў горада? Разам з загадчыцай кнігарні Ларысай Мілаш, якая працуе на пасадзе ўжо дзесяць гадоў, знойдзем адказы на гэтыя ды іншыя пытанні.**



*Загадчыца кнігарні Ларыса Мілаш (справа) расказвае наведвальніцы магазіна пра кніжныя навінкі.*

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ, фота аўтара**

Кнігарня “Светач” узнікла ў сакавіку 1984 года. У савецкія часы ў горадзе таксама дзейнічала другая ўстанова такога кшталту: кніжны аддзел на аўтастанцыі “Мазыр”. Але ў пачатку 1990-х гадоў ён спыніў сваё існаванне. Што да “Светача”, дык у той перыяд установа таксама была вымушана крыху згарнуць сваю дзейнасць. Першапачаткова прадукцыя размяшчалася ў двух залах на Савецкай, 132, але пазней адну з іх заняў банк. Спярша “Светач” з’яўлялася юрыдычна самастойнай, потым уваходзіла ў склад “Гомелькнігі”. З красавіка мінулага года — у структуры ААТ “Белкніга”. Паводле словаў Ларысы Мілаш, гэта паспрыяла больш эфектыўнай працы ўстановы, дазволіла каардынаваць дзейнасць з іншымі кнігарнямі.

Агульная плошча “Светача” складае 207 квадратных метраў, з іх гандлёвая зала — 146 квадратных метраў. Чатыры гады таму ў памяшканні адбыўся рамонт, дзякуючы чаму кнігарня выглядае прывабна і ўтульна. Прадстаўленая прадукцыя падзелена на шэраг аддзелаў. Школьны, паводле слоў супрацоўнікаў, найбольш актуальны; самыя вялікія продажы — са жніўня па кастрычнік. Аддзел замежных моў цешыць разнастайнай навучальнай літаратурай. Пяць гадоў таму стварылі букіністычны, прычым па просьбе саміх пакупнікоў.

У цэнтры “Светача”— аддзел беларускай літаратуры. З прадукцыі, прадстаўленай там, найбольшым попытам карыстаецца класіка, у прыватнасці, творы Івана Мележа, Максіма Багдановіча, Васіля Быкава. З рускамоўных творцаў — Наталля Батракова і Тамара Лісіцкая. У іншых аддзелах вы знойдзеце мастацкую літаратуру з Расіі і іншых краін свету. Найвялікшыя продажы маюць класічныя творы, фэнтазі, навуковая фантастыка (серыя “Сталкер”), творы Пікуля, Каэльа, Акуніна.

Асабліва арыгінальна аформленыя два аддзелы. Адзін з іх належыць мясцоваму выдавецтву “Белы вецер” і прадстаўляе яго прадукцыю. Другі — аддзел дзіцячай літаратуры. Малыя разам з бацькамі могуць прысесці на лавачку і пагартаць упадабаную кнігу, перш чым выберыце, ці набываць яе.

“Светач” імкнецца ўсяляк прывабіць чытача. Акрамя таго, што ў кнігарні на стэндах шмат карыснай інфармацыі, змяшчаюцца аб’явы ў мясцовай газеце “Сваімі вачыма”. Дзякуючы камп’ютарнай праграме ўся інфармацыя па продажах адсочваецца, таму ў кнігарню аператыўна паступае найбольш запатрабаваная літаратура. Таксама пакупнікі могуць пакінуць заказ — асабліва такую форму ўпадабалі настаўнікі, якія з ахвотай набываюць на ўвесь клас неабходныя сшыткі.

Такія захады прыносяць свае вынікі. У вобласці “Светач” займае другое месца па продажах (пасля Гомеля і перад Светлагорскам). Таваразварот за люты гэтага года склаў 140 млн. беларускіх рублёў, за сакавік — 120 млн.

Зрэшты, у асартыменце кнігарні ёсць выданні, якія карыстаюцца стабільным попытам аўдыторыі без усялякіх маркетынгавых ноў-хаў. Напрыклад, кнігу Аксаны Катовіч і Янкі Крука “Золотые правила народной культуры” ахвотна набываюць як айчынныя пакупнікі, так і замежнікі.

*Прэзентацыя*

# Гісторыя музыкі. Працяг

**Марына ВЕСЯЛУХА**



**“Гісторыя беларускай музычнай культуры: XIX — XX стст.” — кніга даследчыка і музыкі, лідара гурта “Стары Ольса” Зміцера Сасноўскага — была прэзентавана публіцы ў страўні “Камяніца”. Другі том дапаможніка па гісторыі беларускай музыкі (першы прысвечаны музычным тэндэнцыям на нашых землях ад старажытнасці да канца XVIII ст.) пабачыў свет у выдавецтве “Харвест”.**

XIX і XX стагоддзі — складаны і ў той жа час надзвычай цікавы перыяд у гісторыі беларускага мастацтва. Паступовы разрыў з польскай культурай і актыўнае ўзаемадзеянне з рускай, станаўленне новай нацыянальнай ідэі, развіццё гістарычна новага тыпу дзяржавы — СССР, дзве сусветныя вайны… Натуральна, змены ў грамадскім, культурным, палітычным жыцці краіны адбіваліся на развіцці музыкі. Гэтыя моманты і сталі ключавымі для даследавання Зміцера. Важна, што многія тэмы раней не разглядаліся. Так, падчас прэзентацыі выдання аўтар падкрэсліў:

— У кнізе ўпершыню ўзнята тэма гісторыі музыкі беларускай эміграцыі, распавядаецца пра развіццё яе падчас Другой сусветнай вайны. Гэта і ўдзел беларускіх творцаў у мастацкіх брыгадах, песні, што спявалі ў партызанскіх атрадах. Некаторыя раздзелы кнігі прысвечаны тэмам, што не зусім поўна асветлены ў ранейшых даследаваннях нашых навукоўцаў. Гэта кантакты на беларускай зямлі польскіх і расійскіх оперных выканаўцаў, музычная творчасць беларускай інтэлігенцыі XIX ст., экспансія новых інструментаў — гармоніка, балалайкі, гітары, мандаліны — у народную культуру. Аднак усё яшчэ застаецца шмат недаследаваных тэм. Да прыкладу, пытанні развіцця оперы на тэрыторыі Беларусі падчас нямецкай акупацыі, тэма аркестраў, што існавалі ў атрадах Полацкага кадэцкага корпуса ў XIX ст. Толькі згадваецца ў новай кнізе тэма музыкі падчас паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, а тады кожны атрад меў свой гімн.

Зміцер распавёў і пра асаблівасці працы над кнігай. Так, багатай крыніцай інфармацыі стаў Нацыянальны архіў кінафотафонадакументаў у Дзяржынску, шмат інфармацыі захавалася дзякуючы развіццю этнаграфічнай навукі і музейнай справы, многія значныя звесткі атрыманы аўтарам і падчас уласных этнаграфічных экспедыцый.

Апроч самога даследавання выданне змяшчае цікавыя дадаткі. Гэта абрадныя ўрыўкі з работы М. Нікіфароўскага “Очерки Витебской Белоруссии. Дударь”, артыкул Е. Раманава “Вымирающий Инструмент”, даследаванні А. Чумакова “Крылападобныя гуслі беларусаў” і “Песенны найгрыш Г. Слаўчыка” З. Эсвальд.

*У падтрымку чытання*

**Пісьменнік Анатоль ЗЭКАЎ:**

# І лепшы падарунак, і лепшая ўзнагарода

— Цяпер і самому цяжка паверыць, што я правучыўся ў першым класе да Новага года па “Буквары”, не ўмеючы чытаць. Літары ведаў, а складаць з іх словы — ніяк. Маці некалькі разоў чытала тэкст, а я завучваў яго на памяць. Нямала часу прайшло, пакуль настаўніца разгадала мае хітрыкі. Затое як я потым, навучыўшыся чытаць, накінуўся на кнігі!

Памятаю, як на перапынку, пераганяючы адзін аднаго, мы стрымгалоў ляцелі да клуба, дзе месцілася вясковая бібліятэка, каб узяць кніжку. Падчас наступнага перапынку, а то і крадком ад настаўніцы на ўроку, стараліся прачытаць яе, каб занесці назад і абмяняць на новую. А аднойчы бібліятэкарка сказала: “Вы не бегайце праз перапынак, а прачытаўшы — мяняйцеся кнігамі паміж сабой”. Мы нават спаборнічалі, у каго ў фармуляры запісаў болей.

З 7-га класа мае вершы змяшчалі будакашалёўская раённая газета “Авангард”, “Піянер Беларусі” і часопіс “Бярозка”. Цікавіўся паэзіяй, асабліва беларускай. А на той час у вясковую бібліятэку паступалі, мабыць, усе кнігі, што выдаваліся ў рэспубліцы.

Бібліятэкарка на рукі больш як дзве кніжкі не давала. А для мяне рабіла выключэнне: вершы — не раман, чытаюцца хутка. Іншы раз я прачытваў кніжку па дарозе дадому. Найбольш запомніліся Пімен Панчанка, Аркадзь Куляшоў, Анатоль Вялюгін, Рыгор Барадулін, Кастусь Кірэенка. Чытаў усе зборнікі з серыі “Першая кніга паэта”, бо марыў выдаць у ёй некалі і свой, таму і прымерваўся, чаго варты ў параўнанні з гэтымі мае вершы.

З прозы асаблівую цікавасць выклікалі творы на вясковую тэматыку: “Людзі на балоце” І. Мележа, раманы І. Шамякіна, Р. Сабаленкі, М. Лобана. Любіў і кнігі пра вайну, гульня ў якую для нас была ледзьве не штодзённай забавай. Не адзін раз перачытаў зборнікі “Ніколі не забудзем” і “Піянеры-героі”. А вось да замежных аўтараў душа не гарнулася. Усю школьную праграму па літаратуры звычайна прачытваў за лета. У ясны пагодны дзень забяруся, бывала, у садзе на нашу старую разлапую грушу-дзічку, дзе прыладкаваў сабе паміж стваалоў дошчачку, набяру стос кніжак — і чытаю, аж пакуль маці есці не пакліча. А калі пахмурны дзень на дварэ ці раптам дождж заладзіць — перабіраюся ў хату: то прымашчуся ля акна, пазіраючы на вуліцу, то на печы, калі звечарэе.

Новыя кнігі, якія яшчэ не паспелі паступіць у бібліятэку, “падкідвала” настаўніца беларускай мовы і літаратуры Ульяна Фёдараўна Лазавенка, з лёгкай рукі якой сталі пісьменнікамі мае аднавяскоўцы Уладзімір Дзюба і Таццяна Гарэлікава. Дзякуючы настаўніцы ўпершыню прачытаў “Снежныя зімы” Івана Шамякіна.



Калі пачаў самастойна выбірацца ў раённы, а пазней і ў абласны цэнтр, перш-наперш шыбаваў у кнігарню, адкуль прывозіў дамоў цэлую валізку кніг (не шкадавалі грошай бацькі, а то і ад дзеда Грышкі і бабы Мані перападала ў якасці гасцінца, ды і свае ганарарныя грошы меў). На той час кніга была для нас, школьнікаў, і лепшым падарункам, і лепшай узнагародай. Колькі іх у маёй асабістай бібліятэцы і цяпер, кніг ад сяброў ці ўручаных дырэкцыяй школы за “паспяховую вучобу і прыкладныя паводзіны”!

## Маладзічок



**Сяргея Панізніка, паэта і празаіка, добра ведаюць не толькі дарослыя, але і юныя чытачы. Ён аўтар кніжкі "Золкія зёлкі", у якой сабраны вершы для дзяцей малодшага школьнага ўзросту. Падрыхтаваў да друку дзесяць зборнікаў гістарычнай літаратуры "Бацькаўшчына". Браў удзел у выданні шматтомнай "Бібліятэкі дзіцячай літаратуры народаў СССР". Вядомы як укладальнік кніг пра Францыска Скарыну, Кастуся Каліноўскага, Максіма Багдановіча, Янку Купалу, Якуба Коласа.**



# З любоўю да Бацькаўшчыны

Мікола МАЛЯЎКА

Падарунак дзецям — новы зборнік вершаў "Літары ў расе". Разам з аўтарам чытачы наведаюць Мінск і Нясвіж, Навагрудак, Полацк і Тураў, праплывуць па Свіслачы і Дзвіне, пабываюць у замежных краінах і гарадах, даведаюцца, ці ёсць жыццё на Марсе.

Думкі паэта сягаюць у мінулыя вякі, выхопліваюць пры "бляску паходні і лучыны" асобныя гістарычныя падзеі і даты. "Зямля вялікая ў нас, зямля высокая, і нашы вежы ў добры час люлялі сокалаў". У сокалаў гэтых ёсць сваё аблічча, свае імёны: яны — на памяці ў Айчыны, на памяці ўдзячных нашчадкаў. Патрыятычныя вершы-прысвячэнні, вершы-запаветы падахвочваюць зацікавіцца мінулым свайго роду, сваёй сям'і — і адкрыць слаўныя імёны продкаў, блізкіх і далёкіх. З радаводным дрэвам умацуецца сувязь пакаленняў, "кожны стане — кроўным, каб карэнні не забыць, крону звонкую любіць".

У паэтычных творах Сяргея Панізніка шмат дарог і сустрэч, цікавых адкрыццяў, незвычайных прыгод. А яшчэ шмат сонца і блакіту, вясёлкавых колераў. Запамінаюцца мастацкімі вобразамі, настройваюць на адпаведны лад вершы сур'ёзныя і вершы вясёлыя, дасціпныя, як байка. Ашчадна і дбала, як бурштын, шліфуецца ў радках кожнае слова.

*Літары ў расе купаю,*
*бы купальскія вянкі.*
*Мову звонкую ўздымаю*
*ад зямлі да небакраю.*

Асобныя вершы — сюжэтныя, чытаюцца як казкі: звяры і птушкі, дрэвы і расліны ў іх сябруюць, размаўляюць, вучаць дабрыні і мудрасці. Творы гэтыя можна аб'яднаць у літаратурна-мастацкую кампазіцыю і "паказаць" на школьнай сцэне.

Кніжка бачыцца добрым дапаможнікам на ўроках роднай мовы і літаратуры, гісторыі і краязнаўства. Паэзія, маляўнічы свет прыроды, пэўныя дакументальныя звесткі пра наша жыццё, сённяшняе і мінулае, гарманічна паяднаны, асвечаны аўтарскай усмешкай і душэўным святлом. Як песня любові да мілай сэрцу Беларусі гучаць радкі з верша "Салаўіныя сыны":

*Хачу і я за салаўя*
*Быць у цэбе, Краіна.*
*Табе — уся любоў мая*
*І салаўя, і сына.*

Сяргей Панізнік аздобіў кніжку "Літары ў расе" ўласнымі малюнкамі і фотаздымкамі.

## Новы праект

## Яўгенія Янішчыц: вядомая і невядомая

Марына ВЕСЯЛУХА

**Калі гаварыць пра беларускую паэзію другой паловы ХХ стагоддзя, то, безумоўна, паэтычная спадчына Яўгеніі Янішчыц — адна з самых яскравых і таленавітых яе старонак. З творамі паэткі можна пазнаёміцца на старонках шасці прыжыццёвых зборнікаў, выбранага, пагартаўшы перыёдыку… Але праз некалькі год, а дакладней, у 2018-м даследчыку і аматару беларускай паэзіі будзе намнога прасцей убачыць поўную карціну творчасці аўтаркі: менавіта да гэтага часу плануецца завяршыць падрыхтоўку і выданне Збору твораў Яўгеніі Янішчыц. Мяркуецца, што ён пабачыць свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура".**

Праца над укладаннем Збору твораў ужо пачалася. Яго складальнікі — Святлана Калядка, кандыдат філагагічных навук, дацэнт, старшы навуковы супрацоўнік аддзела тэорыі і гісторыі літаратуры Інстытута мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы НАН Беларусі, і Тамара Аўсяннікава, якая ў апошнія гады заявіла пра сябе як пра ўдумлівага крытыка і аўтара паэтычных і празаічных твораў, былая сакурсніца паэткі, яна і стала ініцыятарам задумы.

— Ідэя такога выдання з'явілася даўно, бо Я. Янішчыц вартая таго, каб яе творы выйшлі менавіта ў форме поўнага збору твораў. І сярод пакалення 1970-х, і ўсёй жаночай беларускай паэзіі яна знаходзіцца на даволі высокім, а магчыма, і першым месцы ў іерархіі беларускіх творцаў-жанчын, — распавядае Святлана Калядка. — Колькі тамоў атрымаецца, цяжка пакуль сказаць. Мы будзем кіравацца матэрыялам, які трэба яшчэ і расшукаць. Збор складуць усе паэтычныя творы, што былі прадстаўлены ў выдадзеных пры жыцці паэткі зборніках, а таксама ў кнізе "Выбранае", падрыхтаванай Валянцінай Коўтун ужо пасля смерці аўтаркі, у перыядычных выданнях; тут можна будзе прачытаць і празаічныя творы Я. Янішчыц, іх яна пачала пісаць і публікаваць у апошнія гады жыцця, а таксама публіцыстыку, выступленні на нарадах, пасяджэннях, з'ездах, крытычныя артыкулы, рэцэнзіі, пераклады, лісты.

Збор твораў адкрые і новыя, невядомыя чытачу старонкі творчасці Я. Янішчыц, бо пры яго складанні выкарыстоўваецца матэрыялы з сямейнага архіва (а ў ім хапае неапублікаваных твораў, чарнавых накідаў), допуск да якога прадастаўляе сын паэткі Андрэй, а таксама матэрыялы з Беларускага дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва.

— Натуральна, можна разважаць пра новыя рысы творчасці Я. Янішчыц, яны выяўляюцца толькі цяпер, калі мы працуем з архівамі, — разважае Святлана Калядка. — Я заўважыла, што ў зборнікі не трапіла шмат твораў, у якіх адчуваецца яркі палескі каларыт, ужываюцца дыялектызмы. Толькі з адной апрацаванай папкі з сямейнага архіва назбіралася пэўная колькасць вершаў, якія я раней не бачыла. Да ўсяго, гэты архіў не так даўно папоўніўся новымі матэрыяламі: на гарышчы дома сваякоў Я. Янішчыц на Палессі знайшлі 6 сшыткаў з вершамі, многія з якіх датуюцца 1964 годам (паэтэсе на той час было 16 гадоў). Іх перадалі сыну ў Мінск, а ён, у сваю чаргу, нам.

Але ўзнікае пытанне: ці можна Збор твораў назваць поўным? Бо пра паўнату прадстаўлення творчасці аўтара цяжка разважаць, нават калі мы гаворым пра класікаў. Сёння будзе досыць складана сабраць усе лісты паэткі, а яна вяла перапіску з сябрамі, аднакурснікамі, чытачамі, аўтарамі-пачаткоўцамі. Магчыма, недзе засталіся чарнавыя ці белавыя запісы вершаў, празаічных твораў і г.д. Іх месцазнаходжанне можа быць нечаканым для даследчыкаў і ў той жа час зразумелым для саміх адрасатаў. Таму ўкладальнікі звяртаюцца да чытачоў "ЛіМа" з просьбай дасылаць копіі лістоў, паштовак, дарчых надпісаў Я. Янішчыц на адрас Інстытута мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы: г. Мінск, вул. Сурганава, д. 1, корп. 2 (для Калядкі С. У.), каб Збор твораў быў як мага больш поўным.

## Добрые книжки для самых маленьких

Ольга НОРИНА



Книжечку Елены Михаленко "Весёлые зверюшки" — всего-то из 16 страничек — нужно просто учить наизусть и постоянно цитировать. Потому что это поднимает настроение всей семье. Например, история про ослика. "Папа ослика купил, / Но сказала мама: / — Ты, наверное, забыл, / Как они упрямы?! / Покататься мы верхом / На ослике решили. / Всю дорогу шли пешком / И его тащили!" Или про секрет верблюда, который так долго не ест и не пьёт, а перевозит тяжести по жаркой пустыне: "Есть у верблюда два горба. / В них он делает припасы, / Чтоб потом не есть ни разу!" Расскажет автор, и во что может превращаться хобот у слона, и что делает папа-медведь, когда сынок не хочет всю зиму сосать лапу вместо мёда. Вам понравится эта книжка, потому что на её страничках живут самые обаятельные на свете Барбос и рыжий кот, за стенкой громко шуршат озорные мышки, на ночную охоту за морковкой выходит заяц, спешит купить новые сапожки модница лиса и гуляет в колючей шубке ёж. Все эти герои ожили на ярких рисунках художницы Елены Карпович.

Книжку "Весёлые зверюшки" из серии "Любимым детям" выпустил Свято-Елисаветинский монастырь в г. Минске.

**Адны з самых буйных кнігагандлёвых аб'яднанняў у нашай краіне сёння з'яўляецца ААТ "Магілёўсаюздрук", у складзе якога — чатыры кнігарні, два павільёны і кіёск у корпусе № 1 БСГА ў г. Горкі. Рэалізацыя кніжнай прадукцыі, у тым ліку сацыяльна значнай літаратуры, вядзецца дадаткова ў краме № 1 г. Крычава, павільёнах модульнага тыпу, філіялах і ўчастках гарадоў Асіповічы, Быхаў, Шклоў, а таксама ў кіёсках.**



*Тыдзень дзіцячай кнігі ў магілёўскай кнігарні.*

# Сустрэчу адкладваць не варта!

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота Іны Ракевіч

Пра спецыфіку работы ў Год кнігі і тое, як арганізавана праца па папулярызацыі дзіцячай літаратуры, расказвае Іна Ракевіч, начальнік аддзела друку ААТ "Магілёўсаюздрук":

— Прадпрыемства займае вядучае месца ў Магілёўскай вобласці ў рэалізацыі кніжнай прадукцыі. Наша гандлёвая сетка прапануе літаратуру розных жанраў, у тым ліку для самых маленькіх чытачоў. Бо менавіта ў дзяцінстве, калі нараджаюцца мары, фарміруецца характар, светззяе яркімі фарбамі, на кожным кроку — адкрыцці, кожная прачытаная кніга вельмі важная. Яна можа стаць мудрым дарадцам і верным сябрам. Галоўнае — своечасова знайсці яе, не прамінуць тыя творы, з якіх пачнецца падарожжа ў краіну Літаратуры. Гэта вельмі актуальна ў наш час, калі бацькоў непакоіць, што дзеці столькі часу праводзяць за камп'ютарам, і небяспадстаўна — "бяспека" дзяцей у інтэрнэце хвалюе педагогаў, сацыёлагаў, псіхолагаў. Існуе шмат сайтаў, знаёмства з якімі трэба адкласці да паўналецця. Сустрэчу з добрай кнігай адкладваць не варта!

Ужо шмат гадоў выданні, якія прапануе "Магілёўсаюздрук", радуюць маленькіх разумнікаў і разумніц ды здзіўляюць бацькоў: пра такія кнігі яны ў свой час маглі толькі марыць. Гэтыя выданні самі размаўляюць — задаюць пытанні, расказваюць казкі, спяваюць. Буквары і энцыклапедыі, "разумныя казкі" і серыі музычных кніг, кніжачкі для самых маленькіх, з дапамогай якіх развіваюць і навучаюць, дапамогуць падабраць гандляры-кансультанты. Дашкольнікам прапануем тонкія кніжачкі для самастойнага чытання, вучэбна-развіваючую літаратуру, якой у нас багаты выбар і ў кнігарнях, і на тэматычных выстаўках. Але не забываемся, што ў гэтым узросце патрэбны казкі.

Для малодшых школьнікаў (6 — 10 гадоў) кніга ўжо стала добрым сябрам. Для гэтай узроставай групы прапануем выданні серыі "Школьная бібліятэка": творы, што ўвайшлі ў школьную праграму і рэкамендаваны Міністэрствам адукацыі. І, зразумела, ёсць на нашых паліцах серыі "Любимые книги детства" — лепшыя творы класікаў дзіцячай літаратуры К. Чукоўскага, А. Барто, Б. Захадэра, пазнавальных дзіцячых кніг "Маленький профессор" — новы праект выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі". Кожнае з іх выданняў у займальнай форме знаёміць з Беларуссю, яе легендамі, вядомымі людзьмі, цікавымі мясцінамі, гарадамі і вёскамі, нацыянальнай кухняй, светам прыроды і да т.п. Карыстаецца попытам і развіваючая серыя "Рассказы Деда Природоведа" выдавецтва "Народная асвета".

Асартымент нашых кнігарняў пастаянна папаўняецца дзіцячымі навінкамі айчынных (РВУ "Літаратура і Мастацтва", "Мастацкая літаратура", "Минская фабрика цветной печати", "Сказ", "Современная школа", "Харвест" і інш.) і расійскіх выдавецтваў ("Эксмо", "Росмэн", "Махаон", "Омега", "Азбукварик", "Самовар").

У межах зацверджанага плана мерапрыемстваў па правядзенні ў Магілёўскай вобласці Года кнігі разам з абласным выканаўчым камітэтам ладзяцца выстаўкі-продажы кніжнай прадукцыі ў горадзе і вобласці з выездам у навучальныя ўстановы і на прадпрыемствы. Ва ўсіх кнігарнях афармляюцца да значных падзей тэматычныя куточкі, якія нагадваюць пра важную ролю сяброўства з кнігай: "Падарожжа ў краіну кніг" (да Сусветнага дня пісьменніка), "Мова — наша спадчына" (да Міжнароднага дня роднай мовы), выданні "Мастацкай літаратуры" (да 40-годдзя выдавецтва), "Думаць вершы" (да 55-годдзя А.Пісьмянкова). Правялі акцыю "Чытаем і размауляем на роднай мове".

# Стаўка на маладосць

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

**Саюз пісьменнікаў Беларусі пры падтрымцы выдавецтва “Харвест” заснаваў серыю “Маладая паэзія Беларусі”. Прапануем вашай увазе агляд першых чатырох зборнікаў, якія пабачылі свет.**




### Азарт гульні

**У якасці куратара серыі і аднаго з аўтараў выступіў Рагнед Малахоўскі**. Адказны сакратар часопіса “Маладосць”, ён з’яўляецца аўтарам зборніка “Беражніца” (2005). Новую кнігу Рагнеда **“У дзённай мітусні”** склалі філасофскія імпрэсіі, напісаныя на працягу апошніх гадоў. Лепшым з іх уласцівы лірычнасць, назіральнасць, філасафічнасць: *“паехала // сціхаў сум электрычкі // я адзін // чатыры рэйкі // і тысячы шпалаў // ад мяне да цябе”*. Або: *“на дне ракі // незлічоныя скарбы // чакаюць сваіх шукальнікаў // прыйшоў на бераг рыбак // вуду закінуў”*. Творчыя амбіцыі Р. Малахоўскага прымушаюць яго гуляць па-сур’ёзнаму: *“азарт гульні // зачараваў // пры выйгрышы стаўкі падвойваюцца // паставілі на кон // маладосць”*. Ці застанецца паэт у выйгрышы — пакажа час.

### Маўчанне — золата?

Ураджэнец Баранавіч, **Адам Шостак** працуе ў галіне маркетынгу і рэкламы. Аўтар кнігі вершаў, паэм і апавяданняў “Спатканне Не” (2006). Назву яго новай кнізе **“4.33”** даў знакаміты твор амерыканскага авангарднага кампазітара і піяніста пачатку XX стагоддзя Джона Кейджа, які называўся “4 хвіліны 33 секунды маўчання”. Падчас яго выканання піяніст выходзіў на сцэну, сядаў за раяль, моўчкі сядзеў на працягу 4 хвілін 33 секунд, уставаў, без слоў кланяўся і сыходзіў за кулісы. Не сумняваюся, што прыхільнікі авангарду, якія натхніліся музыкай Кейджа, атрымаюць сапраўднае задавальненне ад вершаў А.Шостака: *“Адмірала Нахімава — // далей невядомасць — // мы дзесьці на межах // зламаных*




*імперыяў. // На вуліцы // адмірала Нахімава // нікога няма… // На вуліцы, што выплывае // з бухты Севастопаля… // Набіраю табе // Ў міжнародным фармаце: // Плюс трыста восемдзесят // Плюстрыставосемдзесят”* (заўважу, што +380 — міжнародны код Украіны).

### «Але я — шчаслівая»

Гамяльчанка **Надзея Філон** — студэнтка філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Скарыны. Яе зборнік **“Кроплі святла”** ўражвае сваёй лірычнасцю і рамантызмам: *“«Шчаслівая», — мне кажуць людзі ўслед. // Я цалкам з імі згодна. Так. Шчаслівая. // Але пранесці шчасця запавет // Складана праз жыццё імклівае. // З яго складаецца няўмольны лёс. // І дзе ж яно, затоена-маўклівае, // Мяне чакае ў абдымках рос? // Мне невядома. Але я — шчаслівая”*. Філасофскія развагі ўласцівыя лірычнай гераіні, што здзяйсняе падарожжа: *“Чыгуначнаю стужкай шлях віецца, // Ізноў імчыць хуткасны цягнік. // Да мэты прагна пасажыр імкнецца, // А колы часу свой вядуць адлік. // (…) // І што ў чужой краіне напаткае? Загадка… Таямніца… А цягнік // Імчыць наперад, хуткасць набірае, // Вядзе бясконцы кіламетраў лік”*.




### «Застацца хачу я з сабой»

Мінчанка **Дар’я Лёсава** (сапраўднае прозвішча Лосева) працуе ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры. Лейтматывам зборніка **“Туга зямная”** стала пачуццё любові да роднай зямлі і маці. На маю думку, творчае крэда Д. Лёсавай найбольш дакладна выказала ў наступных радках: *“Бог з вамі, дзяўчаткі, // Бог з вамі! //*




*Застацца хачу я з сабой // і з сонечнымі барамі, // і з сонечнаю журбой. // Хачу заставацца заўсёды, // Як поле, як рэчка, як луг. // Падалей ад тлуму і моды, // Ад звады, што ходзіць наўкруг. // Не трэба дурнога багацця, // Дзе сэрца няма і душы. // Сабою хачу я застацца // І ў шуме людскім, і ў цішы”*.

Адной з творчых удач паэтэсы стаў вобраз Сяргея Грахоўскага: *“Нямоглы, цягнучы гады // На коніку-кіёчку, // Ступаў, ішоў, нібы святы, // Сяргей Грахоўскі моўчкі. // Я жаўрай ціўкнула ля броў, // Сінічкай каля сэрца. // І Ён ажыў! Нібы любоў, // Што не баіцца смерці!”*. У невялікім вершы Д. Лёсава па-майстэрску ўздымае праблемы жыцця і смерці, творчасці, што працягвае існаваць пасля адыходу аўтара ў іншы свет, пераемнасці паміж літаратурнымі пакаленнямі. На маю суб’ектыўную думку, зборнік Д. Лёсавай атрымаўся найбольш цікавым сярод разглядаемых кніг.

Зрэшты, кожны з чатырох аўтараў знаходзіцца толькі ў пачатку свайго паэтычнага шляху. Будзе надзвычай цікава паглядзець на выніку іх творчай працы праз гады.




## Как познакомиться с Карлой Бруни

Данила АРТИМОВИЧ

О, великий французский язык! Кто из нас не мечтал досконально знать его, переворачивая с умным видом первые страницы “Войны и мира”, прося автограф у Зинедина Зидана или пытаясь перевести текст песни из “Шербурских зонтиков”? Решение этой проблемы предлагает **“Самый наглядный и удобный русско-французский разговорник в картинках и комиксах”**. Вы даже не представляете, в скольких случаях он придёт к вам на помощь!

Например, вы сможете уточнить у сотрудников Лувра, как проще выключить сигнализацию, чтобы вынести “Мону Лизу” (раздел “В музее”). Предварительно одев на голову черную шапочку и взяв для уверенности игрушечный пистолет, попросить кассиршу помочь голодным африканским детям (раздел “В банке”). Оставить на хранение консьержу своё обручальное кольцо, поскольку во время вечерних прогулок по Парижу оно будет мешать общению с молодыми француженками (раздел “В гостинице”). Отправившись отдыхать вместе с одной из них, спасти её из воды, пригласить провести совместный вечер, а не молча удалиться, приговаривая “Моя твоя не понимать” (раздел “В аквапарке”). Попав в Гранд-опера на “Кармен”, дождаться во время спектакля паузы и продемонстрировать всем зрителям своё вокальное мастерство (раздел “В театре”). Пригласить на танец Карлу Бруни и объяснить несколько опешившему Николя Саркози, что сегодня просто не его день (раздел “В ресторане”). Наконец, добрым тихим голосом сообщить пилотам французских авиалиний, работающим на рейсе “Париж — Минск”, что самолёт летит только до города Свислочь, поскольку дедушке нужно срочно посадить картошку (раздел “В самолёте”).

Вы всё ещё колеблетесь? Поверьте, Карла Бруни не любит ждать!

# Посланники небес

Ольга ПАВЛЮЧЕНКО

“Мир энциклопедий Аванта+” предлагает вашему вниманию издание большого формата — “Величайшие живописцы мира”. Винсент Ван Гог, Питер Пауэл Рубенс, Диего Веласкес, Джордоне, Огюуст Ренуар, Питер Брейгель Старший, Эль Греко — о творчестве и подробностях биографий этих и других художников найдётся информация на его страницах. И, конечно же, репродукции работ, позволяющие представить творческую манеру и систему образов каждого мастера.

Отличие этой энциклопедии от подобных изданий в том, что статьи написаны живым языком, призывают задуматься о том, что позволило столь разным людям, которых разделяют не только границы стран, но и временные рамки, остаться в одном пантеоне славы мирового искусства. Как утверждает Алла Чернова в статье, открывающей энциклопедию, все они — и окончивший свои дни иноком Андроникова монастыря Андрей Рублёв, и скандалист и дуэлянт Караваджо, и променявший жизнь на поцелуй умирающей от чумы возлюбленной Джордоне, и аристократ-богач Рубенс, “художник среди королей и король среди художников”, и гений итальянского Возрождения Джованни




Антонио Бацци, ещё при жизни более известный под прозвищем Содома — обычные люди, “но нет такого чувства, переживания или оттенков их, нет такого страдания, такой радости, таких сомнений, такой степени падения или величия духа, какие не пережили бы в душе и не выразили художники”, потому их труд остаётся в веках.

Энциклопедия расскажет об изобретателе многослойной техники наложения масляной краски Яне ван Эйке, точных данных о месте и времени рождения которого история не сохранила; об открытиях флорентийского мастера Джотто ди Бондоне; поведает воссозданную по крупицам биографию фламандца Рогира ван дер Вейдена, использовавшего в своих евангельских работах перспективу; упомянет о флорентийце Боттичелли (Алессандро ди Мариано Филипепи), фрески которого украшают Сикстинскую капеллу; английском пейзажисте Уильяме Тёрнере, виртуозно сумевшем передать изменчивый сверкающий свет; австрийском “певце декаданса” Густаве Климте; “самом красивом пере на шляпе сюрреализма” — так назвал испанского художника Хоана Миро французский поэт Андре Бретон.

Поклонники живописи найдут здесь и репродукции Моне, воспринимавшего мир как совокупность цветных пятен, о творчестве которого Октав Мирабо писал: “Искусство исчезло, можно сказать, испарилось… Перед нами теперь только живая природа, покорённая и приручённая этим удивительным художником. И внутри этой природы, воссозданной во всём её космическом величии, внутри этой жизни, подчиняющейся законам движения планет, бьёт крылами, согревает нас жарким дыханием любви и радости, поёт и завораживает мечта”. Настоящий художник в высшем смысле этого слова — пророк и посланец небес.

# Сведения о субъектах хозяйствования, имеющих специальное разрешение (лицензию) на осуществление издательской деятельности, по состоянию на 15 декабря 2011 года

| Наименование лицензиата | Местонахождение лицензиата (юридический адрес) | Учетный номер плательщика (УНП) | Сведения о лицензии (№ бланка лицензии, дата и № приказа о выдаче) | Срок действия лицензии | Составляющие издательской деятельности: по тематическим направлениям |
|---|---|---|---|---|---|
| НИ РУП по землеустройству, геодезии и картографии «БелНИЦзем» | 220108, г. Минск, ул. Казинца, 86, корпус 3, комн. 812 | 100036358 | 02330/0150377, выд. 19.11.2008 № 134 | 19.11.2013 | производственно-практическое, справочное |
| ПЧУП «Проспектплюс» | 220036, г. Минск, пер. 3-й Загородный, д. 4а, пом. 52, оф. 603 | 190273541 | 02330/736, выд. 19.11.2008 № 134 | 19.11.2013 | научное, производственно-практическое, справочное, издание для досуга |
| РУП «Институт системных исследований в АПК Национальной академии наук Беларуси» | 220108, г. Минск, ул. Казинца, д. 103, комн. 211 | 101001968 | 02330/0150376, выд. 19.11.2008 № 134 | 19.11.2013 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, справочное |
| КУП «Издательский дом «Вечерний Минск» | 220005, г. Минск, пр. Независимости, 44 | 100144018 | 02330/0150367, выд. 19.11.2008 № 134 | 19.11.2013 | научно-популярное, справочное, издание для досуга |
| ОО «Белорусская олимпийская академия» | 220020, г. Минск, пр. Победителей, 105 | 101844039 | 02330/0150369, выд. 19.11.2008 № 134 | 19.11.2013 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, учебное, справочное, издание для досуга |
| ООО «Юнивенс» | 220018, г. Минск, ул. Шаранговича, 19, комн. 501 | 190966044 | 02330/0548555, выд. 19.11.2008 № 134 | 19.11.2013 | производственно-практическое, справочное, издание для досуга |
| ОДО «КОМПИ» | 220049, г. Минск, ул. Черняховского, д. 3, комн. 5 | 100339195 | 02330/0150370, выд. 19.11.2008 № 134 | 19.11.2013 | производственно-практическое, справочное, издание для досуга |
| ОДО «Профигруп» | 220040, Минск, ул. М. Богдановича, 153-417 | 190090226 | 02330/0150372, выд. 19.11.2008 № 134 | 19.11.2013 | производственно-практическое, справочное |
| УП по оказанию услуг «Гомельское отделение БелТПП» негосударственной некоммерческой организации Республики Беларусь | 246017, г. Гомель, ул. Ирининская, 21 | 400002583 | 02330/0150385, выд. 19.11.2008 № 134 | 19.11.2013 | справочное |
| Учреждение «Редакция журнала «Гермес» | 220050, г. Минск, ул. Кирова, 8, корп. 1, к. 101 | 100087537 | 02330/0150373, выд. 19.11.2008 № 134 | 19.11.2013 | производственно-практическое, справочное |
| РО «Братство в честь святого Архангела Михаила в г. Минске Минской епархии Белорусской Православной Церкви» | 220020, Минск, пр. Победителей, 82 | 100992365 | 02330/0494311, выд. 04.03.2009 № 3.3 | 04.03.2014 | научно-популярное, справочное, духовно-просветительное |
| ГУО «Институт переподготовки и повышения квалификации» Министерства по чрезвычайным ситуациям Республики Беларусь | 222131, Минская обл., Борисовский р-н, пос. Светлая Роща | 600398296 | 02330/0150383, выд. 19.11.2008 № 134 | 19.11.2013 | производственно-практическое, учебное, справочное |
| ООО «Зималетто» | 220030, Минск, ул. Октябрьская, д. 19, литер М 2/к, к. 10 | 190787306 | 02330/0150378, выд. 19.11.2008 № 134 | 19.11.2013 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, справочное, издание для досуга |
| ИП Колтунов Б.П. | 224023, г. Брест, ул. Орловская, 35-8 | 200719067 | 02330/0150386, выд. 19.11.2008 № 134 | 19.11.2013 | справочное, издание для досуга |
| ГНУ «Институт генетики и цитологии Национальной академии наук Беларуси» | 220072, г. Минск, ул. Академическая, 27, комн. 123 | 100262387 | 02330/0150384, выд. 19.11.2008 № 134 | 19.11.2013 | научное |
| РУП «Информационно-издательский центр по налогам и сборам» | 220005, г. Минск, пр. Машерова, д. 7, комн. 123 | 190819036 | 02330/0150379, выд. 19.11.2008 № 134 | 19.11.2013 | производственно-практическое, справочное |
| ИП Мультан А.Г. | 220000, г. Минск, ул. Пономаренко, д. 32, кв. 387 | 191062287 | 02330/0150395, выд. 08.12.2008 № 142 | 08.12.2013 | справочное, издание для досуга |
| ИП Горелько Н.И. | Минский р-н, в/г Валерьяново, в/г 39872 | 790175348 | 02330/0494003, выд. 08.12.2008 № 142 | 08.12.2013 | издание для досуга |
| ООО «Гревцов Букс» | 220005, г. Минск, ул. Смолячкова, 16, комн. 210 | 190647875 | 02330/0150394, выд. 08.12.2008 № 142 | 08.12.2013 | научно-популярное, производственно-практическое, справочное |
| ЧИУП «Наша Идея» | 223014, Миинский р-н, дер. Аннополь, ул. Луговая, д. 17 | 690568205 | 02330/0150397, выд. 08.12.2008 № 142 | 08.12.2013 | научно-популярное, производственно-практическое, справочное, издание для досуга |
| ЧИУП «ИнфоСел» | 220005, г. Минск, ул. Гикало, д. 6, кв. 82 | 190719903 | 02330/0150400, выд. 08.12.2008 № 142 | 08.12.2013 | справочное, издание для досуга |
| РУП «Республиканский научно-технический центр по ценообразованию в строительстве» | 220068, г. Минск, ул. Некрасова, 114, пом. 53, комн. 2, 15 | 101024243 | 02330/0150396, выд. 08.12.2008 № 142 | 08.12.2013 | производственно-практическое |
| ЧУП «КРЕАТИВ-ЛАБОРАТОРИЯ 82» | 220029, г. Минск, ул. М. Богдановича, д. 22, кв. 3 | 690377968 | 02330/0494005, выд. 08.12.2008 № 142 | 08.12.2013 | справочное, издание для досуга |
| РУП «Жилкоммунтехника» | 220079, г. Минск, ул. Кальварийская, 25 | 100135569 | 02330/0494006, выд. 08.01.2009 № 2 | 08.12.2013 | производственно-практическое, справочное |
| ООО «Современная школа» | 220104, г. Минск, ул. П. Глебки, д. 11, Литер Б-4/К, комн. 21 | 190496188 | 02330/0494010, выд. 08.01.2009 № 2 | 08.01.2014 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, учебное, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| ГУ «Республиканский учебно-методический центр физического воспитания населения» | 220035, г. Минск, ул. Игнатенко, 13, комн. 201, 218, 219, 220 | 100377529 | 02330/0494008, выд. 08.01.2009 № 2 | 08.01.2014 | научно-популярное, производственно-практическое, справочное |
| ЧУП «Редакция журнала «Служба спасения 01», республиканского государственно-общественного объединения «Белорусское добровольное пожарное общество» | 220090, г. Минск, ул. Олешева, д. 14, к. 103, 103а | 190719903 | 02330/0494009, выд. 08.01.2009 № 2 | 08.01.2014 | научно-популярное, производственно-практическое, справочное, издание для досуга |
| ИЧУП «Белстан» | 220034, г. Минск, пер. Броневой, д. 10, кв. 6 | 191066851 | 02330/0494011, выд. 08.01.2009 № 2 | 08.01.2014 | научно-популярное, производственно-практическое, справочное, издание для досуга |
| ООО «ФУАинформ» | 220013, г. Минск, ул. Кульман, д. 2, комн. 220 | 101265077 | 02330/0549453, выд. 08.01.2009 № 2 | 08.01.2014 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, учебное, справочное, издание для досуга |
| КПУ «Литературный свет» | 220026, г. Минск, ул. Народная, 43-18 | 190960299 | 02330/0494069, выд. 03.02.2009 № 12 | 03.02.2014 | литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| РИУ «ЛИТЕРАТУРА И ИСКУССТВО» | 220034, г. Минск, пр. Независимости, 39, к. 4а | 190361292 | 0233/0494044, выд. 03.02.2009 № 12 | 03.02.2014 | научно-популярное, производственно-практическое, учебное, массово-политическое, литературно-художественное, духовно-просветительное, справочное, издание для досуга |
| УО «Государственный учебный центр подготовки, переподготовки и повышения квалификации кадров «Белдорстрой» | 220073, г. Минск, ул. Кальварийская, д. 37, к. 405 | 100008235 | 02330/0494039, выд. 03.02.2009 № 12 | 03.02.2014 | производственно-практическое, справочное |
| ОДО «КолА-АРТ» | 211030, Витебская обл., г. Орша, ул. Мира, д. 74, комн. 1 | 390456579 | 02330/0494304, выд. 04.03.2009 № 3.3 | 04.03.2014 | литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| ООО «БЕЛПРИНТ» | 220013, г. Минск, пр. Независимости, д. 77, комн. 48 | 100389707 | 02330/0552553, выд. 04.03.2009 № 3.3 | 04.03.2014 | научно-популярное, производственно-практическое, учебное, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| ООО «Терра-Бренд» | 225800, Брестская обл., г. Иваново, ул. Комарова, д. 15 | 290495001 | 02330/0494318, выд. 04.03.2009 № 3.3 | 04.03.2014 | научно-популярное, справочное, издание для досуга |
| ИП Дежурко А.С. | 224001, Брест, ул. Республиканская, д. 17, кв. 31 | 290667145 | 02330/0494321, выд. 16.04.2009 № 31 | 16.03.2014 | издание для досуга |
| ЗАО «СПН-МЕДИА» | 220101, г. Минск, Якубова, д. 6, пом. 254а | 191054076 | 02330/0494315, выд. 04.03.2009 № 3.3 | 04.03.2014 | справочное, издание для досуга |
| Духовное УЗ «Библейский колледж христиан веры евангельской» | 220092, г. Минск, ул. Бельского, д. 15, комн. 103 | 100776710 | 02330/0494316, выд. 04.03.2009 № 3.3 | 04.03.2014 | учебное, духовно-просветительное, справочное, издание для досуга |
| ИП Шейко А.И. | 220019, г. Минск, ул. Федорова, д. 19, кв. 168 | 191234336 | 02330/0494320, выд. 16.04.2009 № 31 | 16.03.2014 | производственно-практическое, справочное, издание для досуга |
| ОДО «ТОНПИК» | 220034, г. Минск, пр. Независимости, д. 34, комн. 1 | 101425188 | 02330/0494407, выд. 27.03.2009 № 5.2 | 27.03.2014 | официальное, научное, научно-популярное, производственно-практическое, учебное, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |

Літвандроўка

Раіса БАРАВІКОВА

# 55 чароўных колераў «Вясёлкі»

*Сваю вандроўку мы пачынаем з гісторыі выдання, а калі больш дакладна, дык нават з таго, што яму папярэднічала. Маю на ўвазе вядомую са школьных падручнікаў "Лучынку", якую выдавала ў 1914 годзе класік нашай літаратуры Цётка. Спецыяльна для "Лучынкі" пісалі Янка Купала, Якуб Колас, Канстанцыя Буйло і, зразумела, сама Цётка… Тое выданне, на жаль, праіснавала нядоўга: час быў вельмі няпросты. Потым пад рэдакцыяй Змітрака Бядулі ў самыя першыя гады Савецкай улады пачаў выходзіць часопіс для дзяцей "Зоркі", але і яго лёс абарваўся ўжо на дзясятым нумары — не хапала паперы! І толькі ў 1957 годзе была заснавана "Вясёлка", першым рэдактарам якой стаў Васіль Вітка (Цімох Крысько). Шкадую, што са школьных гадоў памяць не ўтрымала той самы першы нумар, які, безумоўна ж, стаў сапраўдным святам. Але на дапамогу прыходзіць Уладзімір Сцяпанавіч і не толькі расказвае пра яго, а і паказвае, вымаючы з-пад шкла, з прыгожай рамкі.*

— Вы толькі паглядзіце, якою ўжо тады "Вясёлка" была прыгожай! У прывабна-каляровае адзенне яе апранулі мастакі Раіса Кудрэвіч і Юзаф Пучынскі. Разгортваем часопіс… Бачым, што віншаванні з выхадам яго першага нумара і свае пажаданні даслалі тады ўжо вельмі вядомыя выданні для дзяцей "Мурзилка" і літоўскі часопіс "Дятел". З вітальным словам звярнуўся і класік нашай дзіцячай літаратуры Янка Маўр: "Дарагія маленькія сябры! Вось і да вас прыйшоў новы часопіс. Знаёмцеся з ім, чытайце і перачытвайце, сябруйце з ім — і вы ўбачыце, што ён можа быць вашым добрым, цікавым і вясёлым таварышам!.." Тут жа друкуецца і верш Сяргея Грахоўскага "Вясёлка", які неўзабаве стаў песняй у гонар выдання. Музыку напісаў кампазітар Кім Цесакоў: "…Распраўляе крыльцы пчолка, зелянее збажына. Загарэлася вясёлка — будзе добрая вясна!" У такім жа радасна-прыўзнятым настроі гучаць і творы іншых пісьменнікаў: Артура Вольскага, Васіля Віткі, Усевалада Краўчанкі, Васіля Хомчанкі…

Помню, Васіль Вітка расказваў, што вельмі доўга шукалі назву для часопіса. Спыніліся на вясёлцы, як на прыроднай з'яве, што надзвычай радуе і цешыць дзяцей. Калі такое ёсць у прыродзе, няхай і ў жыцці будзе, як цуд, як нешта вельмі прыгожае, што захапляе і вабіць, прыцягвае! Так яно і адбылося… "Вясёлка" з першага нумара захапляе тысячы і тысячы маленькіх чытачоў. І вельмі важна, што яна аб'яднала вакол сябе дзіцячых пісьменнікаў, стала сапраўдным цэнтрам літаратуры для дашкольнікаў і малодшых школьнікаў. Пра што заўжды марыў і на адным з пісьменніцкіх пленумаў сказаў калісьці Міхась Лынькоў, гэта пра тое, што "Вясёлка" павінна збіраць на сваіх старонках лепшыя творчыя сілы і гуртаваць іх вакол сябе. Так яно і было заўжды, гэтак, дарэчы, і цяпер, калі ўзяць нават сённяшнюю рэдкалегію…

**Гэта, напэўна, сапраўды так… Таму што кожны год для часопіса "Вясёлка" па-свойму непаўторны, яркі, адметны: і ў мастацкім афармленні, і ў тым цікавым, разнастайным змесце, які дорыць нашым дзецям кожная старонка гэтага ўнікальнага выдання. Сённяшняя літаратурная вандроўка прысвячаецца "Вясёлцы" і, вядома ж, у спадарожнікі я запрасіла вядомага пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, галоўнага рэдактара "Вясёлкі" Уладзіміра Ліпскага.**

**— Уладзімір Сцяпанавіч, да слова, як ні дзіўна, асабіста я даволі позна пачала друкавацца ў "Вясёлцы". Але нават тады не-не ды адчувала нейкую сваю далучанасць. Помню, аднойчы Васіль Вітка папрасіў разам з іншымі пісьменнікамі паехаць на літаратурную сустрэчу ў адну са школ Міншчыны. А Еўдакія Якаўлеўна Лось у першыя ж месяцы свайго рэдактарства запрасіла ў рэдакцыю і доўга пераконвала, як гэта важна — пісаць для дзяцей, дзялілася планамі, якой яна хоча бачыць "Вясёлку". А з якімі пачуццямі вы ішлі на пасаду галоўнага рэдактара гэтага ўжо вельмі вядомага выдання ў тагачасным СССР?**

— Вы правільна адзначылі, што "Вясёлка" ўжо тады была вельмі вядомым дзіцячым часопісам. Мяркую, што ў тым немалая заслуга і галоўных рэдактараў, якія працавалі да мяне. Вы толькі ўявіце вядомасць Васіля Віткі! Якая была шырокая прызнанасць, калі ён быў узнагароджаны Ганаровым дыпломам Міжнароднага журы па прэміях імя Х. К. Андэрсена з занясеннем прозвішча пісьменніка ў Ганаровы спіс дацкага казачніка! І гэта ж, у прынцыпе, была слава нашай дзіцячай літаратуры! Потым, пасля Віткі, галоўным рэдактарам, як вы ўжо згадалі, некаторы час працавала Еўдакія Лось — тады вельмі вядомая паэтка! Затым часопіс узначаліў, хай сабе і ненадоўга, Анатоль Грачанікаў, таксама знакаміты паэт! Але галоўнае — аўтары "Вясёлкі"… У нас заўжды была моцная дзіцячая літаратура, нездарма ж адкрылі тым часам выдавецтва "Юнацтва"! Я ішоў на вельмі высокую планку, на моцны, трывалы падмурак, калі хочаце, на праграму, якую заклалі пачынальнікі: навучы дзяцей шанаваць і любіць сваю зямлю, мову, гісторыю, культуру, што з'яўляецца асновай духоўнага выхавання дзіцяці. І ў гэтым плане "Вясёлка" — першая сцяжынка да душы. Часопіс ідзе ў хату да свайго маленькага чытача і, практычна, застаецца там надоўга, як буквар жыцця, яго азбука… Высокі ўзровень не проста трэба было трымаць, а яшчэ і штогод прыўносіць нешта сваё… жыццё ж рухаецца! Тут трэба сказаць, што была ў мяне моцная вера і любоў менавіта да дзіцячай літаратуры, я тады ўжо быў аўтарам некалькіх кніг для дзяцей…




Так выглядае сучасная "Вясёлка".




Вокладка першага нумара "Вясёлкі" (красавік 1957 г.). Мастак Раіса Кудрэвіч.

**— Я іх вельмі добра помню… Гэта "Рыгоркавы прыгоды" і "Марынчына казка". А скажыце, як з'явіўся вобраз Васі Вясёлкіна, які да гэтага часу ў кожным нумары самы галоўны і герой, і аўтар адначасова?**

— Цяпер гэта ўжо як легенда… Мастак Яўген Ціхановіч аднойчы купіў і прынёс у рэдакцыю дзіцячую ляльку — вельмі сімпатычнага хлопчыка, якога супрацоўнікі тут жа дружна назвалі Вясёлкіным. З часам "пад яго" ў часопісе пачалі з'яўляцца самыя розныя рубрыкі: "Тэатр Васі Вясёлкіна", "Спеўнік Вясёлкіна", "Крышку пра кніжку", а пісьменнікі нават рабілі яго героем сваіх твораў. Тут варта згадаць і Сяргея Грахоўскага, і Артура Вольскага, ды і Васіля Вітку з яго "Азбукай Васі Вясёлкіна". Гэты вобраз, як і вобраз нашай Васілінкі, настолькі вядомы і папулярны сярод школьнікаў, што мы ў рэдакцыі ўсур'ёз задумваемся, што ўжо надышоў час, каб у сталічным Цэнтральным дзіцячым парку быў пастаўлены помнік Васю Вясёлкіну. Дарэчы, ужо ёсць і праект.

**— Уладзімір Сцяпанавіч, давайце пагаворым пра сакрэты папулярнасці "Вясёлкі". З усіх літаратурна-мастацкіх выданняў у яе штогод самы вялікі тыраж. Як вам удаецца нічога не страчваць, а наадварот, назапашваць? Пагадзіцеся, што, як і дваццаць гадоў таму назад, як і сорак, ваш часопіс застаецца цікавым і любімым выданнем для дзяцей. А часы ж мяняюцца… Мы часта згадваем кніжны бум, які назіраўся ў мінулым стагоддзі, і скардзімся, што сучасныя "камп'ютарныя" дзеці мала чытаюць. І вось ваш юбілейны красавіцкі нумар… Тыраж — 13 500 экзэмпляраў! Такія тыражы дзіцячых выданняў ужо не ў кожнай краіне ёсць!**

— Справа ў тым, што ніякіх вялікіх сакрэтаў у нас, маю на ўвазе рэдакцыю "Вясёлкі", якраз і няма. Увесь сакрэт у тых творах, якія мы друкуем, ды ў таленце іх аўтараў! Таму напярэдадні нашага юбілею не магу не назваць такіх выдатных дзіцячых пісьменнікаў, як Алена Масла, Алесь Бадак, Людміла Рублеўская, Анатоль Бутэвіч, Уладзімір Мазго, Генадзь Аўласенка, Анатоль Зэкаў, Пятро Васючэнка, Валерый Гапеяў… Свой талент дораць дзецям і знакамітыя нашы паэты: Мікола Мятліцкі, Віктар Шніп, Мікола Маляўка, Казімір Камейша… Паранейшаму плённа працуе і старэйшае пакаленне нашых творцаў: тут Ніна Галіноўская і Мікола Чарняўскі, Міхась Пазнякоў і Уладзімір Мацвеенка, Валянцін Лукша і Уладзімір Карызна… Свае скарагаворкі і загадкі прапануе Анатоль Клышка, аўтар славутага беларускага буквара. А калі да гэтых імёнаў дадаць і літаратурную моладзь, дык атрымаецца магутны творчы калектыў! І плён у такога калектыву — вялікі… Ён — у выбраным "Вясёлкі"! Да сёлетняга юбілею часопіса выходзіць шосты выпуск.

Вядома, не абыходзіцца і без пошуку: новых тэм, новай падачы матэрыялаў. Вельмі ўдалымі і цікавымі для маленькіх чытачоў аказаліся нашы штогадовыя праекты "Міс «Вясёлкі»", "Чэмпіён «Вясёлкі»", "Замежныя вандроўкі па краінах свету". А вось 2012 — гэта Зорны год "Вясёлкі", дзе на кожны нумар прыпадае пэўны гараскоп. Не магу тут не згадаць і пра наш сайт у Інтэрнэце, на які за дзень звычайна заходзіць да 500 дзяцей, мы за яго атрымалі Міжнародны прыз "Tibo-2011". Па запрашэнні ездзілі ў Маскву на Усерасійскую выстаўку "Лепшае — дзецям!". Прывезлі адтуль Ганаровы дыплом, як удзельнікі выстаўкі. Гэта ўсё гаворыць пра тое, што наша "Вясёлка", як і раней, застаецца вядомым выданнем і за межамі Беларусі. Праз яе маленькія чытачы іншых краін могуць пазнаёміцца з сучаснай дзіцячай літаратурай Беларусі, з пісьменнікамі, якія прыйшлі ў яе ў апошнія дзесяцігоддзі.

**— Безумоўна, мне, як пісьменніцы ды і проста як даросламу чытачу, заўжды вельмі цікава пазнаёміцца з тым ці іншым нумарам "Вясёлкі". А яшчэ цікавей нешта прачытаць пра часопіс. Прызнаюся, што з задавальненнем прачытала кніжачку вядомага філолага, настаўніцы пачатковых класаў Ірыны Буторынай "Урокі. "Вясёлка". Часопіс для дзяцей". Вельмі грунтоўная і патрэбная праца, якая можа стаць узорам, як лепш увесці маленькага чытача ў дзівосна-загадкавы свет дзіцячай літаратуры. Не магла не звярнуць увагі і на вашы словы, Уладзімір Сцяпанавіч, на вокладцы кніжкі: "…Навучым нашых дзяцей моцна любіць сваю мілую Айчыну. Хай жа прыйдуць на змену нам надзейныя спадчыннікі, узбагачоныя мудрасцю продкаў, напеўнай роднай моваў, напоўненыя крынічнай духоўнасцю Беларусі". Ці не гэтыя словы лягуць у аснову юбілейнага свята "Вясёлкі"?**

— Вы недалёка ад ісціны… "Вясёлка" — старэйшы беларускамоўны літаратурна-мастацкі часопіс для дзяцей. Яго 55-годдзе супала з Годам кнігі ў нашай краіне, дзе мудрыя продкі яшчэ ад часоў Скарыны ўмелі не толькі ствараць лепшыя з кніг, а і шанаваць іх як неад'емную частку нашага духоўнага жыцця. Гэта павінны ўсведамляць сучасныя дзеці, каму праз кнігу мы перадаём любоў, усе свае лепшыя чалавечыя пачуцці, без якіх цяжка ісці ў будучыню, у заўтрашні дзень Беларусі. І ўсё ж, усялякі юбілей — свята радаснае, урачыстае, вясёлае! Яно абавязкова павінна запомніцца дзецям, якія з'едуцца з усіх куточкаў нашай краіны. Вядома, хацелася б ужо цяпер расказаць пра ўсе ўрачыстасці, але са свайго жыццёвага вопыту ведаю, што дзецям падабаюцца таямніцы, якія ў патрэбны момант раскрываюцца цудам… казкі ці гульні! Наша святочная казка, да якой засталося ўсяго некалькі дзён, — наперадзе! Ну, а тых дзетак, каму не пашчасціць трапіць на яе, запрашаю ў рэдакцыю, у музей "Вясёлкі", за які мы ўдзячны Міністэрству інфармацыі. І гэтае падарожжа таксама будзе вельмі цікавым.

Мастак і кніга

# Акварэльныя летуценні

**Выстаўка акварэляў Рыты Цімохавай з загадкавай назвай "Тэрыторыя умбры" адкрылася ў мінскай "Галерэі Мастацтва". Экспанаваліся выбраныя творы мастачкі, якія адлюстроўвалі напрамкі яе дзейнасці. Рыта Міхайлаўна плённа працуе як кніжны графік, на яе рахунку шмат аздобленых дзіцячых выданняў, выкладае ў Мінскай дзяржаўнай гімназіі-каледжы мастацтваў, займаецца рукатворнымі кнігамі-карцінамі (кожны аркуш такой кнігі — самастойны артаб'ект), не цураецца і станковых работ. Некаторыя з прадстаўленых карцін могуць стаць ілюстрацыямі да новых беларускіх кніг.**

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА, фота Марыны Гарэлавай**

## На памежжы графікі і жывапісу

Кніга для мастачкі — не толькі друкаванае выданне, што падпарадкоўваецца строгім законам. Яна эксперыментуе, ствараючы старонкі, на якіх ілюстрацыя і тэкст іграюць аднолькавую ролю. Тэкст робіцца мастацкім элементам, але не губляе сваёй галоўнай функцыі — перадачы інфармацыі. Гэтыя старонкі можна злучыць — і перад вамі ўнікальнае выданне. Дотык да яго — адчуванне цуду. Верагодна, з такім адчуваннем бралі ў рукі кожную кнігу да вынаходніцтва друкарскага станка.



*Рыта Цімохава. "Зімовы настрой".*

Па фармальных якасцях гэта твор, які можна аднесці і да станковай графікі, і да жывапісу, і тым не менш — гэта кніга, якую з цікавасцю чытаеш. Графічныя лісты мастачкі навеяны творамі Яна Баршчэўскага "Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях", вершамі Уладзіміра Караткевіча і Анатоля Сыса. На некаторых работах чытачы пазнаюць галоўную гераіню кніжкі Наталлі Голубевай "Сказки тётушки Руфь", што была выдадзена у РВУ "Літаратура і Мастацтва" і аздоблена Р. Цімохавай.

## Тэрыторыя душы

Мастак — гэта чалавек, які не развучыўся здзіўляцца свету, адчуваць настрой і ўважліва прыслухоўвацца да свайго водгуку на ўбачанае, пачутае, прачытанае. У карцінах Рыты Цімохавай ажывае душа беларуса — стрыманага ў сваіх эмоцыях, але з багатым унутраным светам. На карцінах можна сустрэць чароўную жанчыну-птушку, дам і кавалераў у старажытных уборах, хлопчыка-анёлка на заснежаным даху. Настрой ствараецца пры дапамозе прыцішаных колераў. Пазнавальны па манахромным шэра-залаціста-карычневым каларыце і ўласцівай для акварэльнага жывапісу тэхніцы, якой добра валодае мастачка. Адметны тонкай нюансіроўкай тонаў і паўпразрыстым нанясеннем фарбаў. Галоўныя героі — жанчыны, птушкі, кветкі — рэальныя і фантастычныя. У работ вельмі выразныя назвы: "Нацюрморт з птушкай", "Чорны манах", "Лекар", "Кніжнік" і інш. "Келіх «Каліфарнійскага»", па якім можна скласці цэлую навелу, Сяргей Цімохаў лічыць лепшым творам жонкі.



*Рыта Цімохава. "Чароўныя зёлкі".*

Рыта кажа: "Муж — галоўны эксперт. Гэта з яго дапамогай адбіралі мае лепшыя карціны за апошнія дзесяць гадоў: 22 графічныя аркушы і тры раздрукоўкі на палатне".

У першую чаргу яна малюе для душы, але прасякнутыя хараством беларускай зямлі творы могуць стаць ілюстрацыямі многіх выданняў. Р. Цімохава запатрабавана як кніжны графік. Жартуе: "Няма часу адпачыць ад кніг". Прапаноў у мастачкі шмат: кніжкі-гульні, прыгодніцкія, гістарычныя. Запрасіла да ўдзелу ў новым праекце Н. Голубева. Наступная яе кніга, у якой Руф пакідае сваіх лясных сяброў і адпраўляецца разгадваць таямніцы полацкай зямлі, пабудаваная на беларускай міфалогіі і полацкім фальклоры.

На адкрыцці выстаўкі старшыня Беларускага саюза мастакоў Уладзімір Савіч адзначыў высокі ўзровень работ мастачкі. Яго першы намеснік Рыгор Сітніца падкрэсліў, што ў сям'і Рыты і Сяргея Цімохавых зайздросны парытэт, яны плённа працуюць, не зацікаючы і не паўтараючы адно аднаго. Шмат добрых слоў сказалі пра мастачку яе сябры і землякі Генадзь Мацур, Уладзімір Шапо, пісьменніца Наталля Голубева, дырэктар "Галерэі Мастацтва" Алена Лагоўская.

Выстаўка працуе да 17 красавіка.

# Даследчык, філосаф, філолаг

**Прэзентацыя новай кнігі ўжо даўно перастала быць справай надзвычайнай у беларускай культурнай прасторы. Але калі прадстаўленне выдання спалучаецца з кніжнай выстаўкай, а таксама са святкаваннем юбілею аўтара, можна казаць пра новы жанр імпрэзы. Менавіта такая падзея "змешанага" фармату адбылася ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа НАН Беларусі. Тут прайшлі адкрыццё выстаўкі "Творчая лабараторыя даследчыка: каштоўнасці кніжна-пісьмовай культуры" і прэзентацыя кнігі "Паэтыка і семіётыка публіцыстычнай літаратуры Беларусі XVI — XVII стст.", прымеркаваныя да 50-годдзя філолага, гісторыка і філосафа, доктара філалагічных навук Івана Саверчанкі.**

**Марына ВЕСЯЛУХА, фота аўтара**

— Мы адзначаем юбілей навукоўца, які зрабіў велізарны ўклад у развіццё і даследаванне гісторыка-культурнай спадчыны беларускага народа, — падкрэсліў акадэмік-сакратар аддзялення гуманітарных навук і мастацтва НАН Беларусі, доктар гістарычных навук Аляксандр Каваленя.

Складана не пагадзіцца з шаноўным навукоўцам, бо на рахунку Івана Васільевіча — больш як 250 навуковых артыкулаў, манаграфій, вучэбных дапаможнікаў. Гэтыя выданні, а таксама кнігі, якія даследаваў юбіляр і якія сталі крыніцай яго навуковага натхнення, аб'ектам творчых пошукаў, былі прадстаўлены на выстаўцы. Сярод іх — каштоўныя помнікі кніжнай культуры Беларусі XVI — XVII стст., што захоўваюцца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа НАН Беларусі. Тут і знакамітая "Брэсцкая Біблія" 1563 г., першае беларускае друкаванае "Евангелле вучыцельнае" 1569 г., свецкія выданні гэтага часу, а таксама новыя кнігі, да выхаду якіх спрычыніўся Іван Саверчанка.

— Сённяшняя прэзентацыя кнігі — незвычайная, бо мы маем справу з навуковым выданнем, прысвечаным даследаванню старажытнага беларускага пісьменства, — зазначыў дырэктар Інстытута мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы НАН Беларусі, доктар філалагічных навук Аляксандр Лукашанец. — Гэта вельмі важна, бо на пачатку XXI ст. нам неабходна вяртанне гістарычнай спадчыны, культурнай памяці. Новае выданне, як і многія іншыя даследаванні, што належаць пяру аўтара — важны ўнёсак у гэтую справу. Больш за тое, Іван Васільевіч актыўна працуе ў галіне прапаганды нашай культурнай, кніжнай спадчыны за межамі Беларусі.

— Тэарэтычныя абагульненні, выкладзеныя ў манаграфіі Івана Саверчанкі "Паэтыка і семіётыка публіцыстычнай літаратуры Беларусі XVI — XVII стст.", "адстойваліся", фармуляваліся на працягу многіх гадоў, — падкрэсліў намеснік дырэктара па навуковай рабоце Інстытута мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы НАН Беларусі Сяргей Гаранін. — Першыя даследаванні аўтара былі пераважна работамі гістарычнага характару, змяшчалі больш фактаграфічных звестак, аналізу твораў.



*З 50-годдзем і выхадам новай кнігі Івана Саверчанку віншуе Аляксандр Каваленя.*

Каб павіншаваць Івана Саверчанку з юбілеем і выхадам новай манаграфіі, на вечарыну завіталі яго калегі з Інстытута мовы і літаратуры НАН Беларусі, Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта, Белдзяржуніверсітэта, творцы-паплечнікі з Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Пад вокладкай

**Юзэфа ВОЎК**



**Сцяпан, У. А. Адна капейка / Уладзімір Сцяпан. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2012. — 224 с.**

"Гэта нячастая з'ява, калі творчасць пісьменніка робіцца папулярнай і запатрабаванай пераважна па часопісных публікацыях… Чытачы, якім выпадкова пашанцавала натрапіць дзесьці ў перыёдыцы на творы У. Сцяпана, у пераважнай большасці выпадкаў назаўжды робяцца палоннікамі яго мастацкага свету", — піша ў прадмове да кнігі вядомы літаратурны крытык Лада Алейнік. Згадвае яна і тое, што сама неаднаразова бачыла, як студэнты літаральна "з рук у рукі" перадавалі нумары "Маладосці" з творамі гэтага аўтара. Таму, думаецца, выхад дадзенай кнігі — сапраўдная радасць не толькі для аўтара, але і чытача. У зборнік прозы ўвайшлі лепшыя творы У. Сцяпана, напісаныя за апошнія восем гадоў. Гэта навелы, апавяданні, тэксты без дакладнай жанравай маркіроўкі.



**Мелодыя натхнення — A Melody of Inspiration / склад. Т. А. Сінькевіч. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 2012. — 240 с.**

Калі разважаюць пра вядомасць беларускай паэзіі за межамі нашай краіны, адным з галоўных аргументаў яе незапатрабаванасці становіцца адсутнасць перакладаў нашых вершаў на замежныя мовы. Але цяпер ёсць важкі контраргумент — гэтае выданне. У ім пад адной вокладкай сабраны творы пейзажнай і інтымнай лірыкі беларускіх паэтаў XIX — XX стст. на мове арыгінала і ў перакладзе на англійскую. Кніга не толькі прадстаўляе нашу паэзію, але і дазваляе прасачыць адметнасці развіцця перакладчыцкага майстэрства: тут змешчаны як перастварэнні вядомых перакладчыкаў з Вялікабрытаніі — Веры Рыч і Уолтэра Мэя, — так і пераклады (нават аўтарызаваныя) нашых суайчынніц — Таццяны Сівец і Таццяны Акушэвіч.



**Олвик, Эндрю. Достояние нации. Секретная миссия — 2. / Эндрю Олвик. — Минск: МФЦП, 2012. — 288 с.**

Кніга распавядае пра прыгоды герояў папярэдняй папулярнай кнігі Эндру Олвіка "Следы апостолов. Секретная миссия — 1". На гэты раз іх шляхі перасякаюцца ў Барысаве, дзе адбываецца напружаная барацьба, ці, лепш сказаць, супрацьдзеянне савецкага разведчыка Генрыха і гітлераўскай контрразведкі. У выданні нарэшце раскрываецца і інтрыга псеўданіма "Эндру Олвік". Цяпер чытачы ведаюць, што за гэтым загадкавым іменем хаваюцца Андрэй Астраўмаў (Эндру) — аўтар канцэпцыі выдання, Алег Сухамера (Ол) — стваральнік фабулы кнігі, Віктар Лабковіч (Вік), які прыдумаў хітраперапляценні сюжэта.



**Брэдли, А. Сорняк, обвивший сумку палача / Алан Брэдли. — Москва: АСТ: Астрель, 2011. — 415 с.**

Гэтая кніга — бестселер № 1 паводле версіі многіх інтэрнэт-кнігарняў. У ёй аўтар працягвае расповед пра ўжо вядомую дзяўчынку Флавію дэ Люс, а таксама эксцэнтрычную сям'ю, што жыве ў старажытным маёнтку Букшоў. Імкненне раскрыць таямніцу смерці заезджага лялечніка адкрывае іншыя змрочныя таямніцы, пра якія ўжо даўно ніхто не ўспамінаў.

*Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by*

**Кнігі для агляду прадстаўлены магазінам "Кніжны салон". Тэл. 385-60-89.**



Святлана Бязлепкіна

# Венгерскі праект

## Апавяданне

У дзверы ціхенька пастукалі, і не паспеў Андраш адгукнуцца, як на парозе з'явілася маладая жанчына незапамінальнай знешнасці. Падобных — усмешлівых, з кароткімі стрыжкамі, з аднолькавымі хударлявымі фігурамі, прыкладна аднаго росту і ўзросту (яны ўсе нібыта вайскоўцы ў цывільным) — ён сустракаў у каледжы паўсюль, ад бібліятэкі да сталовай.

— Добры дзень, я мушу зняць меркі для пана, для яго выхаднога касцюма, — яна гаварыла так, нібы ведала, што Андраш валодае англійскай.

Прыкідвацца, што нічога не зразумеў, было лёгка: з першых дзён у лагеры для бежанцаў ён выбачальна разводзіў рукамі, ківаў галавой і старанна вымаўляў як быццам бы завучаную фразу: "Я не гавару па-англійску!" І гэта яму дапамагала калі не лепей уладкавацца ў новым "амерыканскім" жыцці, дык хутчэй зразумець, што ўсе яны — і Томаш, і Іштван, і дзясяткі іншых венгерскіх "рэвалюцыянераў" — усяго толькі, як казалі ў ягонай вёсцы, маленькая рыбка ў вялікім Балатоне.

Хаця паслярэвалюцыйны антураж быў найпрыгажэйшым. Яны былі шаноўнымі гасцямі спачатку ў эміграцыйным лагеры ў Зальцбургу пад патранажам нейкай багатай амерыканскай прыватнай арганізацыі, потым прыйшла чарга раскошнаму жыццю пад Гамбургам у нейкім… пансіянаце? санаторыі? ці зноў-такі лагеры? — усё было сапраўдным раем пасля іхняга нішчымнага рабства ў сельскагаспадарчым кааператыве ў Венгрыі. Шматлікія інтэрв'ю і фатаграфаванні для газет з усяго свету, сяброўства з вясёлымі хлопцамі з радыёстанцыі "Свабодная Еўропа", знаёмствы з важнымі замежнымі асобамі — усё гэта кружыла галаву. Яны ўжо і сябе пачалі адчуваць важнымі асобамі, да паслуг якіх уся гэтая раскоша з прэс-канферэнцыямі, гатэлямі і ўніверсітэцкімі заламі. Вось і ранішняя панна, нягледзячы на яго неблагі гардэроб, збіраецца ў чарговы раз зняць меркі, каб пашылі няйнакш смокінг для нейкай урачыстасці.

Ён матляў галавой, рабіў здзіўлены выраз твару, нават тады, калі яна з кішэні сваёй сукенкі дастала кравецкую "сантыметру", казаў па-венгерску, што не разумее, чаго хоча ад яго гэтая прыгожая пані, і спрабаваў з ёй пажартаваць. Але жанчына глядзела на яго зусім не позіркам краўчыхі — хутчэй позіркам паліцыянта ці следчага, і ад гэтага рабілася ніякавата, хаця Андраш быў не з палахлівых.

— Пан любіць класічнага ці паўваеннага крою касцюм? — раптам перайшла на венгерскую (без акцэнту) мову жанчына, і Андраш ад здзіўлення ўсклікнуў:

— Што ж ты маўчала, сястрыца? Ты адкуль, з Пешты? З Дзьёра?

"Сястрыца" адчужана працягвала мераць, не адгукнуўшыся ні на ягоныя зямляцкія пачуцці, ні на хлапечыя заляцанні, і Андраш умомант зразумеў, што венгерская рэвалюцыя рыхтавалася даўно, задоўга да таго, як ён трапіў у дыверсійную брыгаду і нават нашмат раней, чым гэтая амерыканская панначка пачала асвойваць венгерскую мову.

— Праводзіць гутарку трэба так, каб яны не адчувалі сябе нібыта на допыце, — злавіў ён учора раніцай урывак з размовы двух сівых прафесараў, якія павольна прагульваліся па алеі тутэйшага парку. Андраш рабіў прабежку — на ўсялякі выпадак ён вырашыў не закідваць свае заняткі спортам, адначасова разведваючы ваколіцы гэтага дзіўнага студэнцкага гарадка. Хаця разумеў, што тут не лістападаўскія ваколіцы Будапешта, адсюль проста так не вырвацца, тут для кожнага венгра ўжо распісаны пэўныя роля і месца ў сацыяльным жыцці.

— Якія, на ваш погляд, прычыны пасадзейнічалі нядаўняму акту стыхійнага масавага супрацьдзеяння рэжыму? — пытаўся ў тую ж раніцу адзін з гэтых "паркавых" прафесараў у Андраша і раіў зазірнуць у аркушы паперы, дзе пад пунктамі "a", "b", "c" і гэтак далей былі пералічаны магчымыя варыянты адказаў: "уздзеянне саветызацыі", "манапартыйнасць і таталітарны рэжым у Венгрыі", "непасільная ноша індустрыялізацыі ва ўрон сельскагаспадарчай традыцыі" і далей па спісе. Ён не спяшаўся адказваць, а прафесар не спяшаўся ставіць "птушку" насупраць пэўных фраз апытальніка, удакладняючы прычыну таго ці іншага варыянта адказу. І толькі на апошняе пытанне пра "магчымыя перспектывы гіпатэтычна незалежнай Венгрыі" прафесар паблажліва папярэдзіў:

— Варыянтаў з падказкай няма. Думайце самі.

— А хіба могуць быць незалежнымі маленькія дзяржавы? — асмеліўся ён запярэчыць, і прафесар ацаніў жарт, і доўга смяяўся, і ўсё паўтараў, што яму вельмі падабаецца гэты венгерскі "гонвед"[1].

Недзе перад абедам да прафесара зазірнуў маладзейшы калега і, пачуўшы, што "халоп" не кумекае па-англійску, пачаў распавядаць, як да іхняй прыбытковай справы спрабуюць спрычыніць калегі з Даследчыцкага бюро па спецаперацыях. Так Андраш зразумеў, што ў гэтым "Венгерскім праекце" добра аплачваюцца не толькі споведзі венгерскіх рэвалюцыянераў (у Андраша цяперашні "заробак" складаў ужо суму ў трохгадовую былую працу інжынера сельскагаспадарчага кааператыву), але і праца тых, хто робіць з імі сацыялагічныя апытанні. А зацікаўленасць у іхніх асобах бюро па спецаперацыях сведчыла ўжо, відаць, пра нешта больш сур'ёзнае, чым навуковы інтарэс тутэйшай прафесуры да меркаванняў венгерскіх мяцежнікаў пра "механізмы функцыянавання таталітарнага рэжыму".

Іштван жыў у суседнім пакоі, але на інтэрв'ю хадзіў пасля абеду: ці то не хапала навукоўцаў, якія б валодалі венгерскай мовай, ці то тут так памайстэрску "развялі" распарадак, каб былыя сябры і таварышы па змаганні мелі час павітацца і разысціся, але ўжо не мелі часу на абмеркаванне надзённых праблем.

— Ты як, Андраш? — ці то пытаецца, ці то падбадзёрвае Іштван, сустракаючы таго ў сталоўцы, калі змена Андраша пакідае залу, а змена Іштвана шнуруецца ля раздачы.

— Бачыў Ёжэфа? Ён цяпер вялікі чалавек! — кажа Андраш і спадзяецца, што Іштван скеміць, пра што недагаворвае сябар і пра што ўвесь час думае, ды не можа развязаць гэтую загадку.

Ёжэф, старшыня рэвалюцыйнага камітэта адміністрацыйнага раёна горада Дзьёр, ён жа кіраўнік штурмавой брыгады нумар 6, які з лета 1956 года трымаў усе сувязі пад кантролем — ад здабычы зброі да прыняцця ў брыгаду правераных байцоў — і які ўвесь кастрычнік быў найлепшым таварышам без усялякай субардынацыі для 50 членаў брыгады, аддаліўся ад іх яшчэ ў лагеры для бежанцаў. Андраш бачыў яго ўвесь час заклапочанага і нейкага надзвычай важнага і фанабэрыстага то поруч з аўстрыйскімі вайскоўцамі, то з нямецкімі супрацоўнікамі адміністрацыі. Ёжэф ведаў маленькую Андрашаву таямніцу: аднойчы на базу паўстанцаў даставілі груз амерыканскага паходжання, і хлопец імгненна пераклаў словы, што былі напісаны вялікімі літарамі па баках скрынь. Ёжэф тады ўхвальна зірнуў на Андраша і заўважыў: "Светлая галава, цябе пад кулі нельга".

Цяпер былы камандзір нават не мае жадання кіўнуць пры сустрэчы: баіцца каго і чаго? Ды і то праўда, бачыліся ўсяго два разы, і кожны раз Ёжэф садзіўся ўжо ў машыну, а Андраш яшчэ толькі бег на зарадку. Калісь яны былі па адзін бок барыкад, а цяпер жыццё разводзіць іх усё далей і далей. У "Ёжэфавым" корпусе — Андраш гэта інстынктыўна адчуў — жывуць людзі дыверсійнага складу. Такія, як Міклаш, Янаш, Шандор, як брат Андраша Лаёш — суровыя хлопцы, а не хлюпікі інтэлігентныя, як Андраш з Іштванам, якім далёкасяжныя ідэалы засцілі цэлы свет.

— Чылім[2] ты мой, чылім, — казала Андрашу мама, калі ён, недагаворваючы многае, намякаў пра будучыя хваляванні працоўнага люду. — Думаеш, што Надзь прыстойней Ракошы? А Кадар завядзе краіну ў багну? Якая розніца для венграў, мой хлопчык, Сталін альбо Трумэн? Між камунізмам і капіталізмам адна толькі розніца…

Але тут урываўся ў спрэчку бацька, у родзе якога былі няхай не буйныя, але ж уладальнікі вінаграднікаў і вінзаводзікаў, вымушаныя аддаць пад нацыяналізацыю стагоддзямі збіранае дабро. І Андраш прымаў бок бацькі, але ўсё ж не наважыўся расказаць яму пра свае зусім не рамантычныя паездкі па выхадных у сталіцу, дзе рыхтуюць людзей і зброю для часу "ікс".

— На вашым месцы я не вытанцоўвала б тут "чардаш"[3], — па-англійску сказала "краўчыха". — З веданнем мовы вы зробіце лепшую кар'еру тут, а не ў дыверсійным лагеры. — Сказала і па-ваеннаму хутка сышла з пакоя, пакінуўшы Андраша ў трывожнай разгубленасці.

…У вялікай і трошкі змрочнай зале старой бібліятэкі Калумбійскага ўніверсітэта было ўрачыста.

— Сёння ўпершыню група венгерскіх вучоных атрымае магчымасць патрымаць у сваіх руках рассакрэчаныя матэрыялы праекта "CURPH", — несліся пад зводы залы словы свяціла палітычнай сацыялогіі.

— І не толькі патрымаць у руках, але і папрацаваць з імі, — напаўжартам працягваў урачыстасць мала вядомы ўсяму свету, але вядомы навукоўцам Нью-Ёрка прафесар з венгерскім прозвішчам Балаж. — Прайшло ўсяго трыццаць тры гады, а для гісторыі гэта проста імгненне, і сёння, у 1990 годзе, вы маеце магчымасць пачытаць, што думалі пра магчымыя перспектывы гіпатэтычна незалежнай Венгрыі рамантыкі венгерскай рэвалюцыі 1956 года…

— "Венгерскі праект" быў ажыццёўлены лепшымі тагачаснымі амерыканскімі сацыёлагамі і спецыялістамі па вывучэнні грамадскай думкі, — ад хвалявання дрыжэў голас маладзенькай асістэнткі прафесара Балажа. — Ён быў беззаганна сплянаваны з метадалагічнага пункту гледжання і выкананы так добра, што мы можам дакладна зразумець, якая праблематыка цікавіла амерыканскіх даследчыкаў у першую чаргу. Шкада толькі, што не ўдалося выдаць зборнік па матэрыялах гэтага буйнамаштабнага праекта…

Асістэнтка, калі меркаваць па тым, як скрывіліся свяціла сацыялогіі і ягонае атачэнне, відаць, гаварыла трошкі лішняе, але яе ўжо слухалі няўважліва. Наперадзе быў банкет, дзе атмасфера абяцала быць менш урачыстай. І недзе напрыканцы вячэры ў светлай ад мноства старадаўніх люстраў зале рэстарана цвярозы, але пачырванелы ад успамінаў прафесар Андраш Балаж казаў свайму калегу прафесару Іштвану Габару з Прынстанскага ўніверсітэта:

— Па шчырасці, дружа, "Венгерскі праект" аказаўся мыльнай бурбалкай, пустышкай, не болей. Наколькі шчырымі маглі быць мы з табой ды іншыя бедакі, ад адказаў якіх тады, па сутнасці, залежала ўся наша амерыканская будучыня?

Прафесар Андраш дастаў з партфеля два аркушы і адзін з іх працягнуў Іштвану. Абодва, начапіўшы вялікія і нямодныя акуляры, учыталіся ў ксеракопіі машынапісных радкоў колішняй справаздачы: "Даследчыкі імкнуліся распазнаць прыкметы ўздзеяння камуністычнай ідэалогіі на розумы венгерскіх бежанцаў, а замест гэтага атрымалі катэгарычную і аднадушную адмову прызнаць наяўнасць такога ўздзеяння. Аўтары праекта ўспрынялі аўтапартрэт сталінізму куды больш сур'ёзна, чым бежанцы — ахвяры камуністычнага рэжыму Венгрыі. Верагодна, па гэтай прычыне два погляды на камуністычны рэжым — знутры і звонку — так і не аб'ядналa ў рамках праекта "CURPH" нічога агульнага…"

— Ты ведаў, што Ёжэф загінуў яшчэ у 1957-м? — адарваўшыся ад паперы, спытаў прафесар Іштван Габар.

Прафесар Андраш Балаж спрабаваў засунуць аркушы ў партфель і ад хвалявання ніяк не мог патрапіць:

— Мой малодшы брат Лаёш загінуў раней. У лістападзе 1956-га, пры штурме Дома радыё. А мы, прыстасаванцы, выбралі сытае жыццё! І праз месяц з пашанаю, як героі, будзем прыняты ў Будапешце. У Інстытуце гісторыі Венгерскай рэвалюцыі.

Імгненна перавёўшы позірк на маладых венгерскіх вучоных, што сядзелі насупраць, прафесар Андраш Балаж узяў у рукі келіх і загаварыў:

— Вось кажуць, што сёння іншы час і іншыя магчымасці для даследчыкаў. Не верце гэтаму! Ва ўсе часы быў дэфіцыт на смелых і сумленных! У вас будзе магчымасць праінтэрпрэтаваць па-новаму матэрыялы "Венгерскага праекта". Хто мне адкажа, чаму на чэрвеньскую забастоўку рабочых у Познані адгукнуліся не свае, польскія, а студэнты з суседняй Венгрыі? Адгукнуліся не праз тыдзень ці два, а чамусьці праз чатыры месяцы? Венгерскую рэвалюцыю, шаноўныя сябры, пачалі не 200 венгерскіх студэнтаў, зусім не яны…

Свяціла сацыялогіі паблажліва глядзеў на калегу, які, па ўсім бачна, крыху перабраў са спіртным. Спачувальна ўсміхаліся і іншыя больш маладыя калегі. І толькі прафесар Іштван Габар ведаў, што Андраш Балаж цвярозы як ніколі ў жыцці.

[1] Абаронца радзімы.
[2] Вадзяны арэх, расце толькі ў вадзе.
[3] Народны танец.

# Тэатральны кантакт маладых

Вераніка ЯРМАЛІНСКАЯ,
фота Яўгеніі Алефірэнкі

**VII міжнародны маладзёжны тэатральны форум "М.@rt.кантакт-2012" прайшоў у Магілёве. Удзельнікамі былі творчыя калектывы з Беларусі, Германіі, Ізраіля, Літвы, Расіі, Славеніі, Украіны ды іншых краін. За сем дзён было паказана 16 спектакляў. Форум зрабіўся традыцыяй і ладзіцца штогод, бо ён патрэбны гораду, у якім заснаваны, магілёўскаму гледачу, моладзі, якая імкнецца ў тэатр. "М.@rt.кантакт" скіраваны перадусім на тое, каб паказвала сябе мастацтва маладых і адбывалася знаёмства не толькі з рознымі тэатральнымі калектывамі, але і з новай арыгінальнай драматургіяй, адметнымі акцёрскімі і рэжысёрскімі школамі.**



*Сцэна са спектакля "Тры сястры".*

Гран-пры фестывалю атрымаў спектакль **"Тры сястры"** паводле А. Чэхава ў пастаноўцы Л. Эрэнбурга, паказаны "Небольшим драматическим театром" з Санкт-Пецярбурга. Гэта быў узор высокага прафесіяналізму і своеасаблівы майстар-клас як для гледача, так і для ўдзельнікаў форуму. Спектакль цалкам адпавядае жанру, вызначанаму ў праграме: трагікамедыя. Атмасфера, у якой існуюць яго героі, сапраўды ўвесь час балансуе паміж трагедыяй і камедыяй. Адпаведна задуме рэжысера-пастаноўшчыка мастак В. Палуноўскі пакідае на працягу амаль усяго спектакля на авансцэне вялікі прамавугольны стол, засцелены белым абрусам; прытым пераважае франтальная мізансцэна. Такім чынам героі спектакля набліжаюцца да гледача і мусяць існаваць у абмежаванай сцэнічнай прасторы. Гэта "абавязвае" іх больш узбуйнена дэманстраваць свае ўчынкі і паказваць свае не заўсёды прывабныя твары. Адной з асаблівасцей прачытання вядомай п'есы з'яўляецца тое, што рэжысёр свядома выводзіць на сцэну герояў спектакля ў сталым узросце (хаця ўсе выканаўцы — маладыя акцёры).

Усе тры сястры тут — не летуценныя асобы з марай пра далёкую і недасяжную Маскву. А хутчэй — стомленыя, не падобныя адна да адной жанчыны, якім хочацца вырвацца з абрыдлага ладу жыцця, з вялікага дома, які ўвесь час наведваюць не заўсёды жаданыя госці. І афіцэр Вяршынін (артыст К. Шалястун) з'яўляецца ў першай жа карціне не прыгожым і гжэчным кавалерам, а такім самым стомленым і пабітым жыццём чалавекам, якому як глыток паветра патрэбнае каханне такой жанчыны, як Маша (Т. Калганава). Яна разумее яго і прымае разам з яго недарэчнай жонкай і малымі дзецьмі, якім не хапае цеплыні і ласкі ў бацькоўскім доме. І магчыма таму, што героі "Трох сёстраў" сталыя людзі, пецярбургскі спектакль становіцца яркім і арганічным у іх яркіх і гэткіх жа сталых пачуццях, учынках, моцных абяцаннях і словах. Таму такім дарэчным, патрэбным і шчырым успрымаецца тут пацалунак Вяршыніна і Машы на авансцэне і прызнанні герояў у каханні выклікаюць сапраўднае захапленне. І фізічны боль Салёнага (В. Сквірскі) успрымаецца менавіта як боль, а не гульня. І калі героі гэтага спектакля горача высвятляюць адносіны, відавочна, што ў кантэксце пастаноўкі Л. Эрэнбурга ім многае дазволена, — і па-мастацку апраўданым з'яўляецца іх існаванне ў кожнай бліскуча зробленай рэжысёрам мізансцэне. Спектакль захоўвае тонкае чэхаўскае гучанне, а яго героі зусім падобныя да сённяшніх людзей з іх пакутамі, перажываннямі і надзеямі.

Сярод найбольш цікавых работ, паказаных калектывамі з Беларусі, вылучу **"Спектакль № 7"** тэатра пад кіраўніцтвам Я. Карняга. Сродкамі пластычнага тэатра ўвасоблена абсурдысцкая прыпавесць пра чалавечыя страхі ды пра тое, як іх перамагалі героі спектакля. Рэжысурай створаны вельмі выразны сцэнічны ансамбль, у які ўвайшлі акцёры як пластычнага, так і драматычнага тэатра: В. Скварцова, С. Анікей, А. Казела, В. Гарцуева і В. Краўчанка. Кожны з выканаўцаў быў надзвычай дакладны ў малюнку свайго вобраза, у красамоўнай пластыцы, міміцы і жэстах. Спектакль не мае тэксту — толькі ў належныя моманты вымаўляюцца гукі, але ўсё тут зразумела і без звычайных слоў. На маю думку, "Спектакль № 7" сваёй ідэяй сугучны "Стрыптызу" С. Мрожака, які быў пастаўлены ў 1980-я гады ў Тэатры-студыі Р. Таліпава і меў надзвычайную папулярнасць у моладзі. Тая пастаноўка распавядала таксама пра страхі герояў. У таліпаўскім спектаклі гэта быў страх перад невядомай Рукой, якая кіравала ўчынкамі персанажаў, палохала іх толькі адным сваім існаваннем, перашкаджала іх планам і ў выніку — распранала і пакідала ў бездапаможнасці ды роспачы. У спектаклі Я. Карняга існуе недасяжная Жанчына ў чорным, якая сядзіць на высокім збудаванні і, вымаўляючы дзіўныя гартанныя гукі, магутна ўплывае на ўсё, што адбываецца на сцэнічнай пляцоўцы. Яна і таямніча ўздзейнічае на кожны персанаж і яго страх, зніТоўвае паміж сабой герояў, не падобных адно да аднаго. Рэжысура на працягу ўсяго спектакля выверана да дробязей, а само відовішча да фіналу захоўвае дынамічнасць і прыцягальнасць.

Сёлетні "М.@rt-кантакт" прапанаваў новую сучасную драматургію, да якой усё больш і больш актыўна звяртаецца наш тэатр: гэтая драматургія закранае вельмі вострыя тэмы. Яна эпатажная, часам непрывабная і нават непрыемная сваім зместам. Напрыклад, малады драматург Ю. Клаўдзіеў звярнуўся да тэмы канібалізму ў час Ленінградскай блакады. Спектакль паводле яго п'есы **"Развалiны"** ў рэжысуры К. Вытаптава паказаў Маскоўскі цэнтр драматургіі і рэжысуры А. Казанцава і М. Рошчына. Праблемы сучаснай сям'і адкрыта і моцна ўзнімае спектакль Рускага драматычнага тэатра Літвы **"Свалачная любоў"** М. Мацявічуса паводле аповесці П. Санаева "Пахавайце мяне за плінтусам". Да п'есы нашага маладога драматурга П. Пражко **"Гаспадар кавярні"** звярнуўся Магілёўскі абласны драматычны тэатр. Рэжысёр К. Аверкава стварыла разам з акцёрам А. Куляшовым напружаны і цікавы монаспектакль, вывеўшы на першы план маладога героя, нашага сучасніка, які вельмі неадназначна разважае пра жыццё, імкнецца знайсці там сваё месца і, безумоўна, чакае зразумення ад гледача, які сядзіць у зале. Таленавіты акцёр прадэманстраваў уменне працаваць з новым драматургічным матэрыялам, стварыў трапяткі вобраз героя, прывабнага сваім унутраным светам і поглядам на сучаснасць.

На жаль, вядучыя тэатры Беларусі — Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага, які прывёз у Магілёў **"Запіскі стомленага рамантыка"** М. Задорнава, і Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача, які прапанаваў для конкурснай праграмы форуму спектакль **"Мой бедны Марат"** паводле А. Арбузава, не змаглі пераканаць журы і крытыку ў бездакорнасці сваіх пастановак. Так, першы з названых спектакляў у пастаноўцы І. Кулікова і ў выкананні пераважна акцёрскай моладзі выклікаў авацыі глядзельнай залы, крытыкай жа быў вызначаны як… набор студэнцкіх эцюдаў. Нельга было не заўважыць і груваткасць сцэнаграфіі А. Сарокінай. І цяжкі памост, і драўляная лаўка, і металічная вяртушка, безумоўна, — знакі канкрэтнага часу. Ды тут яны былі нязменныя на працягу ўсяго спектакля і толькі загрувашчвалі сцэну, падкрэслівалі не час падзей, а архаічнасць. На маю думку, дзеля таго, каб паіранізаваць з пэўных з'яў таго часу, дастаткова было касцюмаў і галаўных убораў персанажаў — гэта ж таксама красамоўныя дэталі сцэнаграфічнага выказвання. "Мой бедны Марат" у пастаноўцы Я. Лёгкіна быў сапраўды бедны. Скарачэнні, зробленыя ў п'есе пастаноўшчыкам, зрабілі спрошчаным і сам спектакль: ва ўзаемаадносінах і ўчынках герояў. Акцёры імкнуліся быць шчырымі і дакладнымі ў мізансцэнах і дыялогах, але пры гэтым спектакль заставаўся змрочным па фарбах. Пастаноўшчыкам спектакля не хапала вынаходлівасці, сучаснага погляду на бліскучую п'есу XX стагоддзя, якая ў свой час вызначыла настрой цэлага пакалення. Таго пакалення, што перажыло цяжкую вайну і пачынала новае няпростае жыццё, якое, нягледзячы ні на што, было маладым і светлым.

Ярка прадэманстраваў вытанчанае акцёрскае майстэрства "Тэатр № 19" з украінскага Харкава — у спектаклі **"Дзверы"** паводле п'есы "Трое на арэлях" Л. Лунары ў пастаноўцы І. Ладэнкі; цікава было знаёміцца з тэатральнай групай "Містарын" з Ізраіля, якая паказала пластычны спектакль **"Сны Майсея"** ў пастаноўцы Ю. Гініс; сапраўдную школу майстэрства прадэманстравалі акцёры О. Ланд Байран і К. Ліске (амерыканцы, якія скончылі Школу-студыю МХАТ) у спектаклі **"Лафкадзіа"** паводле Ш. Сільверстайна. Незвычайным спектаклем, які спалучае пластыку і клаўнаду, — **"Белая гісторыя"** ўразіў "Комік-Трэст" з Санкт-Пецярбурга; высокую культуру выканання (рэжысура, сцэнаграфія, акцёрскае майстэрства) паказаў Магілёўскі абласны тэатр драмы і камедыі імя В. Дуніна-Марцінкевіча (Бабруйск) у пастаноўцы **"Страцім-лебедзь"** Ю. Сохара. І, нарэшце, моцным заключным акордам прагучала выступленне вядомага айчыннага тэатра танца "Каракулі" — **"Фарбы. Не."** у пастаноўцы В. Лабоўкінай, які прадэманстраваў абнаўленне сцэнічнай мовы пластычнага спектакля.

"М.@rt-кантакт" пачынаеш успрымаць ужо як асобны жанр у тэатральным жыцці Магілёва. Гэты форум узбагачае агульны культурны кантэкст краіны. Без яго маладога і жыццярадаснага духу мы ўжо не ўяўляем сённяшні фестывальны рух Беларусі.

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА,
фота Віктара Кавалёва

Вялікі справаздачны канцэрт лаўрэатаў, стыпендыятаў і дыпламантаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі адбыўся ў НАВТ оперы і балета Рэспублікі Беларусь. Разам са спецыяльным фондам і тэатрам імпрэзу арганізавалі Міністэрства культуры ды Інстытут культуры Беларусі. У канцэрце ўдзельнічалі пераможцы леташніх міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў, навучэнцы і студэнты спецыялізаваных навучальных устаноў Беларусі ды Расійскай Федэрацыі. Гэта маладыя зоркі оперы і балета Н. Масквіна. К. Алейнік, К. Геронік, А. Чыжык, І. Аношка; студэнты Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Ю. Шчасновіч, П. Бацян; музыканты Камернага аркестра Рэспубліканскага каледжа пры БДАМ ды іншыя. Усе яны, незалежна ад узросту, — прафесіяналы, якія неаднаразова і паспяхова прадстаўлялі нашу краіну на прэстыжных сцэнах свету.

На выстаўцы "Living Colour", што адкрылася ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі, пануе колер. Асаблівае, трапяткое стаўленне да яго паяднала ў гэтым праекце самых розных айчынных жывапісцаў — ад перакананых рэалістаў да прыхільнікаў абстрактнага мастацтва, ды яшчэ і скульптараў, і керамістаў. Выстаўкі пад назвай "Living Colour" заўсёды абнаўляюцца. Сакавіты жывы колер гэтым разам дэманструюць у сваіх работах Зоя Луцэвіч (аўтар ідэі праекта), Святлана Каткова, Зоя Літвінава, Настасся Слабодчыкава ды іншыя мастакі. Мабільная экспазіцыя праекта, якому ўжо 20 гадоў, пабывала ў розных краінах.

Лаўрэат многіх міжнародных конкурсаў, лаўрэат і ўладальнік гранд-прэміі спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі (2005) скрыпач Арцём Шышкоў прайшоў выдатную прафесійную школу ў знанага беларускага педагога Эдуарда Кучынскага. Пасля заканчэння Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі малады выканаўца нейкі час выступаў у якасці саліста Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі, выкладаў. Цяпер А. Шышкоў вучыцца ў аспірантуры пры Венскім універсітэце музыкі і выканальніцкіх мастацтваў. Нядаўна ён стаў лаўрэатам 3-й прэміі міжнароднага конкурсу Макса Росталя ў Берліне (Германія). Як паведамілі нам з Міністэрства культуры Беларусі, гэты конкурс праводзіцца ў памяць пра настаўніка некалькіх пакаленняў скрыпачоў і альтыстаў з мэтай падтрымкі маладых талентаў. Для ўдзелу ў ім А. Шышкоў атрымаў магчымасць скарыстацца ўнікальнай скрыпкай работы А. Гварнеры, якую Міністэрства культуры набыло спецыяльна для раскрыцця выканальніцкага патэнцыялу нашай моладзі на міжнародных спаборніцтвах музыкантаў.



*Лаўрэат міжнародных конкурсаў Арцём Шышкоў.*

# Сакрэт сумленных пытанняў

Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ

**Апошнім часам Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр звяртае на сябе ўвагу канструктыўнай прафесійнай працай, здзяйсненнем свежых мастацкіх ідэй, новых праектаў, паспяховымі прэм'ерамі, прывабнымі планамі. Актыўная творчая пазіцыя калектыву і кіраўніцтва БДАМТ выявілася ў абвяшчэнні конкурсу на стварэнне арыгінальных нацыянальных спектакляў: беларускіх музычных камедый, аперэт, камічных опер, мюзіклаў. З гэтай нагоды адбылася палемічная размова за "круглым сталом" тэатра, якая мела розгалас і на старонках "ЛіМа". Тэма конкурсу, скіраванага на пошук матэрыялу для стварэння арыгінальных беларускіх пастановак, выяўленне цікавых аўтараў, здатных рэалізаваць свой талент у працы над беларускімі музычна-сцэнічнымі творамі, атрымала працяг і ў нашай сённяшняй публікацыі. Беларускі мецэнат Алег Уладзіміраў распавядае пра творчыя праекты, якія ён падтрымлівае, і разважае над тым, што прымусіла яго заняцца мецэнацкай дзейнасцю.**

**Аддзел мастацтваў "ЛіМа"**

**— Спадар Алег, як сталася, што вы пачалі ўкладаць свае ўласныя сродкі ў культурныя праекты?**

— Я займаюся бізнесам, але адной гэтай сферы прыкладання сіл для мяне зусім не дастаткова. Калі ты лёгка задавальняеш пэўныя чалавечыя патрэбы, а твая дзейнасць прыносіць усё больш прыбытак, проста пачынаеш разумець, што далей рухацца няма куды: трэба альбо спыніцца, альбо рабіць нешта яшчэ, калі можаш.

**— Вы падтрымліваеце праекты, звязаныя з музыкай і тэатрам. Чаму выбралі менавіта гэты напрамак?**

— Аднойчы мне сказалі, што ў мяне ёсць голас. Калі б я даведаўся пра гэта раней, гадоў у 16 — 18, магчыма, вызначыў бы для сябе і адпаведны далейшы занятак. Але музыкай я пачаў займацца даволі позна, у 32 гады. Я зразумеў, што сам нічога ўжо не паспею. Таму цяпер проста дапамагаю іншым людзям раскрыць іх патэнцыял. І абсалютна заканамерна, што для гэтага я абраў даволі вузкі сегмент: акадэмічныя спевы. Мне не патрэбна грамадская падтрымка, мяне не цікавяць ніякія бонусы за ажыццяўленне такой дзейнасці. Я лічу, што ўсе, хто зарабляе больш, чым можа спажыць, абавязаныя дапамагаць людзям у той галіне, якая ім бліжэй. Для мяне, напрыклад, сфера культуры важней за спорт, бо фізічнае здароўе фундаментальна грунтуецца на здароўі духоўным.

**— Свае намаганні вы скіроўваеце ў бок праектаў нацыянальнага характару: аказваеце фінансавую падтрымку конкурсу на стварэнне музычных спектакляў у Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры, дамагліся аднаўлення конкурсу маладых вакалістаў "Убельская ластаўка" імя Станіслава Манюшкі, пастаянна дапамагаеце Творчаму калектыву "Беларуская Капэла". Я ведаю, што гэта ваша прынцыповая пазіцыя...**

— Так. Для мяне зразумела, што ў гэтым напрамку ёсць значныя прагалы, іх, па меры сваіх магчымасцей, я спрабую запоўніць. Для здароўя грамадства неабходна, каб у яго была гісторыя, былі карані, на якія можна абапірацца. Сваёй дзейнасцю я імкнуся наладзіць працэсы пазнання саміх сябе: каб тое адлюстраванне сучаснага беларуса, якога пакуль у люстэрку няма, у нас з'явілася. У гэтым адлюстраванні, як у мазаіцы, павінны быць асобныя складнікі нашай гісторыі: музычнай, тэатральнай, літаратурнай...

Я растлумачу сваю пазіцыю. Гаворачы на мове бізнесу: калі існуюць вядучыя рынкі спажывання якога-небудзь прадукту, а нас на іх няма, значыць, нас няма ў прынцыпе! Напрыклад, ёсць міжнародныя асацыяцыі выдаўцоў музычнага матэрыялу на розных носьбітах. Гэта сур'ёзныя калядзяржаўныя структуры, яны надаюць коды выданням, ствараюць магчымасць абмену інфармацыяй... Беларусь не ўваходзіць ні ў водную з іх! Для іх мы — белая пляма. Ці яшчэ прыклад: Карэя вырашае стаць канкурэнтаздольнай у акадэмічных спевах і пачынае рухацца ў належным напрамку. Карэйскія спевакі сёння — гэта вельмі крута. У іх ёсць дадзеныя, яны псіхалагічна ўстойлівыя, працаздольныя і валодаюць прыгожымі тэмбрамі. Адпаведна, яны прысутнічаюць на галоўным рынку, а галоўны рынак у гэтым сегменце — Еўропа. Кітайскія спевакі паступова пачынаюць іх даганяць. Пачынаюць даганяць адтуль, дзе гэтая культура з'яўляецца ну зусім не блізкай...

**— Што нам трэба рабіць, каб перастаць быць "няўгледкамі"?**

— Навучыцца быць сумленнымі з самімі сабою. Пачаць задаваць сабе "нязручныя" пытанні і шукаць на іх адказы. А мы баімся гэтага, бо адказы, якія мы знойдзем, альбо прымусяць нас да дзеяння, альбо патопяць у дэпрэсіі. Наступнае — так над сабой папрацаваць, каб перадолець дэпрэсію. Адпаведна, пазітыўная эмоцыя — гэта праца, негатыўная эмоцыя — гэта лянота.

Сучасная інфармацыйная прастора прапануе нам шмат варыянтаў, як будаваць жыццё: тысячы жыццёвых мадэляў, вынікаў дзейнасці тых ці іншых людзей... Усё гэта можна аналізаваць, і тады робіцца зразумела: хтосьці шмат робіць дзеля таго, каб нешта адбылося. Гэтыя людзі не героі, яны ўсяго толькі маюць іншы ментальны склад. Яны проста не дазваляюць сабе нешта рабіць або чагосьці не рабіць, што прывяло б да адмоўнага выніку.

**— Што датычыць акадэмічных спеваў: якія, на ваш погляд, нашы вынікі ў гэтай сферы?**

— Калі беларускія выканаўцы выязджаюць за мяжу, у іх пытаюцца: а што вы можаце праспяваць са свайго нацыянальнага рэпертуару? А мы насамрэч можам усё што заўгодна, акрамя свайго! І абсалютная няпраўда, быццам бы там не хочуць, каб мы класна праспявалі нешта сваё. У іх адкрыты рынак, яны зарабляюць на гэтым грошы, яны цікаўныя і добразычлівыя.

Так, спявалі Юрый Гарадзецкі ды Алена Золава беларускія творы за мяжой. Але гэта не зрабілася сістэмай. А вось, напрыклад, Інстытут імя Гётэ ў Мінску сістэмна прывозіць нямецкіх спевакоў у нашу філармонію і робіць гэта не толькі ў напрамку Беларусі. А чаму мы гэтак не робім? Мы проста мяркуем, што ў нас няма чаго паказаць за мяжой. Але гэта не так!

Таму я і падтрымліваю дзейнасць "Беларускай Капэлы". Фактычна гэта адзіная арганізацыя ў нашай краіне, якая працуе з забытай нацыянальнай спадчынай і стараецца яе папулярызаваць. Гэта не тэорыя, гэта бясконцыя вечары і ночы пэўных людзей, якія вывучаюць, аднаўляюць і абагульняюць беларускую музычную гісторыю. Людзі прысвячаюць гэтаму жыццё! Дзень пры дні яны робяць вялізную карпатлівую працу, вынікам якой сталіся дзясяткі канцэртаў пад агульнай назвай "Адраджэнне беларускай капэлы", што ладзяцца з 1991 года. А таксама тысячы і тысячы старонак, сотні і сотні твораў, якія былі выяўленыя, даведзеныя праз рэдактуру да ўзорнага варыянта, абсалютна гатовага для выкарыстання выканаўцамі. Вось гэта і ёсць тыя гарэнне і служэнне, якія заўсёды былі і будуць рухавіком у мастацтве.

Конкурс маладых выканаўцаў імя Станіслава Манюшкі "Убельская ластаўка", які праходзіў на радзіме кампазітара (у Чэрвеньскім раёне Мінскай вобласці) і адкрыў для нашай краіны нямала імёнаў адораных спевакоў, таксама быў ініцыяваны ў свой час "Беларускай Капэлай". Я рады, што мая прапанова аднавіць гэты конкурс знайшла падтрымку ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры. Бо як магло такое здарыцца, каб у дзесяцімільённай краіне не праводзілася ніводнага конкурсу акадэмічнага вакалу? "Убельская ластаўка" паспрые маладым вакалістам, якія стануць яго лаўрэатамі, лягчэй увайсці ў прафесію.

**— Таксама пры вашай фінансавай падтрымцы БДАМТ абвясціў бестэрміновы конкурс на стварэнне нацыянальнай аперэты і мюзікла. Беларускім кампазітарам і літаратарам прапануецца, акрамя права пастаноўкі іх твора на сцэне тэатра, яшчэ і сур'ёзная грашовая ўзнагарода. Гэта вельмі своечасовая ініцыятыва, якая дае магчымасць тэатру папоўніць свой рэпертуар беларускімі спектаклямі, а аўтарам — праявіць сябе. Але пакуль асабліва не бачна ахвотных атрымаць гэтыя грошы…**

— Для мяне гэткая сітуацыя была дастаткова прадказальная. Калі ласка, вось ляжаць грошы — вазьміце іх у абмен на матэрыял! Вы ёсць ці вас няма? А калі вы не хочаце ўзяць грошы, тады не кажыце, што вы ёсць. Гэта не выпад супраць кагосьці канкрэтнага з аўтараў. Проста трэба звярнуць увагу, што не адбываецца стваральных працэсаў, чамусьці страчаныя навыкі… У дадзеным выпадку я задаю сваё пытанне і прапаную грошы за адказ на яго. Фактычна цяпер я спрабую запусціць працэс, пры якім людзі пачнуць пра нешта пытацца ў самых сябе. І дзякуй кіраўніцтву тэатра за тое, што яно дае мне такую магчымасць. Так, у тэатра адны задачы, у мяне іншыя задачы, але сёння мы кумулятыўна працуем на агульную ідэю.

**— Аўтараў можна зразумець, ім патрэбныя гарантыі таго, што іх праца не змарнее і будзе рэалізавана. Яны разлічваюць атрымаць замову ад тэатра на напісанне пэўнага твора, які будзе пастаўлены…**

— Калі патэнцыйнага аўтара захапляюць пэўныя ідэі, ён абавязкова будзе імкнуцца выказаць іх у сваёй творчасці! Ён сам, па ўласнай ініцыятыве, знойдзе аднадумцаў, якія дапамогуць яму. Увогуле, праўдзе падрыхтоўчую работу, выдаткуе на гэта свой асабісты час і абавязкова давядзе задуманае да канца! А ўсё таму, што першапачаткова ў яго было такое жаданне: нешта сказаць людзям… І вось атрымаўся нейкі вынік: "Можа, возьмеце? Дык у вас яшчэ і конкурс? Яшчэ і грошы дадуць? Цудоўна!"

Гэта адзіная сітуацыя, пры якой у тэатры можа з'явіцца новы матэрыял высокага мастацкага ўзроўню. Творчы чалавек павінен гарэць сваёй ідэяй, а тэатру застанецца проста падкідаць дровы ў вогнішча. Калі гэтага не адбываецца, то што тут зробіш? Значыць, аўтару не трэба сябе мучыць.

**— Праекты, пра якія мы гаварылі, вы рэалізуеце супольна з дзяржаўнымі структурамі. Але ёсць іншае ваша пачынанне: музычны тэатр "Талерэя". Чаго вы хацелі дабіцца, ствараючы яго?**

— Я хацеў паказаць, што кожны чалавек можа з нуля зрабіць нешта. Маючы спонсара (на сённяшні дзень гэта абавязковая ўмова), дамовіцца з дзяржаўнай залай і арганізаваць каманду людзей, якія могуць нешта сказаць праз сваю творчасць. І што самае галоўнае — давесці да выніку і прадаць. Потым зрабіць яшчэ і яшчэ… Гэта значыць мець тры, пяць, сем створаных групай аднадумцаў рэпертуарных спектакляў, якія будуць паказвацца рэгулярна і прыносіць прыбытак гэтым людзям. Я арганізаваў такую структуру і, ідучы гэтым шляхам, набіў сабе неабходную колькасць гузакоў. Я паспеў за гэты час пераznаёміцца з мноствам людзей і зацікавіць іх. У прыватнасці, маю на ўвазе кафедру рэжысуры Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, дзе ёсць курс рэжысуры музычнага тэатра. Цяпер я ведаю, дзе "сябе прыкласці": мне неабходна проста "прышываць крылы" маладым людзям, якія яшчэ вучацца. Насамрэч ім патрэбныя зусім невялікія сумы грошай і адсутнасць кантролю — яны павінны ствараць абсалютна свабодна і не мець перад мной ніякай адказнасці.

**— Гэта значыць, вы сабе не дазваляеце ўмешвацца ў творчы працэс?**

— Я магу толькі задаваць пытанні, але не дазваляю сабе даваць распараджэнні: догматамі ў мастацтве думаць нельга!

# Зорка збірае гасцей

Лана ІВАНОВА,
фота Аляксандра Дзмітрыева

"Наталля Гайда запрашае" — такая назва на афішы гарантуе аншлаг у зале. А што пад назвай? Новы творчы праект Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра. Вялікая і непаўторная, легендарная і сучасная Артыстка Наталля Гайда збярэ ў яго сценах гасцей з Азербайджана, Казахстана ды Расійскай Федэрацыі: вакалістаў, дырыжораў, кіраўнікоў творчых калектываў. Поруч з беларускімі калегамі яны возьмуць удзел у спектаклях і гала-канцэрце, у творчых сустрэчах са студэнтамі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў і нашай акадэміі музыкі. Наведаюцца ў Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі, а за "круглым сталом" з удзелам тэатральных дырэктараў абмяркуюць праблемы менеджменту ў сучасных музычна-сцэнічных калектывах.

З наступнага аўторка па суботу кожны дзень арганізатараў і ўдзельнікаў праекта распісаны па гадзінах: рэпетыцыі, візіты, экскурсіі, гутаркі, вечаровыя імпрэзы, у якіх удзельнічае і сама Наталля Гайда. Праект распачнецца 17 красавіка музычнай камедыяй Я. Пціцкіна "Бабскі бунт", назаўтра — "Аршын мал алан" У. Гаджыбекава. Следам два вечары, прысвечаныя класічнай аперэце: "Сільва" І. Кальмана і прэм'ера "Граф Люксембург" Ф. Легара. А на завяршэнне — заключны двухгадзінны канцэрт, праграма якога збярэ зіхоткае сузор'е знаных майстроў жанру і таленавітай моладзі з розных краін.



*Народная артыстка Беларусі Наталля Гайда — княгіня Аляксандра Велерсхайм у спектаклі "Сільва".*

Да 100-годдзя Максіма Танка

Ала НІКІПОРЧЫК




# Ідэалы праўды, свабоды і вечнасці

**Глыбокім, пранiклiвым, чуйным даследчыкам жыцця і творчасці народнага паэта Беларусі даўно зарэкамендаваў сябе крытык і літаратуразнаўца Мікола Мікуліч. Асоба Максіма Танка стала для яго эталонам вымярэння паэта і чалавека, творцы і грамадзяніна, патрыёта.**

Несумненна, паэзія М. Танка ўвяла М. Мікуліча ў вялікі і неспазнаны свет заходнебеларускай рэчаіснасці і мастацкай творчасці. У апошнія гады ён апублікаваў брашуры "Міхась Васілёк: паэзія даверасьнёўскага перыяду (да 100-годдзя з дня нараджэння)" (2005), "Паэзія Казіміра Сваяка" (2005), "Паэзія Пятра Сеўрука: да 100-годдзя з дня нараджэння" (2006), "Міхась Машара: паэзія заходнебеларускага перыяду" (2010). Нядаўна ў выдавецтве "Беларуская навука" выйшла новае манаграфічнае даследаванне крытыка і літаратуразнаўцы — "Паэзія Заходняй Беларусі (1921 — 1939)".

У кнізе асэнсоўваюцца заканамернасці развіцця заходнебеларускага паэтычнага мастацтва, выяўляюцца яго ідэйныя прыярытэты і стылявая разнастайнасць, сувязі з грамадска-сацыяльным працэсамі і народна-вызваленчым рухам.

Ва ўводзінах аўтар дае агульную характарыстыку вельмі значных для айчыннай гісторыі міжваенных дзесяцігоддзяў (сакавік 1921 — верасень 1939) з пазіцый грамадска-гістарычных змен і зрухаў, раскрывае шматлікія сацыяльна-палітычныя падзеі і факты. Ён прасочвае дыферэнцыяцыю ідэйна-палітычных і грамадска-культурных сіл у краі, выяўляе шырокую панараму дзейнасці фактычна зусім не вядомых спецыялістам і чытачам літаратурна-мастацкіх перыёдыкаў "Беларуская культура", "Досвіткі", "Родныя гоні", "Нёман", "Калоссе" і іншых, падрабязна характарызуе іх праграмы і кірункі. Усё гэта, а таксама прыведзеныя прыклады зваротнай сувязі "часопіс — аўтару" ("Беларускі летапіс" — А. Дубровічу, "Шлях моладзі" — А. Мілюцю, Я. Брылю і г.д.), даюць магчымасць выразна ўявіць літаратурную атмасферу заходнебеларускай рэчаіснасці 1920 — 1930-х гадоў.

М. Мікуліч адзначае ўплыў Савецкай Беларусі на Заходнюю, напрыклад, у справе арганізацыі літаратурных аб'яднанняў, утварэння адзінага Саюза пісьменнікаў, і ў той жа час аб'ектыўна падкрэслівае: "Нягледзячы на пэўныя заваёвы сацыялістычнага ладу жыцця, якія адносяцца галоўным чынам да 1920-х гадоў, у цэлым у БССР панавала атмасфера ідэалагічнага ўціску, дагматычных абмежаванняў і забарон, ваяўнічай антырэлігійнасці, грамадска-псіхалагічнай уніфікацыі". Літаратурная і грамадская сітуацыя ў Заходняй Беларусі была якасна іншая. Паэзія вызначалася тут "падкрэсленай зместавай і фармальнай неаднароднасцю, шматколернасцю і поліфанічнасцю, спалучэннем розных мастацкіх напрамкаў і творчых метадаў, тэндэнцый і школ, стылявых плыняў, ліній і арыентацый, жанравых структур". Тут аўтар адчуваў за сабою права выбару і гэты выбар мог адстойваць у палемічнай дыскусіі і непасрэдна ў творчасці. Сцвярджэнне даследчыка: "Феномен заходнебеларускай паэзіі, як і ў цэлым літаратуры і культуры, заключаўся ў тым, што яна мела ў многім самадастатковы, аўтаномны характар і ўяўляла сабою пэўнае духоўна-мастацкае адзінства і цэласнасць" варта ўспрымаць як галоўны навукова-метадалагічны канцэпт працы.

М. Мікуліча як даследчыка вызначае шырокі навуковы кругагляд і грунтоўны тэарэтыка-метадалагічны фундамент, на аснове якога ён разглядае тую ці іншую творчую індывідуальнасць. У яго манаграфіі прадстаўлены розныя погляды і пазіцыі, падчас нават палярна супрацьлеглыя — філасафаў, гісторыкаў, літаратуразнаўцаў, самых мастакоў слова.

На матэрыяле паэзіі Заходняй Беларусі М. Мікуліч звяртаецца да аналізу мастацкага стылю і разглядае яго не толькі "як падпарадкаванасць творчасці пісьменніка пэўнай эстэтычнай характэрнасці, мастацкай заканамернасці, але і як падпарадкаванасць самога пісьменніка асаблівасцям грамадскага жыцця, рэчаіснасці, якая выстаўляе яму свае патрабаванні, абумоўлівае змест і напрамак ідэйна-эстэтычных пошукаў". Для таго, каб больш дакладна выявіць змест катэгорыі стылю, аўтар суадносіць яго з паняццямі мастацкага напрамку, творчага метаду, стылявой плыні і г.д. М. Мікуліч, па сутнасці, упершыню ў беларускім літаратуразнаўстве прапануе вызначэнне паняцця стылявой плыні: "Творчасць прадстаўнікоў пэўнай стылявой плыні характарызуецца спецыфікай адбору і выяўлення багатага і супярэчлівага жыццёвага матэрыялу, адметнымі рысамі духоўна-філасофскага і сацыяльна-гістарычнага складу асобы, тыпу героя, эстэтычнай пазіцыі, мастацкага мыслення".

У заходнебеларускай паэзіі даследчык вылучае тры стылявыя плыні — лірыка-апавядальную, рамантычную і духоўна-ірацыянальную. "Кожная адзначаная стылявая плынь, — заўважае аўтар, — характарызавалася ўстойлівай сістэмай канстытуцыйных прыкмет і асаблівасцей, якія збіралі яе ў адзінае цэлае, фарміравалі эстэтычны змест і аблічча. Менавіта сістэмай, таму што некаторыя з гэтых прыкмет і асаблівасцей у асобным, не звязаным паміж сабою кантэкстуальным выяўленні можна знайсці не ў адной, а ў некалькіх плынях". Гэтыя плыні адрозніваліся паміж сабой характарам раскрыцця лірычнага героя, тымі духоўна-маральнымі і ідэйна-эстэтычнымі каштоўнасцямі і прыярытэтамі, на якія ён арыентаваўся.

Першы раздзел манаграфіі — "Магчымасці паэтычнага аповеду" — прысвечаны аналізу творчасці прадстаўнікоў лірыка-апавядальнай стылявой плыні. Аўтар падзяляе іх на дзве групы. Літаратурныя пошукі Г. Леўчыка, Ф. Грышкевіча, Я. Быліны, Улад. Ініцкага, С. Станкевіча цалкам палягалі ў мастацкім рэчышчы нашаніўства. Творы гэтых паэтаў, паводле меркавання даследчыка, былі скіраваныя да асноў фальклорнай свядомасці, народнага светаўспрымання, вызначаліся шчырасцю, а часам і наіўнасцю мар і памкненняў героя. На першым плане ў іх фігуравала сацыяльна абумоўленае, грамадскае, а суб'ектыўнае, асабістае, лірычнае было на другім, а то і трэцім плане. Па-за ўвагай М. Мікуліча не застаюцца і такія імёны, як С. Новік-Пяюн, Ф. Каравацкі, А. Мілюць, М. Явар. Да другой групы аднесеныя А. Смаленец, М. Васілёк, М. Машара, М. Засім, А. Іверс, А. Дубровіч і інш. Творы гэтых паэтаў характарызаваліся больш высокім узроўнем духоўна-сацыяльнай свядомасці лірычнага героя, увагай да псіхалагічнага свету чалавека, узаемапранікненнем аб'ектыўнага і суб'ектыўнага. Асабліва ярка і пераканаўча паказана гэта на прыкладзе паэзіі Сяргея Крыўца.

Вельмі багатай на творчыя пошукі і здабыткі была рамантычная стылявая плынь заходнебеларускай паэзіі, якой прысвечаны другі раздзел манаграфіі — "На крылах рамантычнага ўздыму". Яе актыўнае развіццё М. Мікуліч абгрунтоўвае гістарычным становішчам краю, ростам самасвядомасці шырокіх працоўных мас, разгортваннем нацыянальна-вызваленчай барацьбы. Аўтар выяўляе агульнае ў гэтай плыні і прасочвае адметнае, што ў сваю чаргу дае яму падставы вызначыць дзве рамантычныя лініі — нацыянальна-адраджэнцкую і рэвалюцыйную. Пачынальнікам нацыянальна-адраджэнцкай рамантычнай лініі, як лічыць даследчык, быў Леапольд Родзевіч; да яе ён таксама адносіць У. Жылку, І. Дварчаніна, П. Сакола, іншых паэтаў. У яе рэчышчы працавалі М. Танк, А. Салагуб, П. Шукайла, В. Таўлай і г.д.

> *М. Мікуліча як даследчыка вызначае шырокі навуковы кругагляд і грунтоўны тэарэтыка-метадалагічны фундамент, на аснове якога ён разглядае тую ці іншую творчую індывідуальнасць. У яго манаграфіі прадстаўлены розныя погляды і пазіцыі, падчас нават палярна супрацьлеглыя — філасафаў, гісторыкаў, літаратуразнаўцаў, самых мастакоў слова.*

М. Мікуліч не проста аналізуе творчасць гэтых паэтаў, але і знаходзіць вельмі жывыя, яскравыя, паказальныя штрыхі і дэталі — з асабістага жыцця, ліставання, адносін да грамадска-сацыяльных парадкаў у краі, якія найбольш поўна раскрываюць асобу пэўнага мастака. Як, напрыклад, гэтае прызнанне Л. Родзевіча з яго ліста да У. Жылкі: "Ох, як мне хочацца затачыцца ў нейкую дырку і ўздыхнуць свабодна і пабыць сам з сабой і палетуцець. Страшэнна паважаю адзіноцтва". А ўся неадпаведнасць і непрымірымасць маральна-этычных і ідэйна-мастацкіх уяўленняў таленавітага паэта і літаратурна-крытычнай думкі Савецкай Беларусі 1930-х гадоў цудоўна адлюстраваліся ў аналізе і ацэнцы творчасці Уладзіміра Жылкі. Выказванні Т. Глыбоцкага, А. Гародні і іншых крытыкаў толькі падмацоўваюць сцвярджэнне М. Мікуліча пра тое, што "высокія духоўныя прынцыпы і каштоўнасці жыцця У. Жылка адстойваў на працягу ўсяго свайго нялёгкага зямнога шляху". Наогул, аналіз творчасці У. Жылкі выкананы на самым высокім літаратуразнаўчым узроўні. Зрэшты, талент яркага даследчыка ў поўным аб'ёме раскрыўся і пры асэнсаванні творчасці Л. Родзевіча, П. Шукайлы, М. Танка, В. Таўлая.

Заключны раздзел працы —"У рэчышчы духоўна-ірацыянальных пошукаў" — прысвечаны разгляду духоўна-ірацыянальнай стылявой плыні развіцця заходнебеларускай паэзіі. М. Мікуліч падрабязна спыняецца на яе адрозненні ад дзвюх папярэдніх, адзначае меншую цікавасць да сацыяльна-гістарычных працэсаў і г.д. Тут лірычны герой "звяртаў на сябе ўвагу характэрнай сканцэнтраванасцю на сваім унутраным суб'ектыўным свеце, які амаль не судакранаўся са светам знешняй рэчаіснасці, але быў уключаны ў прастору вялікага касмічнага цэлага". Творчасць прадстаўнікоў гэтай плыні — К. Сваяка, В. Адважнага, Х. Ільяшэвіча і інш. сапраўды "ўтварала своеасаблівую сакральна-містычную прастору, якая вызначалася энергетычным зарадам рэлігійнасці, раскрыццём духоўнага зместу падсвядомага". Творчасць у іх разуменні заўсёды знаходзілася над рэчаіснасцю, над сацыяльнымі імкненнямі і грамадскімі інтарэсамі, таму мастацкі твор не сродак дасягнення пэўнай мэты, а сама мэта. Аналізуючы творчасць К. Сваяка, аўтар шырока выкарыстоўвае не толькі яго паэтычныя тэксты, але і дзённік "Дзея маёй мыслі, сэрца і волі". Больш за тое, даследчык параўноўвае паэзію К. Сваяка і В. Адважнага. І гэта далёка не адзіная паралель. У манаграфіі адзначаюцца генетычныя кантакты і тыпалагічныя сыходжанні Г. Леўчыка і Я. Купалы, М. Васілька і М. Машары, М. Танка і Г. Новік.

Заслугай М. Мікуліча з'яўляецца тое, што ён упершыню ў нашым літаратуразнаўстве прааналізаваў творчасць Ф. Грышкевіча, А. Бартуля, Улад. Ініцкага, С. Станкевіча, А. Смаленца, У. Казлоўшчыка, П. Сеўрука.

Манаграфія Міколы Мікуліча "Паэзія Заходняй Беларусі (1921 — 1939)" — адна з лепшых за апошнія гады ў беларускім літаратуразнаўстве. Яна раскрывае шырокую панараму літаратурнага жыцця ў "забраным краі" на фоне сацыяльна-палітычных і грамадска-культурных змен і зрухаў. Даследаванне вызначаецца арыгінальнай навукова-тэарэтычнай канцэпцыяй, аналітычным зместам, факталагічнай насычанасцю. Яно, несумненна, знойдзе свайго ўдзячнага чытача і прыхільніка.

# Развіццё беларускага кітаязнаўства

Хведар ЛАЗОЎСКІ

**Рэцэнзаваць зборнікі матэрыялаў навуковых канферэнцый — у некаторай ступені справа марная. У дадзеным выпадку хацелася б не столькі рэцэнзаваць зборнік навуковых прац "Беларусь — Кітай" (выпуск 8), колькі звярнуць увагу на самі абсягі працы ў гэтым кірунку.**

Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, заснавальны міжнародную канферэнцыю "Кітай у сучасным свеце" (у лістападзе 2011 года прайшла чацвёртая па ліку), стаў своеасаблівым навуковым цэнтрам у галіне ўсходазнаўства ў нашай краіне. Апошнія гады засведчылі, што менавіта стасункі Беларусі з Кітаем становяцца прадметам найбольш шырокага прасторавага даследавання.

Здавалася б, гэтыя прыярытэты маглі б заставацца за беларуска-ўкраінскімі, беларуска-польскімі ці беларуска-расійскімі адносінамі. І тым не меней...

Давайце звернемся ўсё ж да восьмага выпуску зборніка "Беларусь — Кітай". Дарэчы, яго агляд будзе цікавым яшчэ і таму, што кніга выдадзена тыражом 250 экзэмпляраў і шырокага розгаласу не мела. Даклады і паведамленні выкладзеныя па наступных тэмах: "Кітайская цывілізацыя і яе роля ў сусветных працэсах. Міжнароднае супрацоўніцтва", "Кітайская мадэль эканомікі. Мадэрнізацыя. Барацьба з крызісам", "Гісторыя. Культура. Адукацыя".

Літаратуразнаўчых, гісторыка-літаратурных, культуралагічных тэм разглядаецца не так і шмат. Але кожная з работ не можа не прыцягваць увагу. І не толькі вузкіх спецыялістаў у галіне кітаязнаўства. Доктар філалагічных навук В. Рагойша і студэнтка БДУ Чжаа Цзіньянь разглядаюць тэму "Вобраз Кітая ў адлюстраванні Максіма Танка". У кастрычніку 1957 года беларускі паэт разам з дэлегацыяй савецкіх дзеячаў культуры наведаў Пекін, іншыя гарады Паднябеснай. Цэлы месяц М. Танк адкрываў, спасцігаў культуру, літаратуру, мастацтва гэтай краіны. Як вынік — тры дзясяткі вершаў "Кітайскага цыкла".

Даследчыкі звяртаюцца да дзённікаў М. Танка, аналізуюць іх змест, акцэнтуюць увагу на "кітайскіх" вершах беларускага мастака слова. І напрыканцы падкрэсліваюць, што паэт заўсёды з павагай ставіўся да Кітая і кітайскага народа.

"Кітайскі народны каляндар і славянскія міфы пра жывёл" — тэма даклада доктара філалагічных навук Т. Шамякінай і выкладчыцы кафедры тэорыі літаратуры БДУ С. Шамякінай. Да вытокаў беларускай кітаістыкі звярнуліся Т. Кабржыцкая і У. Рагойша ("Кітайская казка-прытча на старонках "Нашай нівы"). Пра беларускую гістарыяграфію гісторыі Кітая расказвае кандыдат гістарычных навук В. Астрога. Між іншым, у 1920 — 1930-я гг. выкладчыкі БДУ надрукавалі цэлы шэраг артыкулаў, брашур, прысвечаных актуальным пытанням палітычнага жыцця ў Кітаі пачатку XX стагоддзя.

Змешчаны ў зборніку і шэраг артыкулаў на кітайскай мове. Як правіла, прысвечаныя яны пытанням мовазнаўства. Міжнародная канферэнцыя "Кітай у сучасным свеце", якую Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя Белдзяржуніверсітэта зрабіў добрай традыцыяй, выданне навуковага зборніка "Беларусь — Кітай" — факты, якія сведчаць пра ўсталяванне ў Беларусі трывалых асноў для развіцця ўсходазнаўства. Магчыма, і айчыннае літаратуразнаўства актыўней спрычыніцца да гэтага. Апошнія паўтара дзесяцігоддзя дадалі і фактаў, новых падстаў для гэтага. Ды і перакладчыцкая праца ў 1950-я — на пачатку 1960-х гг. вартым чынам не даследавана. У 1980—1990-я гг. у Кітаі актыўна перакладаліся і выдаваліся творы Івана Шамякіна, Васіля Быкава. І пра гэта таксама варта некаму сказаць сваё даследчыцкае слова.

# Навука пра літаратуру

Ірына БАЖОК

**Выхад кожнага навукова-крытычнага зборніка — падзея важная. Па-першае, такія выданні даюць магчымасць зафіксаваць у часе актуальныя веды; па-другое, дэманструюць дасягненні і імкненні сённяшняга дня.**

"Літаратура і час: постаці, тэндэнцыі, плыні" (Гомель, 2011), зборнік навукова-крытычных артыкулаў кандыдата філалагічных навук Анжэлы Мельнікавай, створаны з асаблівай любоўю да нацыянальнай літаратуры. Манера пісьма крытыка выклікае на ўнутраную размову. Усялякая кніга, бадай, і пішацца для размовы з чалавецтвам.

Зборнік складаецца з трох раздзелаў: "Крытычныя штудыі", "Рэцэнзіі" і "Літаратуразнаўства". У "Літаратуру і час" у першую чаргу ўвайшло выбранае, тое, пра што захацелася сказаць тут і цяпер. За кожным з артыкулаў адчуваецца досвед, глыбокае асэнсаванне аўтарам праблемы ці падзеі. Складваецца ўражанне, што А. Мельнікава асабіста ведае свайго "героя", сябруе з ім.

А. Мельнікава з тых крытыкаў і літаратараў, для каго мастацкі твор — рэальнасць, а мастацтва — арганічны складнік жыцця (мяркую, большасць навукоўцаў у дачыненні да сябе гэты факт адмаўляе).

Унікальнасць метаду даследчыцы заключаецца ў тым, што яна справядліва адкрывае беларускае ў еўрапейскім, а не наадварот (тут варта згадаць і папярэднія напрацоўкі А. Мельнікавай у гэтай галіне, а менавіта кнігу "Беларуская літаратура XX стагоддзя ў еўрапейскім кантэксце"). Перад намі ўзор смелага і добрасумленнага літаратуразнаўства. Разам з тым, даследчыца натуральна і нязмушана паказвае літаратуру, якая яна ёсць, без імкнення ўпісаць Слова ў якія-кольвечы межы. Выказанае аўтаркай меркаванне ўяўляецца незалежным, не прызваным да "правільнага" ці "няправільнага".

Увогуле, крытыку А. Мельнікавай можна назваць антрапа-нацыяцэнтрычнай. Галоўнымі "героямі" першага раздзела зборніка "Крытычныя штудыі" з'яўляюцца Жанчына і Гісторыя. Сімпатыя даследчыцы да гэтых аб'ектаў відавочная. Аднак часам здаецца, што падобная "ўлюбёнасць" перашкаджае ацаніць розныя бакі творчасці таго ці іншага пісьменніка. А.Мельнікава ўмее сумленна і шчыра гаварыць не толькі з чытачом, з "героем", але і з сабой, выступаючы ў ролі філосафа ("разумею, што..., але...", "З узростам пачынаеш больш ашчадна ставіцца да часу: не прапусціць бы галоўнае, пачынаеш задаваць сабе пытанні: для чаго, навошта, што табе дае чытанне таго ці іншага твора? Ці набліжае цябе да Сапраўднага?" і інш.). У першым раздзеле даследчыца разважае над творамі М. Вайцяшонак, Я.Чыквіна, У.Караткевіча, К. Тарасава, Н. Марціновіч, Я.Лайкова. У кожным артыкуле — прызнанне таленту і адоранасці аўтара ("Н. Марціновіч — паэтка ад бога", "Я.Лайкоў — адзін з самых моцных і адораных паэтаў, што з'явіліся ў нашай літаратуры апошнім часам" і інш.). Ці варта адносіць да недахопаў першага раздзела тое, што ў ім не адлюстраваныя пэўныя творчыя недапрацоўкі пісьменнікаў, — пытанне спрэчнае і складанае.

А. Мельнікава ўмее прызнаць іншага крытыка. Аналізуючы кнігі І. Афанасьева, І. Штэйнера, М. Тычыны і інш., аўтар захапляецца розумам таленавітых даследчыкаў літаратуры. Раздзел "Рэцэнзіі" мае вялікае значэнне для гісторыі літаратурнай крытыкі як галіны літаратуразнаўства.

Глыбока, аналітычна, спакойна, грунтоўна распавядае пра творчасць К. Чорнага раздзел "Літаратуразнаўства". Тут жа змешчаны вельмі важны артыкул па адной з самых цікавых і складаных галін тэорыі літаратуры — кампаратывістыцы. А.Мельнікава гаворыць пра актуальнасць пытання ў айчынным і сусветным літаратуразнаўстве; пра ролю параўнання ў мастацтве. Вельмі карыснымі з'яўляюцца навуковыя палажэнні наконт мэты параўнальнага літаратуразнаўства, яго методыкі і метадалогіі, цікавыя назіранні тыпаў літаратурных адносін і інш.

Зборнік навукова-крытычных артыкулаў А. Мельнікавай цэласны, карысны і цікавы. Іх разнастайнасць гаворыць у першую чаргу пра багатую, творчую і кампетэнтную натуру аўтаркі, якая паўстае грунтоўным тэарэтыкам, справядлівым крытыкам, сур'ёзным літаратуразнаўцам, удумлівым і ўдзячным чытачом.

*Меркаванне*

Алесь КАЎРУС

# Як называць Свята

**З нагоды Дня роднай мовы ў газетах з'явіліся выступы акадэмічных мовазнаўцаў А. Лукашанца і Н. Паляшчук, у якіх яны выказваюць меркаванне пра назвы свята нарадзін Хрыста: *Ражджаство, Раство* і іншыя. Скажу адкрыта: высновы, рэкамендацыі, якія робяць навукоўцы, здаюцца мне недастаткова пераканаўчымі.**

У нататцы "Слова як свята" ("Звязда", 21.02.2012) кандыдат філалагічных навук Наталля Паляшчук, выкарыстоўваючы лінгвістычныя і нелінгвістычныя звесткі, сцвярджае: "Як канфесіянальна маркіраваныя можна ахарактарызаваць у першую чаргу назвы *Ражджаство* і *Божае Нараджэнне*" і "У свецкай сферы для абазначэння галоўнага хрысціянскага свята найбольш прымальным можа лічыцца найменне *Нараджэнне Хрыстова*".

Разам з тым Н. Паляшчук прызнае, што "ў беларускіх тэкстах таксама шырока прадстаўлены адаптаваныя да беларускай мовы найменні *Раство, Ражаство, Ражство*, прычым ва ўжыванні пераважае *Раство*".

Нягледзячы на ўсталяванасць у беларускіх тэкстах і натуральнасць яго формы, слова *Раство* не дапушчаецца на ролю адпаведніка рускага *Рождество*, на яго месца паводле жадання праваслаўных царкоўнікаў і іх падтрымоўцаў-лінгвістаў укараняецца — у тым ліку праз перакладны "Слоўнік рэлігійных і багаслоўскіх тэрмінаў царкоўнаславянскі-беларускі" — назва *Ражджаство*.

Мабыць, як недахоп сучасных беларускіх слоўнікаў (а разам і слова *Раство*) Н. Паляшчук адзначае, што ў іх "зафіксавана толькі лексема *Каляды* і *Коляды*. Такую "непаўнату" слоўнікаў можна зразумець і апраўдаць, калі ўспомніць нядаўняе стаўленне да рэлігіі савецкай дзяржавы і грамадства.

А вось звесткі з гісторыі слова *Каляды* ("першапачаткова Калядамі называлася народнае зімовае свята дахрысціянскага паходжання") і сучаснага неадназначнага яго ўжывання ("Віншуем з Калядамі!") успрымаюцца як пададзеныя ў публікацыі Н. Паляшчук дзеля таго, каб апусціць ніжэй назву *Каляды* з месца, займанага ёю ў беларускай мове цягам стагоддзяў, і за кошт гэтага ўмацаваць пазіцыі наймення *Ражджаство*.

Здаецца, у гэтым выпадку пазіцыі мовазнаўцаў не супадаюць. Доктар філалагічных навук А. Лукашанец лічыць: "...павіншаваць каго-небудзь вельмі дарэчна "з *Калядамі*" ("ЛіМ", 17.02.2012).

Шкада, яшчэ адна гістарычная даведка, якая магла б быць істотнай у гаворцы пра разгляданыя словы, чамусьці не даецца. У "Гістарычным слоўніку беларускай мовы" (вып. 30.2010, с. 153 — 156) размешчаны як асноўныя назоўнікі *рожество, рожство, розство*, а слова *рождество* адсылаецца да *рожество*. Словы *рожество* і *рождество* — розныя паводле паходжання: усходнеславянскае (першае) і паўднёваславянскае (другое).

З улікам гэтых характарыстык даўніх слоў можа б не ўзнікала пытанне, якое з'яўляецца, калі чытаеш у адказах А.Лукашанца карэспандэнту такое: "Словы ж *Раство, Ражство* трэба разглядаць як народна-гутарковыя варыянты царкоўнаславянізма *Ражджаство*" ("ЛіМ", 17.02.2012). Папраўдзе ж *Раство* ў беларускай мове, як пацвярджае "Гістарычны слоўнік", узнікла ў выніку паступовага змянення формы назоўніка *Рожество*. У рускай мове працягвае ўжывацца стараславянскае (царкоўнаславянскае) *Рождество*. Напэўна, яго адаптавалі праваслаўныя рэлігійнікі да беларускай мовы, надалі яму форму *Ражджаство*.

Такім чынам, няма падстаў лічыць, што словы *Ражаство, Разство, Раство* — варыянты царкоўнаславянізма *Ражджаство*. Дый у царкоўнаславянскай мове такога слова не было. Выходзіць, пры акрэсліванні функцыянальна-стылістычнага статусу наймення *Раство* мовазнаўцамі ўзяты пад увагу не лінгвістычная правамернасць слова, не стаўленне да яго беларускага народа (ён ужывае гэтае слова), а меркаванне некаторых прадстаўнікоў праваслаўнай царквы.

А. Лукашанец вылучае адзін з крытэрыяў ацэнкі: "…Размова павінна ісці не пра тое, якая форма больш правільная, а пра сферы мэтазгоднага выкарыстання гэтых найменняў". Бясспрэчна, мэтазгоднасць — важны чыннік, які ўлічваецца пры пабудове выказвання. Але і ў нашым выпадку пытанне правільнасці формы слова ці, сказаць шырэй, яе дасканаласці нельга скідаць з рахунку.

Паглядзім на слова *Ражджаство* больш уважліва, павымаўляем яго.

Гэты назоўнік не што іншае, як запіс царкоўнаславянскага *Рождество* з перадачай рыс беларускай фанетыкі. Тыя, хто прапануе *Ражджаство* да выкарыстання ў беларускай мове, бачаць і чуюць яго не вачамі і вушамі беларуса, для якіх гэтае слова не толькі не ўзвышанае стылістычна, а, наадварот, — стылістычна зніжанае, можа, нават прастамоўнае, надта ўжо яно "бражджыць", немілагучнае.

А ўвогуле ў беларускай мове словы з гукавым спалучэннем *ждж* "законнанароджаныя", нарматыўныя: *дожджык, дрожджы, прыя[ждж]аць*.

Чаму ж на такім фоне назоўнік *Ражджаство* ўспрымаецца як неўласцівы нашай мове? Гэта абумоўлена марфемнай будовай слова. У беларускай мове няма назоўнікаў, у якіх суфікс *-(а)ств-* далучаецца да кораня, што канчаецца былым мяккім зычным. Гэты суфікс сустракаецца ў адзінкавых словах, якія ідуць ад старабеларускай мовы, і ў запазычаннях з рускай: *бажаство, язычаства* (выцеснілася варыянтам *язычніцтва*).

Варта нагадаць, што назву свята нарадзін Хрыста амаль пятнаццаць гадоў таму закрануў у гутарцы з карэспандэнтам "ЛіМа" (30.01.1998) былы дырэктар Інстытута мовазнаўства АН Беларусі акадэмік А. Падлужны. У прыватнасці, ён адзначыў: "...У рускай літаратурнай мове шмат стараславянізмаў. А яны дрэнна ўпісваюцца ў нашу, якая заснавана на народных дыялектах, дзе стараславянізмы трэба вышукваць. Скажам, колькі ўжо было варыянтаў назвы свята нараджэння Хрыста. І *Раство*, і *Ражаство*, і *Хрыстова нараджэнне...* Хто як, а ўсё адно адчуваецца пэўная недасканаласць выразу для нашай літаратурнай мовы".

Цікава, што А. Падлужны ў якасці альтэрнатывы не называе слова *Ражджаство*, відаць, трымаючыся думкі, што і гэты стараславянізм (царкоўнаславянізм) "дрэнна ўпісваецца ў нашу мову".

Але, як бачым, сучасныя царкоўныя дзеячы лёгка пераскочылі моўную перашкоду — і ўкараняюць у беларускую мову неалагізм *Ражджаство*, абгрунтоўваючы правамернасць яго ўжывання тым, што гэтае слова ёсць у царкоўнаславянскай мове *(Рождество)* і ў складзеным імі (пад іх кіраўніцтвам) слоўніку рэлігійных і багаслоўскіх тэрмінаў.

А. Лукашанец канстатуе: "У сучаснай беларускамоўнай практыцы... царкоўнаславянізм *Ражджаство* пашыраны ў афіцыйным праваслаўным набажэнстве. І гэта цалкам апраўдана". Яму, акадэмічнаму навукоўцу, належыць і такое сцвярджэнне: словы *Раство, Ражаство* "абсалютна дарэчныя ў гутарковым маўленні носьбітаў беларускай мовы". Напэўна, гэта не грэх — гутарыць пра Бога, сумаўляцца з ім на роднай мове. Дык навошта *Раство* падмяняць запазычаннем *Ражджаство*?

І пасля разгледжаных публікацый пытанні адносна закранутых тэрмінаў застаюцца. Акрэслім сваю пазіцыю.

Для абазначэння адзінай у сваім родзе, унікальнай падзеі — нараджэння Хрыста — больш прыдатнае найменне *Раство*, аднаслоўнае і ў словазлучэннях. З варыянтаў *Раство, Ражаство, Ражство* першы найпаўней беларускамоўна аформлены (параўн. *боства, мноства, прыгоства*).

У цэлым падзяляю думку мовазнаўцаў, што словазлучэнне *Нараджэнне Хрыста (Нараджэнне Хрыстова)* мае падставы ўжывацца ў набажэнстве (А. Лукашанец), што ў свецкай сферы найбольш прымальная назва свята *Нараджэнне Хрыстова* (Н. Паляшчук).

Наяўнасць сінонімаў дае магчымасць дыферэнцавана абазначаць з'яўленне на свет чалавека *(нараджэнне)* і Хрыста *(Раство)*. Параўнаем у рускай мове: *рождение* (человека) — *рождество* (Христа).

Дарэчы, выраз *нараджэнне Хрыста* быў вядомы беларускай мове сто гадоў таму. Ён двойчы ўжыты ў абразку В. Ластоўскага "Хрыстос нарадзіўся!": "*І для цябе, просты Беларускі Народ, вялікая навука, і вялікая памятка ў гэтым нараджэньню Хрыста...*" ("Наша Ніва", 1911, № 51 — 52).

Як можна зразумець з газетных тэкстаў, акадэмічныя навукоўцы падтрымліваюць выкарыстанне ў богаслужэнні слова *Ражджаство*. На нашу думку, паўторымся, перавагу трэба аддаваць яго беларускаму эквіваленту Раство.

Вартыя станоўчай ацэнкі, прыдатныя для далейшага функцыянавання — залежна ад стылю мовы, кантэксту і сітуацыі — традыцыйныя словы *Каляды, калядны*. Апошняе дазволіць пазбягаць ужывання няўдалага, цяжкавымоўнага прыметніка *ражджэственскі*.

Яўген ШУНЕЙКА,
фота Святланы Берасцень

# Каб пашыраліся далягляды

**Для наведвальнікаў Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі выстаўка "Прастора вольная зямлі (Беларускі пейзаж 1950-х — 2000-х гадоў)" сталася адной з галоўных сёлетніх падзей. Экспанаваліся творы 59 беларускіх жывапісцаў, якія прысвяцілі сябе жанру пейзажу або плённа займаюцца ім поруч з іншымі жанрамі. Выстаўка, куратарам якой была мастацтвазнаўца Н. Сяліцкая, — прыклад добрай арганізацыі праекта НММ "Нашы калекцыі".**

Шкада, што пераважная большасць нацыянальных мастацкіх калекцый знаходзіцца ў музейных фондах і пазнаёміцца з імі можна толькі пры адмысловай нагодзе. Думаецца, правядзенню мэтанакіраванай агляднай экспазіцыі не магло не паспрыяць 140-годдзе з дня нараджэння В. Бялыніцкага-Бірулі, карыфея айчыннага пейзажнага жывапісу. У кантэксце выстаўкі, якая прадставіла розныя кірункі ў развіцці беларускага пейзажу на працягу больш як паўстагоддзя, адбыўся "круглы стол" з удзелам мастакоў і мастацтвазнаўцаў.

Аднак размова за "круглым сталом" не закранула многіх актуальных праблем жанру. Немагчыма, напрыклад, адназначна прыняць думку, выказаную крытыкам-журналістам Б. Крэпакам, якая цягнула дыскутантаў да зусім іншых параметраў праблематыкі: маўляў, беларускі пейзаж мала чым адрозніваецца ад расійскага, бо развіваецца ў адзіным стылістычным і эстэтычным рэчышчы і да т.п. Агучу бясспрэчную праўду: расійскі пейзаж XX ст., годны спадкаемца "залатога веку" дэмакратычнага рускага жывапісу стагоддзя XIX, — самая ўзорная з'ява ў еўрапейскім мастацтве гэтага жанру. І калі беларускі пейзаж шмат у чым падобны да яго, гэта значыць, што нашы майстры падзяляюць сёння са сваімі расійскімі калегамі пальму першынства ў гэтай некалі камернай галіне жывапісу, народжанай у заходнееўрапейскім мастацтве XVII ст. Думаецца, варта не "журыцца" з такой нагоды, а сканцэнтраваць увагу на тым, якія шляхі яшчэ чакаюць беларускіх пейзажыстаў.

Самы недарэчны "камень на дарозе" ў гэтым кірунку — мастакоўская непаслядоўнасць. Сучасныя пейзажысты могуць да тонкасцей разабрацца ў жывапісных таямніцах В. Бялыніцкага-Бірулі, В. Цвіркі, І. Карасёва, У. Кудрэвіча, іншых мастацкіх аўтарытэтаў, але пераймаць і несці далей ідэйна-вобразную і каларыстычную эстафету іх творчага першапраходніцтва ў большасці сваёй чамусьці адмаўляюцца, нават маючы неабмежаваныя магчымасці.

Мінула не адно дзесяцігоддзе з першай мемарыяльнай выстаўкі Я. Драздовіча ў мінскім Палацы мастацтва (1979). Але і дагэтуль не скажаш, што ў нас атрымаў развіццё фантастычны пейзаж, які дзякуючы "Язэпу-вандроўніку" стаўся нацыянальнай адметнасцю беларускага мастацтва ў жывапісе, графіцы і нават у мастацтве маляваных дываноў. На мяжы выканання гэтай задачы стала працуе М. Бушчык ("Вечаровыя шпацыры", 1992). Выдатна стартаваў з аналагічнай вобразнай устаноўкай А. Задорын ("Райскі сад", 1990). Але на большае чамусьці не хапае рашучасці і фантазіі. У які раз пераконваешся, што на берагах Нёмана ў канцы 1960-х быў створаны на чале з В. Цвіркам і яго тамтэйшымі аднадумцамі самы наватарскі "гродзенскі стыль" беларускага пейзажнага жывапісу другой паловы XX ст., які адрозніваўся яскравым сімвалізмам колераў і надзвычайнай свабодай фармальных абагульненняў. Сведкі тых незабыўных часоў пакінулі Гродна і цяпер працуюць у Мінску, а выехаць на эцюды і працягнуць былыя эксперыменты, мабыць, не знаходзяць час.

Мінск як аб'ект увагі мастакоў-пейзажыстаў 1950—70-х гг. не саступаў у папулярнасці нёманскім берагам. Выстаўка засведчыла: М. Данцыг, Н. Воранаў, А. Кроль, П. Масленнікаў, М. Аксельрод, І. Басаў, В. Варламаў, М. Тарасікаў прысвяцілі нашай сталіцы сапраўдныя жывапісныя перліны. Але іх родныя дзеці-мастакі, творчыя нашчадкі, якія менавіта тут набылі прафесію, натхнёнай сувязі з маляўнічым горадам ужо не адчуваюць; мабыць, рэдка шпацыруюць па мінскіх вуліцах, бываюць у метро. А Мінск, які яшчэ не страціў свайго непаўторнага аблічча са старадаўнім Верхнім горадам, шыкоўным праспектам Незалежнасці і каларытнымі прадмесцямі, чакае новых жывапісных прысвячэнняў.



*Віталь Цвірка "Вясна".*

Ужо даўно перастаў радаваць творчымі адкрыццямі рэгіянальны гарадскі і вясковы пейзаж. Сёлета Полацку спаўняецца 1150 гадоў! Сталіцамі беларускай культуры слушна вызначаюць Віцебск, Гомель, Нясвіж. Паэты, што родам з гэтых гістарычных асяродкаў, не стамляюцца выдаваць новыя ўзнёслыя радкі пра родныя мясціны. А такое духоўнае паломніцтва ў сучасным пейзажным жывапісе — рэдкасць. Добры пачатак быў пакладзены, напрыклад, І. Стасевічам, які на адным дыханні напісаў вечаровы эцюд "Сафія Полацкая. Над Дзвіной" (1970). Новую і невычэрпную тэматыку распачаў Д. Алейнік у сонечным пейзажы з матывам гомельскага порта на рацэ Сож (1963). Нязвыклы вобразны свет увасобілі ў мясцінах зусім "звычайных" М. Селяшчук ("Пасёлак Ратамка", 1981) і А. Кузняцоў ("Звычайны дзень у Паставах", 1981), І. Рэй ("Наваколле Мінска", 1979) і інш. Здаецца, варта толькі на некалькі дзён запланаваць супольны "дэсант" пейзажыстаў як мага далей ад іх утульных майстэрняў, і пералік новых творчых адкрыццяў на малавядомых дарогах-сцяжынах можна будзе працягваць. Гэтыя дарогі — рэальная магчымасць завітаць таксама ў родныя мясціны шматлікіх нацыянальных герояў, даследчыкаў, паэтаў, касманаўтаў, ваяроў, кампазітараў, іншых слаўных асоб, па колькасці якіх Беларусь займае адно з вядучых месцаў у свеце. Такім чынам, можна будзе бачыць у пейзажы больш значны гісторыка-асветніцкі дыяпазон, у параўнанні з ранейшым успрыманнем.

Заўважанае сёння і відавочнае разыходжанне паміж сучаснымі магчымасцямі мастакоў вандраваць далёка за межамі Беларусі і адсутнасцю жадання прывозіць адтуль, як было прынята раней, шматлікія серыі свежых пейзажных занатовак. Доўгі час выключнай жывапіснай базай быў Гурзуф, дзе знаходзіўся ўсесаюзны Дом адпачынку мастакоў. Пра гэта сведчаць трапныя крымскія эцюды Н. Воранава (1959), Н. Чарнагаловай (1988), экспанаваныя на згаданай выстаўцы. Былі ў нашых мастакоў і іншыя далёкія крыніцы натхнення. Л. Дударэнка асвойваў запалярныя далячыні, Р. Раманка ўпарта ўзбіраўся на саянскія перавалы, П. Масленнікаў імкнуўся да гімалайскіх вяршынь, І. Ахрэмчык вандраваў па мангольскіх стэпах. Ад такіх традыцый нельга адмаўляцца, каб не пераўтварыцца неўзабаве ў, вобразна кажучы, заімшэлых" дамаседаў, самаізаляваных ад вялікага і блізкага для ўсіх нас сучаснага свету.

Вельмі пазітыўныя дасягненні заўважныя ў развіцці пейзажных вобразаў з архаічнымі матывамі. Напрыклад, Б. Забораў за больш як дваццацігоддзе свайго парыжскага перыяду стварыў самую вялікую і вельмі папулярную ў свеце серыю, прысвечаную беларускім гумнам ды хлявам з саламянымі стрэхамі. Вельмі прыцягальным матывам быў і застаецца для беларускіх пейзажыстаў старадаўні вадзяны млын ці вятрак: гэты вобраз малявалі В. Цвірка (1959), З. Літвінава (1977) і інш. Сёння сапраўдным лідарам у стварэнні і нават навукова-творчай рэканструкцыі такіх унікальных архітэктурных аб'ектаў з'яўляецца В. Нямцоў. Ён за лічаныя гады стварыў серыю з больш як 30-ці пейзажных кампазіцый, у аснове якіх самыя разнастайныя млыны, якія ўпрыгожвалі беларускія краявіды.

Следам за В. Бялыніцкім-Бірулем некалькі пакаленняў пейзажыстаў няспынна працавала над непасрэдным эцюдным матэрыялам, каб пранікнёна перанесці паветранае, прасторавае адчуванне станаў прыроды ў завершаныя кампазіцыі. Іх вялікі творчы ўнёсак у айчынны жывапіс пераконвае, што беларуская прырода для мастака захоўвае невычэрпнае багацце згарманізаваных колераў і вобразных матываў. Прыкладам — ужо этапныя беларускія пейзажы: "Вясна на Нёмане" (1960) А. Бархаткова, "Шэрань" (1960) А. Кроля, "Пачатак сакавіка (1957) М. Дучыца, "Канец мая" (1968) В. Савіцкага, "Блакітная вясна" (1964) І. Карасёва, "Да вясны" (1968) К. Касмачова, "Зямля" (1971) В. Грамыкі, "Вясна" (1961) і "Зімка" (1984) В. Цвіркі, "Май" (1957) Л. Баразны, "Паводка (1956) В. Дзежыца, "Вясна (1977) М. Казакевіча, "Воблака" (1975) Г. Вашчанкі, "Разліў. Раўбічы" (1954) Г. Азгур, "Крыніца" (1978) Л. Шчамялёва і інш. Нават з назваў зразумела, што многія мастакі ўсвядомлена ці інтуітыўна закладалі ў пейзажы адвечную ідэю нацыянальнага адраджэння, якая атаясамлялася з абуджэннем прыроды, скаванай зімовым сном, і трапяткім, жыццесцвярджальным яе веснавым росквітам. Жнівеньскія суквецці іх сонечных пейзажаў хутка пераходзілі ў кастрычніцкія "вогнішчы" і "золата" бярозавых гаёў, ахіналіся меланхалічным вэлюмам позняй восені, што можна атаясамляць са схільнасцю беларусаў да самапаглыблення, да блукання ў сутонні духоўнай пазарэальнасці.

Раней па розных прычынах немагчыма было высветліць патаемныя творчыя матывацыі "нейтральнага" пейзажнага жанру. Таму цяпер важна звярнуць увагу на ідэйныя вытокі нацыянальнага мастацтва, якое павінна паўнавартасна развіваць свае лепшыя традыцыі і ў пейзажы. На шчасце, у гэтай сферы ёсць адметная грамада першакласных жывапісцаў розных узростаў, кожны з якіх мае свой аўтарскі стыль, каларыстычныя і вобразныя прыхільнасці. Гэта В. Вашчанка, М. Назарчук, В. Шкаруба, У. Тоўсцік, С. Дамарад, У. Масленнікаў, І. Бархаткоў, М. Ісаёнак, У. Кожух, В. Барабанцаў, М. Мішчанка, А. Скавародка, Л. Хобатаў, М. Бушчык, Л. Гоманаў, А. Бяляўскі, Ф. Ястраб, К. Качан, В. Сумараў, А. Бараноўская, У. Сулкоўскі ды інш. Кожны з іх можа ўразіць гледачоў новай ранняй "Вясной" і залатой "Восенню", срэбнай "Зімкаю" і сакавітым "Летам", калі будзе шчыра спалучаць сваё натхненне з сучасным асэнсаваннем таго, якая ж яна вартасная і шматасацыятыўная для нашай мастацкай культуры — пейзажная Вобразнасць!

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Віктара Кавалёва

# Знітаванасць

**Нітачка да нітачкі, нітачка за нітачкай — як ноткі, як рыфмы, як маляўнічыя графічныя лініі, як тонкія жывапісныя мазкі... З іх рытмічнага злучэння ды мудрагелістых повязей высноўваецца чарада вобразаў: суровых і наіўна-камічных, падкрэслена дэкаратыўных, рамантычных, філасофскіх.
Творы Людмілы Пятруль не толькі захапляюць фантазіяй і майстэрствам аўтара. Яны ўражваюць як адухоўленае, высокае Мастацтва Габелена.**

Людміле Пятруль давялося калісьці працаваць на вытворчасці мастаком па тканінах і мастаком-афарміцелем. У яе багаты педагагічны досвед: выкладала ў альма-матар — Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, у мастацкіх школах (у адной з такіх працуе і цяпер). Займаецца батыкам, графікай, жывапісам, эксперыментальным тэкстылем. А ў галіне габелену Людміла Іванаўна — стваральніца непаўторнага мастацкага свету, які зачароўвае глыбінёй і дасціпнасцю вобразнага мыслення, тонкасцю густу. Прываблівае трапнасць выбару колеравай гамы, тэхнікі ды фактуры самых матэрыялаў для ўвасаблення ідэі кожнай з гэтых прыгожых і змястоўных кампазіцый.

Лаканічнай сімволікай, строгай рытмічнасцю, цеплынёй стрыманых пачуццяў, глыбіннай народнай духоўнасцю кранае габелен "Памяці дзядоў маіх". Праз пастэльна-перламутравае мроіва "Санета" бачыцца абрыс вялікага паэта-рамантыка, сына і выгнанніка нашай зямлі, які ў момант натхнення нагадвае лёгкую постаць анёла. Урачысты сюжэт "Аднаўленай фрэскі" нясе ў сабе алюзію на знакамітую "Казку пра замак" М. К. Чурлёніса. Загадкавыя фрагментарныя выявы ў мностве рознавялікіх акенцаў агромністага дома-будана даносяць маўклівыя і трывожныя "Тукі памяці". Мастацтвам эстэцкага "перакладу" радуюць рэмэйкі работ М. Шагала і К. Малевіча. Серыю "Сказ пра бульбу" ўяўляеш нізкаю ілюстрацый да нейкай неверагоднай кнігі пра нашу этнаграфію. А ўзнімае настрой вясёлы "Летні дождж" — гэткая ратонда з гарэзлівымі коскамі, сплеценымі з ніцінак бавоўны, мяккіх пасмачак і люрэксу, што ўвабрала ў сябе вобразы парасона, альтанкі, лістоты, неба...



*"Кардыяграма бою" (2004).*

Якія мудрыя повязі традыцый народнага ручнога ткацтва і стылістыкі старасвецкіх тэматычных шпалер, размаітых тэкстыльных тэхнік, жывапіснага каларыстычнага мыслення і законаў дызайну!

Вялікі персанальны праект Людмілы Пятруль, удзельніцы выставак з саракагадовым стажам, ладзіцца нядаўна ў сталічнай галерэі "Універсітэт культуры" і называецца "Повязі". Назва кажа пра



*"Клёцкі" з серыі габеленаў "Сказ пра бульбу" (1982 —1983).*

знітаванасць размаітых традыцый творчасці, пра лучнасць мастачкі з роднай зямлёй, прыродай, культурай, гісторыяй. Пра сувязь з беларускім словам: некалі ў перыёдыцы з'яўляліся яе вершы, пераклады з польскай і літоўскай паэзіі, а нізка лірыкі "Ля веснічак" увайшла ў калектыўны зборнік "Сцяжына" ("Мастацкая літаратура", 1983 г.). У "Повязях" і пераемнасць: побач з творамі Л. Пятруль экспанаваліся габелены яе вучняў — студэнтаў БДУКіМ ды маладых мастакоў. Нітачка да нітачкі, нітачка за нітачкай...

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара

# Усё як у Волкавых

**Вытокі прафесійных малюнкаў можна знайсці ўжо ў першабытных наскальных выявах, аснову якіх складаюць лінія і сілуэт. Творчасць сённяшніх мастакоў наблізілася да даследчай лабараторыі, дзе нараджаюцца цікавыя вобразы і вырашэнні. Энергія, пачуцці творцаў перадаюць на плоскасць аркуша, які ўрэшце ўражвае гледача багатым светам яго аўтара і высокай графічнай тэхнікай. Ды, як зазначыў рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Міхал Баразна падчас аднаго вернісажу, самым вялікім дасягненнем беларускай графікі ў першую чаргу з'яўляюцца не самі творы, а іх аўтары. Сённяшні госць "Прасторы ўяўлення" — адзін з іх. Гэта прадстаўнік выбітнай дынастыі, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Сяргей Волкаў.**

**— Сяргей Анатольевіч, ваш дзед — знакаміты жывапісец, бацька — жывапісец і графік, працаваў у газеце-плакаце "Раздавім фашысцкую гадзіну", пазней ператворанай у "Вожык", стаяў ля вытокаў часопіса "Вясёлка", ілюстраваў кнігі беларускіх і рускіх аўтараў. Як сябе пачувае творца, калі ён прадстаўнік мастацкай дынастыі?**

— Складана сябе пачуваю. Бо, з аднаго боку, нельга прозвішча "пакрыўдзіць". З другога — калі ўжо вырашыў стаць мастаком, дык трэба кожны дзень пацвярджаць, што ты сапраўдны мастак і нечага варты, а не проста так узяўся за гэтую справу. Мой дзед, Валянцін Віктаравіч, — выдатны жывапісец, народны мастак, прафесар. Бацька, Анатоль Валянцінавіч, —вядомы графік, адным з першых пачаў працаваць у пасляваенны перыяд над ілюстрацыяй, у тым ліку і над дзіцячай. І вельмі шмат паспеў у яго было ў гэтым кірунку. Дарэчы, бацьку тры разы вылучалі на званне заслужана дзеяча мастацтваў, і кожны раз нехта з "сяброў" успамінаў, што ён быў у акупацыі. І гэта ставіла кожны раз на ўсім "крыж". Нават мяне калісьці "дагнала" вайна. Займаўся грамадскай працай у Саюзе мастакоў, і не ўсім, мабыць, спадабалася, як я працаваў. Напісалі ў ЦК, што Волкаў, якога вы паважаеце, нарадзіўся ў Мінску падчас акупацыі.

**— Вы ў мастакоўскім асяроддзі з маленства: асэнсавана выбралі прафесію або вагаліся? Ці паўплывалі на выбар дзед і бацька?**

— Ніякага ўплыву не было. Бо ў нас гэта, так бы мовіць, фамільная рыса. У свой час дзед, калі выкладаў у Віцебскім мастацкім тэхнікуме, адгаворваў майго бацьку займацца мастацтвам. А бацька насуперак яму паступіў у гэты тэхнікум і выдатна яго скончыў. Акрамя мяне ў бацькі было дзве дачкі (на жаль, іх ужо няма). Адна стала музыкантам, скончыла кансерваторыю. А мы з другой сястрой, Ірынай, нічога не гаворачы бацьку, пайшлі ў Палац піянераў у выяўленчую студыю да С. Каткова. Вучыліся там некалькі год, потым паступілі ў мастацкае вучылішча. Бо ў тагачасны Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут нават заяву на экзамены не бралі без дыплома мастацкага вучылішча. Такія высокія тады былі прынцыпы і патрабаванні: трэба было ўжо ў нейкай ступені валодаць прафесійнымі навыкамі. А ў БДТМІ я скончыў графічнае аддзяленне.

Бацька ніякага ўплыву на наш выбар не аказваў: кім хочаце, тым і будзеце. Маці хацела, каб я пайшоў у політэхнічны: добрая прафесія і праца. Уплыў быў у тым, што з маленства я любіў стаяць побач з бацькам і назіраць, як ён працуе: малюе, робіць ілюстрацыі. Увесь гэты працэс мяне захапляў. Я толькі потым зразумеў, што тады шмат чаго ўспрыняў ад бацькі: многія тэхнічныя прыёмы, як рабіць падрыхтоўчы малюнак, расфарбоўваць, якім чынам карыстацца акварэллю. Але гэта тэхнічны бок. У творчасці ж мы — дзед, бацька, сястра, я — зусім не падобныя адно да аднаго. Перадалі дзед з бацькам адносіны да сваёй прафесіі: паважаць яе, жыць у ёй, працаваць, колькі можаш, і вельмі крытычна ставіцца да сваіх работ. Некаторыя мастакі зробяць маленечкі эскізік, тут жа ў яго ў рамачку і на сценачку. У нас ніколі такога не было. Бацька, калі зразумеў, што я стану мастаком, часта казаў: "Не атрымліваецца малюнак,



*Даўно заўважыў: чым лепш мастак адукаваны, чым багацейшы яго ўнутраны свет, тым лепей ён працуе і ніколі не стаіць каля сваіх работ, не расказвае пра іх. Глядач сам павінен знайсці тое, што хацеў выказаць мастак, ацаніць і вынесці свой вердыкт.*

выкідай у сметніцу і рабі наступны. Бо наступны заўсёды будзе лепшы за папярэдні. І ніколі не шкадуй сваёй працы". Гэтым прынцыпам я карыстаюся ўсё жыццё. Знаёмыя мастакі часам абураюцца, чаму я выкідваю малюнкі, а не дару каму-небудзь. А навошта буду дарыць тое, што мяне самога не задавальняе?! Усё жыццё працуючы з выдавецтвамі, разумею, што калі я нешта зраблю не так, як магу, і калі гэта заўважыць мастацкі рэдактар, будзе проста сорамна.

**— Усе звычкі, прынцыпы закладваюцца ў маленстве, пад уплывам дзіцячых уражанняў; асаблівая памяць мастака захоўвае пэўныя дэталі на ўсё жыццё. Вы згадваеце пасляваенны Мінск?**

— Пасляваенны разбураны Мінск памятаю вельмі добра. Цэлымі засталіся лічаныя дамы. Малымі бегалі па развалінах. Засталіся ў памяці вялізныя груды вялікіх жоўтых стрэляных гільзаў ад нямецкіх зеніткак. Ды і зброі рознай падбіралі шмат: і паламанай, і спраўнай. Было гонарам для дзятвы мець сваю асабістую зброю. Бацькі з намі "змагаліся", знаходзілі зброю і выкідвалі яе… Калі Мінск вызвалілі і тут выйшаў, у верасні 1944 года, першы нумар газеты плаката "Раздавім фашысцкую гадзіну", мой бацька зрабіў для яе вокладку. Ён быў заснавальнікам "Вожыка" і заўсёды заставаўся тут на першых ролях. Мастакоў тады ў Мінску амаль не было: хто змог, перад акупацыяй з'ехаў у Маскву. Мае бацькі з дзецьмі, як расказвала маці, дабраліся да Барысава, ды там ужо былі нямецкія танкі. Давялося вяртацца. Дом наш, па сутнасці доўгі барак (ён застаўся на малюнках бацькі), знаходзіўся каля цяперашняга дамка І з'езда РСДРП і згарэў у першыя дні вайны. Мы знайшлі прытулак у знаёмых мастакоў, дзе я і нарадзіўся.

**— Урэшце, і вы прыйшлі ў "Вожык". Праявілі сябе як карыкатурыст, майстар шаржаў. У вашай творчасці спалучыліся сатырычны плакат і афармленне мастацкай літаратуры; вы вядомы як графік-партрэтыст, аўтар серыі станковых жаночых партрэтаў. Ці лёгка ўсё гэта сумяшчаць?**

— У "Вожыку" я не ўвесь час працаваў. У "Вясёлцы" ж з нумара ў нумар — трыццаць год. Акрамя гэтага, рабіў літаграфіі, гравюры, акварэлі, у тым ліку шмат станковых серый. Прыкладам, у 1988 — 1989 гадах стварыў серыю з дзесяці літаграфскіх аркушаў "Старонкі гісторыі": ад стварэння БССР да перабудовы. У Мінску і ў Маскве аформіў больш як 300 дзіцячых кніг. А пераключацца для мяне вельмі проста. Усё гэта мая страсць: і станковыя малюнкі, і ілюстрацыі. Адно да аднаго нешта дадае, і такое пераключэнне для мяне, лічу, вельмі карыснае.

**— Ёсць у вас мара прачытаць па-мастакоўску, аформіць для выдавецтва кнігу якога-небудзь канкрэтнага аўтара?**

— Канкрэтнага — не. Аформіў процьму кніг, і абсалютна ўсе — для дзяцей. А ўрэшце сам напісаў кнігу для дзяцей, аформіў, зрабіў макет. Яна прысвечана героям славянскай міфалогіі і вытрымала ўжо трэцяе перавыданне. Я прыхільнік старой школы, што цяпер не ўсім падабаецца, і сапраўды ўмею вельмі добра маляваць. Партрэты малюю ў асноўным з натуры. Гэтым навыкам у нас далёка не ўсе валодаюць. Мой дзед мог стаць побач са студэнтамі і разам з імі намаляваць натуршчыка: яны назіралі, з чаго майстар пачынае малюнак, як ён яго праходзіць, стварае святлацені. І гэта была сапраўдная школа! Каго з цяперашніх мастакоў можна прымусіць стаць побач са студэнтам і паспрабаваць нешта намаляваць? Не змогуць: я ў гэтым пераконваўся.

І яшчэ ў нас цяпер пануе вельмі нядобрая практыка, калі студэнт пятага курса ў чэрвені абараняе дыплом, а ўжо ў верасні ён —педагог на гэтай жа кафедры. Ён атрымаў толькі навыкі прафесійнага майстэрства ў малюнку, жывапісе, кампазіцыі, але яшчэ не стаў мастаком. Як ён можа "вырошчваць" творцаў? Ён павінен спраўдзіцца як мастак, бо тое, што ён ведае, — гэта толькі рамяство.

Калі выкладае чалавек з імем ці хаця б член Беларускага саюза мастакоў — іншая справа. Даўно заўважыў: чым лепш мастак адукаваны, чым багацейшы яго ўнутраны свет, тым лепей ён працуе і ніколі не стаіць каля сваіх работ, не расказвае пра іх. Глядач сам павінен знайсці тое, што хацеў выказаць мастак, ацаніць і вынесці свой вердыкт. А калі выстаўляецца работа, якую можна павесіць і бокам, і дагары нагамі і яна нічога ад гэтага не страціць, побач будзе стаяць аўтар і тлумачыць, што ён хацеў тут сказаць. Часта такія, на маю думку, не зусім мастакі вельмі добра распавядаюць пра свае работы, а не пра свае ўражанні, пачуцці.

*Перадалі дзед з бацькам адносіны да сваёй прафесіі: паважаць яе, жыць у ёй, працаваць, колькі можаш, і вельмі крытычна адносіцца да сваіх работ. Некаторыя мастакі зробяць маленечкі эскізік, тут жа ў яго ў рамачку і на сценачку. У нас ніколі такога не было. Бацька, калі зразумеў, што я стану мастаком, часта казаў: "Не атрымліваецца малюнак, выкідай у сметніцу і рабі наступны. Бо наступны заўсёды будзе лепшы за папярэдні".*

Можа, я цяпер выглядаю "белай варонай". Бо на традыцыйнай біенале графікі мае рэалістычныя, намаляваныя з натуры работы не ўсімі ўспрымаюцца. Кажуць, гэта не сучаснае мастацтва. А хто можа вызначыць, што сучасна, а што не? На маю думку, сучаснае ўсё тое, што робіцца цяпер. Не трэба арыентавацца на тое, што было на Захадзе 20 — 40 год таму. У мяне ёсць падшыўкі за 1970 — 80-я гады аднаго замежнага часопіса, прысвечанага мастацтву. Там ёсць усё тое, што ў нас хочуць выдаць за сённяшняе мастацтва. Сорамна. Але час расставіць усё па сваіх месцах.

**— Ваш дзед "пусціў" у свет цэлую школу мастакоў. А ў вас ёсць вучні і ці чакаць працягу дынастыі?**

— Я ніколі не выкладаў, не маю нават працоўнай кніжкі. Жыў толькі творчасцю, на ганарары.

Дачка мая наведвала выяўленчую студыю, добра малявала, але пайшла ва ўніверсітэт на прыкладную матэматыку, скончыла аспірантуру. Ёсць два ўнукі, якія малююць з задавальненнем. Унучка вучыцца ў гімназіі. Яны ўсе любяць, калі я ім малюю. А што будзе далей? Як ва ўсіх Волкавых, без аніякага прымусу: хочаш — малюй, не хочаш — твая справа.

**— Вы ўваходзіце ў творчае аб'яднанне "Верасень" — суполку прафесійных мастакоў, аднадумцаў у поглядах на мастацтва, прыхільнікаў творчасці, зарыентаванай на высокія маральныя і духоўныя агульначалавечыя каштоўнасці. Чаму вы абралі менавіта "Верасень"?..**

— Усё і пачыналася з "Верасня". Можа, гэта гучыць няціпла, але я заснавальнік гэтай суполкі, якая з'явілася ў 1989 годзе. Сам напісаў і яе статут. Гэтае творчае аб'яднанне стала адказам на тое, што пачало адбывацца ў тагачасным Саюзе мастакоў, калі пайшоў падзел: наш — не наш, рэаліст — не рэаліст… Мы аб'ядналіся не паводле цэхавага прынцыпу, як было з часоў Сталіна: графікі, скульптары і г.д. У нас і жывапісцы, і мастацтвазнаўцы… Мы паважаем мастацтва адно аднаго. На свае выстаўкі кожны член "Верасня" прыносіць тыя работы, якія захоча.

**— На апошняй выстаўцы аб'яднання "Верасень", дзе вы прадстаўлялі свае работы з серыі "Эмоцыі", прафесар Павел Семчанка зазначыў, што мы прыходзім у гэты свет, каб убачыць яго святло, а некаторым абраным, то бок мастакам, дадзена гэтае святло адлюстроўваць. Вы згодны з гэтым выказваннем?**

— Сказана вельмі хораша. Але я не прыхільнік такіх маніфестаў. Мне здаецца, усё павінен сказаць глядач. Нешта яго прыцягне да твора, нешта выкліча зваротную рэакцыю — добра. А шмат што вісіць на выстаўках быццам фонам, і глядач проста праходзіць міма.

Глядзеў нядаўна тэлепраграму "Страсці па культуры", дзе сабралі мастакоў, якіх я не ведаю і не бачыў іх работ. Яны амаль гадзіну распавядалі пра тое, як працуюць, як Бог зверху на іх апускае свой светлы погляд, як ён праз іх галаву і правую руку дакранаецца пэндзлем да палатна… Я проста выключыў тэлевізар. Гэта ж прафанацыя. А вось калі мастак зрабіў сапраўды добры твор, заўважаны гледачом, — гэта выдатна. Творцу можна толькі павіншаваць.

# Пісанка — сімвал жыцця

Дар'я ШОЦІК,
фота аўтара

**Ужо даўно жыхары Стоўбцаў не прымалі такую колькасць творчых і натхнёных людзей з розных раёнаў Міншчыны. Нагода для гэтага была прыемнай: тут прайшло І абласное свята-конкурс "Велікодная пісанка". Яго арганізатарамі выступілі Мінскі абласны цэнтр народнай творчасці і аддзел культуры Стаўбцоўскага райвыканкама. Галоўная ідэя мерапрыемства — захаваць і адрадзіць традыцыі распісвання велікодных яек.**



*Аліна Халявінская дэманструе "драпанку".*

— Яшчэ ў старажытнасці распісвалі яйкі воскам, бо ён дазваляе нанесці асаблівы малюнак і захаваць яго, — распавяла кандыдат мастацтвазнаўства Вольга Лабачэўская. — Вымалёўваюць узор з сімвалаў, розных геаметрычных фігур, магічных знакаў самымі звычайнымі прадметамі: палачкай, цвіком, пісаком, шпількай. Затым яйкі апускалі ў фарбавальнік чырвонага колеру. Самы распаўсюджаны — адвар шалупіння цыбулі. Настой альховай кары ці дуба даваў чорна-карычневы колер. Дарэчы, слова "пісанка" азначае "яркі, пярэсты".

Пасля асвячэння хросная маці абавязкова прыносіла пісанкі сваім хрэснікам. Вельмі часта іх дарылі для добрага ўраджаю, здароўя і дабрабыту родных, блізкіх. Лічылася, што яны абаранялі ад злых людзей, хваробы, беднасці. А галоўнае, што праз пісанку ішлі цяпло, радасць, міласэрнасць і дабро для ўсёй сям'і.

Майстры, дзеці і дарослыя з 13 раёнаў Міншчыны, якія сабраліся на свята, дэманстравалі пісанку ў разнастайнай тэхніцы. Пераможцы вызначаліся па сямі намінацыях: "Фарбаванне і дэкарыраванне яек традыцыйнымі тэхнікамі (выраб "крашанак", "травянак", "драпанак"), "Мастацкі роспіс велікодных яек воскам" (аздабленне шпількай, цвіком, пісаком), "Мастацкі роспіс драўляных велікодных яек", "Інкрустацыя саломкай драўляных велікодных яек", "Аздабленне велікодных яек бісерам", "Лепшая хатняя калекцыя", "Аўтарскі падыход да мастацтва аздаблення велікодных яек". Пра прыёмы дэкаратыўнага ўпрыгожвання яек і творчы падыход распавялі самі майстры.

— Яшчэ ў дзяцінстве займалася шкрабаннем яек, — распавяла Аліна Халявінская, кіраўнік клуба "Пралеска" Стаўбцоўскага раённага Дома культуры. — Матуля нафарбуе яек, а мы (чацвёра дзяцей) садзіліся побач і "раздрапвалі" іх. Малюнак маці сама прыдумляла, тлумачыла нам, што трохкутнікі — гэта зямля, квадрацікі — сонца… Калі пазней пачала вывучаць гэты від мастацтва, зразумела ўсе сімвалы. Раздрапваю так, як вучыла маці.

Аліна Антонаўна сваёй улюбёнасцю ў дэкарыраванне і мастацкімі ідэямі зацікавіла дзяцей. Яе выхавальнікі — Павел Гінтоўт і Дзмітрый Пугач — займаюцца аздабленнем яек у тэхніцы прадрапвання.



*Яйкі з Вілейскага раённага Дома рамёстваў.*

Аляксандра Грынкевіч, член народнага клуба майстроў Бярэзінскага РДК, пры аздабленні велікодных яек бісерам выкарыстоўвае нацыянальную сімволіку.

Узялі ўдзел у конкурсе і прадстаўнікі Вілейскага раённага Дома рамёстваў, на базе якога створаны музей яйка.

— Драўлянае яйка дазваляе нашым майстрам увасобіць многія ідэі, прадэманстраваць свой аўтарскі стыль і выкарыстаць розныя віды дэкаратыўнага роспісу, — зазначыў дырэктар Вілейскага раённага Дома рамёстваў Сяргей Дубяга.

І хаця ўсе прадстаўленыя работы вельмі прыгожыя і адметныя, найбольш уразіла гледачоў і журы дрэва, зробленае з яек. Яго аўтар Галіна Міранчук з Маладзечанскага раёна атрымала гран-пры конкурсу "Велікодная пісанка".

Ёсць надзея, што народных майстроў, якія будуць займацца дэкарыраваннем велікодных яек і захоўваць традыцыі гэтага мастацтва, на Міншчыне стане больш.

*Між іншым*

# Велікодныя яйкі: беларускія і замежныя

Раіса МАРЧУК

**Традыцыйная выстаўка "Велікодныя яйкі" адкрылася нядаўна ў фальклорна-этнаграфічным кабінеце-музеі беларускай культуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.**

Падчас яе прэзентацыі доктар філалагічных навук прафесар кафедры беларускай літаратуры і культуры Ірына Казакова расказала пра гісторыю Вялікадня і традыцыі яго святкавання ў розных народаў свету, а таксама пра велікодныя яйкі як галоўны сімвал аднаго з самых вялікіх хрысціянскіх свят.

— У экспазіцыі прадстаўлены экспанаты з фондаў фальклорна-этнаграфічнага кабінета-музея беларускай культуры; драўляныя пісанкі з майстэрні Свята-Елісавецінскага манастыра; экспанаты з уласных калекцый прафесара Ірыны Казаковай, выкладчыц Славяны Шамякінай, майстра Юліі Цярэнцьевай, члена Садружнасці дзелавых і творчых жанчын; экспанаты з адзінага ў свеце Музея пісанак (знаходзіцца ва Украіне, у горадзе Каламыя); крыжы, выкана领ныя ў тэхніцы фрывалітэ майстрам Юліяй Цярэнцьевай; кампазіцыя з фетру і акрылу "Кураняткі" (майстар — Валянціна Лаўрэнова), — паведаміла загадчыца кабінета-музея Ганна Шваба.

Наведвальнікі пабачаць драўляныя, фарфоравыя, каменныя, керамічныя, шкляныя, васковыя, папяровыя і іншыя велікодныя яйкі. У экспазіцыі — больш як 100 экспанатаў з Беларусі, Украіны, Расіі, Кітая, Чэхіі, Германіі, Грэцыі, Егіпта і Галандыі.

Госці філфака таксама змогуць азнаёміцца з пастаяннай экспазіцыяй кабінета-музея "Праваслаўныя абразы Маці Боскай на Беларусі", убачыць факсімільнае выданне Біблії, выдадзенай Францыскам Скарынам у 1517—1519 гадах.

*Афарызм*

*Збірайце добрыя думкі ў сэрцы сваім, як пчала мёд.*

**Еўфрасіння ПОЛАЦКАЯ**

*З глыбінкі*

## Запамінальная сустрэча

Творчая сустрэча з пісьменнікам, навукоўцам, старшынёй Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхасём Пазняковым прайшла ў Барысаўскай гарадской бібліятэцы. Адбылася яна дзякуючы супольным намаганням Марыны Помаз — кіраўніка клуба аўтарскай песні "Капель" пры Барысаўскім цэнтры творчасці дзяцей і моладзі — і адміністрацыі бібліятэкі ў асобе намесніцы дырэктара Наталлі Шатэркі, а таксама супрацоўніц залы мастацтваў Надзеі Зімбель і Наталлі Алейнік.

Аўдыторыя падабралася цікаўная і неабыякавая да мастацкага слова — школьнікі, студэнты, настаўнікі, бібліятэкары. М. Пазнякоў адзначыў, што, нягледзячы на багатыя здабыткі ў "дарослым" жанры, сваю творчасць "для маленькіх" лічыць больш важнай, бо на падрастаючае пакаленне традыцыйна ўскладае вялікія спадзяванні.

У сустрэчы таксама ўзяў удзел кампазітар з Астраўца Аляксандр Якіменка, на творчым рахунку якога некалькі дзясяткаў песень на словы Міхася Пазнякова.

Настаўнік і краязнаўца Уладзімір Лайкоў напрыканцы імпрэзы адзначыў важнасць і неабходнасць правядзення такіх сустрэч, якія стымулююць зацікаўленасць айчынным мастацкім словам.

**Іван ПЛЁСАЎ,**
**г. Барысаў**

## Імёны слаўныя раёна

Вядомы краязнаўца, член СПБ Уладзімір Кісялёў, нягледзячы на сталічную прапіску і паважаны ўзрост, часты госць на Уздзеншчыне. А нядаўна, запрошаны на раённае свята працы, ва ўрачыстай абстаноўцы даведаўся, што імя яго занесена ў Кнігу славы раёна.

Заслугі пісьменніка перад Уздзенскай зямлёй вялікія. Гэта менавіта яго намаганнямі, дзякуючы яго карпатлівай працы стала вядомым на абшарах нашай краіны імя незаслужана забытага вучонага, прафесара электрагграфіі магнетызму, аднаго з самых яркіх прадстаўнікоў навуковай думкі дарэвалюцыйнай Беларусі Я. Наркевіча-Ёдкі (значная частка яго жыцця і дзейнасці прайшла ў маёнтку Наднёман на Уздзеншчыне).

Пяру У. Кісялёва належыць кніга "Наднёманскімі пуцявінамі", якая вытрымала некалькі выданняў і сёння з'яўляецца найбольш поўным зборам краязнаўчых матэрыялаў пра родны пісьменніку Уздзенскі край. Заслугоўваюць увагі і іншыя кнігі, публікацыі, доследы творцы.

У Кнігу славы Уздзеншчыны таксама занесеныя прозвішчы іншых людзей, якія пакінулі адметны след у гісторыі раёна — удзельніка Вялікай Айчыннай вайны Уладзіміра Парабковіча і былога першага сакратара райкама КПБ Фёдара Клюкача.

**Віктар САБАЛЕЎСКІ,**
**г. Узда**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2300 рублёў

Наклад — 2808
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 12.04.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1637
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686